**I**

Антона Васкевіча выганялі з інстытута ў канцы 1990 года, перад самая зімовай сесіяй.

Запрошаны, Васкевіч пасядзеў у прыёмнай рэктара хвілінак 10—15, потым з прыёмнай, не гледзячы на яго, выйшлі адзін за адным куратар групы, прафорг, парторг (? — не быў ніколі Васкевіч у партыі і быць не збіраўся), камсорг, камендант інтэрната, прарэктар па гаспадарчай частцы і апошняя, дэканша, таксама чамусьці адводзячы вочы, спынілася перад ім і строгім голасам аб'явіла, што з гэтага дня ён адлічаны з другога курса сталічнай ВНУ. Потым дэканша падрабязна і даходліва растлумачыла, як і што цяпер Васкевічу трэба рабіць, дзе браць абходны ліст, куды потым здаваць, як і калі выпісацца з інтэрната.

За два тыдні, пакуль Васкевіч збіраўся, афармляўся, выпісваўся, ён паспеў узненавідзець і гэты такі раней любімы, а цяпер чужы яму горад, і гэты інстытут, і ўсё на свеце... Толькі калі ўрэшце цягнік пакрысе адплыў ад вакзала ў зімовую цямрэчу і ў вагоне патухла святло, Васкевіч прывёў свае раскіданыя думкі ў сякі-такі парадак, супакоіўся і моцна заснуў на сваёй ніжняй паліцы. Усю ноч унізе, пад самым вухам, стукалі колы і закалыхвалі...

Правадніца разбудзіла яго перад самай станцыяй. Калі цягнік загайдала на стрэлках, Васкевіч зашпіліў на ўсе кнопкі куртку, насунуў на галаву чорную трусавую шапку і, стукаючыся аб лаўкі сваёй цяжэннай сумкай, выбраўся ў сцюдзёны, прапахлы вугалем тамбур. Праз заінелае бруднае акенца нічога нельга было разгледзець. Ён прыклаў да халоднага шкла палец, прагрэў кружок, і калі ў гэтым кружку марудна праплылі знаёмыя бярозы, драўляны будынак дзяжуркі, стуленая жанчынка ў пінжаку і ў фуражцы, з чырвоным флажком пад пахай, маленькі цагляны вакзал, калі цягнік спатыкнуўся, задрыжэў і стаў,— ён, не чакаючы правадніцы, адчыніў дзверы і, цягнучы за сабою сумку,

нязграбна саскочыў на мяккі снег платформы. Адразу ж агледзеўся — не, нікога, ён адзін выйшаў на гэтай станцыі. Уся платформа бялела роўным, без слядоў, снегам. У дзяжурку ўбягала стуленая жанчына, нават не зірнуўшы на адзінага пасажыра. Станцыя — гэтая дзяжурка, вакзал ды далей, за вакзалам, пад заснежаным лесам, некалькі цагляных аднапавярховых домікаў, з высокай трубой кацельні з краю — была бязлюдная.

Пачакаўшы, пакуль праедзе апошні вагон, Васкевіч ямчэй уладкаваў на плячы вузкі рэмень сумкі і, правальваючыся ў снег, задзіраючы, як бусел, ногі, пайшоў праз рэйкі на другі ад станцыі бок, дзе лесам вяла дарога на вёску. Тут, з насыпу, ён убачыў, што на сцежцы пры самым лесе стаіць чалавек, каля ног — саначкі, прытупвае і паглядае на яго, Васкевіча, нібы чакае яго.

— Цыган, цыган! — закрычаў раптам чалавек тонкім голасам. — Дай закурыць, дзядзька цыган! — і замахаў рукамі, пачаў прытанцоўваць каля санак.

Васкевіч адразу пазнаў яго. Гэта быў дурненькі з іхняй вёскі, якога дражнілі Пульс, або «малавумны», або «дзяціны бацька». Васкевіч злез з насыпу, пазтдароўкаўся і даў яму цыгарэту.

— Падвязеш сумку?

— Харашо... гх-кх... атлічно! — пачаў мітусіцца Пульс, адсунуў свой клунак — буханкі хлеба ў дзіравай хустцы, лёгка падняў і хутка ўвязаў у перадку Васкевічаву сумку. Робячы гэта, ён увесь час бубнеў сабе пад нос: — А я думаў, цыган ідзе. Я кажу. А ты на канікулы? Кх-гм... А ты на выхадной-ной?..

Пульс быў нізкі ростам, але дужы, шыракаплечы дзяцюк гадоў пад сорак, у злямчаным, выскубленым да дэрмаціну брудна-сінім футры дзіўнага крою — з гузікамI з левага боку, у салдацкай зімовай шапцы з апушчанымі вушамі без матузкоў; з-пад шапкі на лоб і на патыліцу звісалі сівыя патлы; на нагах — бабскія

шытыя валёнкі з падратымі галёшамі. Але румяны скуласты твар быў паголены, хоць і не зусім гладка, а з-пад сівых броваў весела і хітравата зіркалі жывыя паляшуцкія вочкі. Такім — у гэтым злямчаным футры, у салдацкай шапцы і ў гэтых валёнках — Васкевіч помніў яго і пятнаццаць гадоў назад, калі быў малы, а Пульс катаў яго на гэтых жа санках па замерзлай рэчцы, і дзесяць гадоў назад — калі яны, смаркачы-падлеткі, вучыліся курыць, а Пульс быў ім за настаўніка, і пяць гадоў — калі Васкевіч ішоў у армію і матка з Пульсам праводзілі яго да гэтай станцыі, і два гады назад — калі матка з тым жа Пульсам праводзілі яго ў Мінск, на вучобу... Зірнуўшы цяпер на гэтыя падратыя галёшы, Васкевіч успомніў гісторыю. Некалі Пульс працаваў тут жа, на станцыі, сезонным рабочым, і з першай палучкі, адразу пасля работы хлопцы заманілі яго ў горад, у рэстаран, дзе — за яго, вядома, грошы — самі пілі і яго паілі. Там іграла музыка, танцавалі, не вытрымаў і Пульс. Ён вухкаў, прыпяваў, танцаваў упрысядкі, пляскаў у ладкі... Галёшы паляцелі адзін пад эстраду, другі аж наверх, да музыкаў, і саліст аб'явіў у мікрафон: «Парень, заберите галоши!» Соль гісторыі была ў тым, што Пульса ўпершыню ў жыцці аб'явілі на ўсю залю па мікрафоне, што яго ўпершыню ў жыцці назвалі на «вы» і што словы «парень» і «галоши», вымаўленыя па-руску, стоячы побач, смешна гучалі.

Пульс любіў гаварыць і гаварыў многа, гучна, бязладна — як і цяпер, калі яшчэ здалёк пазнаў, вядома, Васкевіча, але абазваў яго чамусьці «дзядзькам цыганам». Калі гаварыў, сморкаўся, кашляў, паўтараўся, з рота, у якім не было пярэдняга зуба, ва ўсе бакі ляцела сліна, страшна моргаў на кожным слове, і звычайна Васкевіч, гледзячы на яго, слухаючы, таксама міжволі пачынаў моргаць — нібы глядзеў і размаўляў з чалавекам, які кляпае касу ці проста стукае малатком.

— Матка дома ці на рабоце? — спытаў Васкевіч, калі яны ўжо ўвайшлі ў лес: Пульс цягнуў саматужкі, а Васкевіч ступаў сабе збоку па старым следзе ад саней.

Пульс выплюнуў фільтр — усё, што асталося ад цыгарэты пасля некалькіх зацяжак — і адказаў так:

— Наверно... здаецца... мабуць... каэцца... уродзі бы... няма, наверно! Я йшоў, свет у акне не гарэў.

— А чаго ты крычаў, што я цыган? Цыганы ж чорныя, а я белы, бачыш? — і Васкевіч нават зняў шапку, правёў далоняй па сваіх светлых кароткіх валасах.

— Я знаю, белы, я падумаў — цыган! — апраўдваўся Пульс. — А ты на канікулы, кх-гх, нікулы?

— Ты пытаўся ўжо дзесяць разоў.

— Я помню, пытаўся!.. Кх-гм... А казалі выгналі цябе, казалі!

— Хто казаў?

— Матка твая ў магазіне! Усе кажуць! Што ты п'янстаў, кажуць!

Васкевіч не здзівіўся. Яшчэ месяцы тры назад, калі пад яго пачалі «капаць» і ўжо ясна стала, што ў інстытуце яму не ўтрымацца, ён паслаў матцы ліст, у якім пісаў, што ўсё ў яго добра, толькі вось магчыма «давядзецца хутка ўзяць акадэмічны адпачынак на паўгода ці на год». Але цяпер ён не здзівіўся: ён добра ведаў сваю матку, яе ўмельства чытаць між радкоў, ведаў сваю вёску, сваіх людзей. Успомнілася, як часта, перад тым як заснуць, у думках рыхтаваў сябе да гэтага прыезду, уяўляў гэтую дарогу ад станцыі — вось ён уступае ў вёску, ідзе па вуліцы з сумкаю, а вяскоўцы ўжо стаяць, паперавешваліся цераз платы, здароўкаюцца гучна, пераходзяць з вёдрамі яму дарогу, і кожны ўжо ведае, што яго выгналі за «п'янства». Успомніў, што нават знарок збіраўся прыехаць на ноч, каб нікога не спаткаць...

— А раскажы, як ты п'янстаў? — дапытваўся Пульс.

— Запомні: я пастрадаў не за п'янства, — смеючыся, адказаў Васкевіч, — а за «ідзею»!

— Надзею? Якую? Што пошту носіць? (Надзя, мясцовая паштальёнка, жыла нераспісаная з прымаком, якога дражнілі Рускі.) Я раз у магазіне ўзяў... цоп Надзею за ногу! Дай, пакажу як...

І ён хацеў паказаць гэта на Васкевічу, той, вядома, не даў.

— А ў цябе баба ёсць? — напаў на сваю любімую тэму Пульс. — А раскажы, як з бабамі спяць?

Ён зазіраў Антону ў твар, сагнуўшыся, аберуч цягнучы санкі, смяяўся, кашляў, моргаў, з-пад збітай набок шапкі яшчэ больш павылазіла сівых патлаў, і нават добра ведаючы яго, тут, на пустой дарозе, у ранішнім снежным глухім лесе адзін на адзін было з ім неяк не па сабе. Васкевіч, каб збіць яго з гэтай даволі небяспечнай — «бабскай» — тэмы, прапанаваў:

— Скажы бакенбарды.

— Ка-кен-кар-ты! — адразу ж, ахвотна, як умеў, паўтарыў Пульс. — А вазьмі мяне ў Мінск, Антон! Знойдзем там бабу...

Антон у яго гучала па-мясцоваму як Туон.

— Раскажы, як ты галёшы ў рэстаране згубіў.

— Загубіў, ёпа-маць, праўда...

— Было такое?

— Было, я кажу, я танцаваў-ваў... І ён сабраўся быў расказваць, але не выходзіла складна, і Васкевіч вымушаны быў памагаць яму, пытаўся:

«Ты рабіў тады на пуці?» — «На пуці- ці, праўда...» — адказваў Пульс і паўтараў гэта некалькі разоў, а Васкевіч тым часам мог глядзець па баках і думаць пра сваё.

Пішчаў снег пад палазкамі саматужак, рыпеў пад нагамі, абы-як расказваў пра свае галёшы Пульс,

цягнулася між заснежаных хвой і бяроз белая роўная дарога... Зараз яна раздзеліцца на дзве, потым зноў сыдзецца, а пасярэдзіне астануцца некалькі таўсматых, разголістых, прытуленых адна да адной хвояў... Пасля дарогу перасячэ паласа прасекі... Вось астравок з хвоямі, вось прасека. Васкевіч азіраўся па баках, дыхаў родным снежным лясным паветрам і ўспамінаў... Вось тут, на гэтай прасецы, калі яму было гадоў шэсць, яны са старэйшым братам Сцяпанам гатавалі дровы, у такую ж снежную зіму, — пайшлі з раніцы на ўвесь дзень. Брат падсякаў гонкія, адна.ў адну, хвойкі, валяў, церабіў, ён, малы, сцягваў у лаўжы галлё... Потым абедалі — разаслалі на тоўстым пні газету, елі мерзлае смачненнае сала, ад успаміну пра якое і цяпер бягуць слінкі, цыбулю, хлеб... Потым выйшаў з-за дрэў ляснік дзядзька Мікола, у кажусе, з двухстволкаю, стаў качаць абутымі ў вялізныя валёнкі-бахілы нагамі іхнія, ужо складзеныя ў штабель хвойкі і крычаць: «Страіцельны лес!», а ён, Антон, перапужаны, роў і хаваўся за брата, а брат, саромеючыся перад лесніком, чырванеў, аддзіраў яго ад сябе і біў па вушах рукавіцаю... Антон не ведаў, што брат папярэджаны і што матка паклала ім у сумку пляшку самагонкі; брат дастаў пляшку і даў лесніку, той адразу ж прыцішэў, схаваў яе ў кішэню кажуха і пайшоў, сказаў толькі, каб спалілі лаўжы і прысыпалі пні снегам.

Тут, каля гэтай пахіленай бярозы, дзе ўлетку заўсёды жоўты пясочак і верас, а цяпер — гурба снегу, Антон, калі яго праводзілі ў армію, знайшоў грыб, восеньскі, крамяны, з крэпкім коранем, які ледзь выдраўся з зямлі, — і аддаў Пульсу, што таксама тады праводзіў яго. І як потым у войску ўспаміналася гэтая дарога, бяроза, грыб, — здавалася, нават пах яго чуў — такі ж, якім пахла матчына сумка, калі маці даўно-даўно прыходзіла раніцамі з лесу, з грыбоў, а яны са Сцяпанам, зусім малыя, кідаліся да гэтай сумкі, выцягвалі грыбы, раскладвалі іх па росце на разасланым лайне[1] і нізалі на пруткі-нізкі...

Тут, дзе дарога пачынае спускацца трохі ўніз, перад балотцам, за якім апошняя паваротка на вёску, — тут

пры дарозе круглы бугор, бы нейкі пухір выперла з зямлі; тут, калі Васкевіч восеньскім вечарам ішоў на станцыю, каб ехаць у Мінск, на вучобу, Пульс, які і тады падносіў яму сумку, спатыкнуўся, упаў, гэтая ж салдацкая шапка закацілася некуды, яе доўга шукалі, ледзь не спазніліся...

— Помніш, як ты тут упаў? — паказаў на бугор Васкевіч.

— Помню, ёпа-маць, упаў! — вінавата абазваўся Пульс, але было відаць, што наўрад ці помніць — мала дзе на сваім вяку ён папападаў...

Скончыўся лес, і вачам адкрыўся знаёмы малюнак: дзесяткі два хат, паміж хатамі і лесам бялее снегам роўны выган, ля крайняй хаты замест плота пакінуты жывыя хвоі і проста да ствалоў прыбіты дрот... Але вось мінуўся выган, прайшлі паўз гэтыя бязладна раскіданыя «лясныя» хаты, Пульс усцягнуў санкі на вулічную дарогу, шырокую, пачышчаную бульдозерам, ад чаго па баках былі гурбы ледзь не ў чалавечы рост і толькі насупраць веснічак пракапаны былі хады, — пачалася вёска. Ісці трэба было яшчэ кіламетра з паўтара. Недзе калолі дровы, каля студні звінела вядро, пах дыму з комінаў плыў, мяшаўся з пахам свежага снегу... І ўсё адбылося амаль так, як і ўяўляў сабе і перажыў у думках Васкевіч: баба з вёдрамі перайшла ад калодзежа вуліцу і весела павіталася, паглядзела ім з Пульсам услед, Надзін-паштальёнчык прымак Рускі, які перакідваў шуфлем снег з двара на вуліцу, азваўся: «Чё, холостяк! Прибыл?», дзядзька Мікола-ляснік праехаў канём, у санях, і давялося даць яму дарогу, і яшчэ ў адным двары калолі дровы, а нехта проста так выйшаў і стаяў на вуліцы... Васкевічу здавалася, што столькі многа людзей круцяцца ў дварах і на вуліцы толькі таму, каб на яго паглядзець. Ды вось урэшце мост праз рачулку, за якой хата — маленькая, крытая шыферам, вокнамі на вуліцу... Дыму над комінам няма, веснічкі зашчэпленыя і сляды вядуць толькі на вуліцу.

Лайно — кавалак даматканага палатна (тут і далей — словы з мазырскага дыялекту.— Заўвага аўт.).

— Купі мне віна, — папрасіў Пульс, калі спыніліся ля хаты і Васкевіч стаў адвязваць сумку. Ён заўсёды прасіў аб гэтым на развітанне.

— Пазней, — адказаў Васкевіч, добра ведаючы, што нікуды сёння не пойдзе і ніякага віна купляць не збіраецца. — Можа, пад вечар сходзім у магазін.

— Добрэ, харашо, буду ждаць!..

## II

Кашляючы, Пульс маленькімі бабскімі крокамі пабег са сваімі санкамі далей па вуліцы — ён жыў праз тры хаты; а Васкевіч занёс на цэментавы абмецены ганак сумку, зайшоў за вугал, у дрывотню, пашарыў у вядзерцы пад застрэшшам. Завязаны ў анучку ключ ляжаў на месцы. Значыць, матка чакала яго. Што ж, яна прыйдзе толькі позна ўвечары, яшчэ цэлы дзень наперадзе, каб падрыхтавацца.

Двор быў увесь засыпаны снегам, толькі маленькая, у два сляды сцежачка вяла да свінушніка. Пачуўшы, што ходзяць па двары, падаў голас кабан, і куры пачалі ціха перагаворвацца ў сваёй загарадцы. Вось і работа: расчысці снег, пакармі курэй... Цяпер гэта ўсё тваё.

У хатах, і ў меншай і ў большай, ішла з рота пара, было яшчэ халадней, чым на вуліцы. Антон пачаў пераапранацца, разуўся — нават у тоўстых шкарпэтках, на палавіку, доўга няможна было стаяць. Холад ішоў ад падлогі, з усіх шчылін, а найбольш, здавалася, ад няпаленай грубкі. Дый то: гэтая палавіна вялікая, на чатыры акны, яна ж і спальня — два ложкі паўз глухую сцяну, яна ж і «гасцёўня», «заля», бо тут тры стулы, раскладная канапа і адзіная фанерная шафа, дзе ўвесь матчын скарб. З усіх чатырох акон таксама цягнула холадам, хоць і ўстаўлены падвойныя рамы, і вата паміж імі. Скачучы то на адной, то на другой назе, Антон надзеў спартыўныя байкавыя штаны, нацягнуў світэр,

яшчэ школьны, але зусім цэлы, з тоўстай воўны; толькі абуць не было чаго. Палез на печ, убачыў новыя бітыя валёнкі з галёшамі. «Гарадскую» куртку акуратна павесіў у шафу, туды ж склаў кашулі, світэры, пачысціў анучкаю чаравікі і запіхнуў пад ложак. Вось і ўся кансервацыя. Вяртанне да таго, з чаго выйшаў, адкуль так імкнуўся вырвацца.

«Нічога, не прападу!»

Стол у куце, абраз Святога Міколы, завешаны доўгай, да падлогі гардзінаю, тэлевізар, прыкрыты квятастым пакрывалам, збоку на стале — квадратнае люстэрка, абтырканае па краях віншавальнымі адкрыткамі... Васкевіч паглядзеўся ў яго, прычасаўся. Чорны світэр пасаваў да светлага твару, белых кароткіх валасоў. Васкевіч спадабаўся сабе — і знешне, і, галоўнае, сваім становішчам: што вось ён, «выгнаннік», «пакутнік за ідэю», сядзіць тут, у глухой вёсцы, няпаленай хаце, і наперадзе — пуста, ніякай пэўнасці. «Нічога, не прападу», — паўтарыў ён у думках камусьці, хто нібыта якраз дабіваўся і вось урэшце дабіўся, каб ён, Антон Васкевіч, прыехаў у глухамань, абуўся ў бітыя валёнкі і згінуў тут назаўсёды без следу.

Перш-наперш прынёс добры абярэмак дроў, навыбіраўшы сухіх, адных бярозавых, запаліў у грубцы. Ведаючы, куды едзе, што маткі можа не аказацца дома, ён яшчэ ў Мінску, у вакзальным буфеце купіў некалькі бутэрбродаў з сасіскамі і кавы ў пакеціках; цяпер перакусіў, зрабіў гарачай кавы, сеў на ўслончык перад грубкаю, закурыў і стаў глядзець на агонь. Спакой, расслабленасць, утульнасць пакрысе разліваліся па целе — разам з кожным глытком духмянай салодкай кавы, з кожнай зацяжкаю, — і думкі рабіліся нейкія млявыя, расслабленыя, нават не думкі, а адна думка, якую яму асабліва падабалася пракручваць: «Вы яшчэ пашкадуеце, будзеце прасіць... А цяпер — наце, як вы хацелі, так і раблю...»

Адпачыўшы, сагрэўшыся, пайшоў расчысціў ад снегу двор, вывеў шырокую сцежку ад веснічак да вуліцы («жэрдкі пагнілі ў плоце, схадзіць заўтра ў лес,

прыцягчы новыя, замяніць — вось і занятак»). Выкаціў з дрывотні калодку, нашчапаў з маленькага смалістага кругляка лучыны («і лучыны ўжо няма, у лесе можна насекчы — вось і работа»). Калі пачалі брацца прыцемкі і куры палезлі на седала, закрываючы куратнік, агледзеў сцены («Сцены дзіравыя, трэба будзе абабіць дошчачкамі...»). Другі раз запаліў у грубе, налупіў чыгунчык бульбы, паставіў варыцца; тэлевізар уключыў...

Сцямнела.

І чым бліжэй надыходзіў час, калі павінна была прыйсці маці, тым больш яму зноў пачынала рабіцца неспакойна. Ён тупаў з большай хаты ў меншую, назад, адным вухам лавіў песню з тэлевізара, другім прыслухоўваўся, ці не рыпнулі веснічкі. Самае цяжкае, непрыемнае павінна зараз пачацца... Вядома, скорая сустрэча з маткаю і свае словы падчас гэтай сустрэчы былі ім прадуманы і падрыхтаваны даўно, але цяпер усё неяк рассыпалася, забывалася... Па-першае, што скажа сама маці? Добры дзень, сынок, дзякуй, што прыехаў? Не, не скажа такога... Уся вёска, нават Пульс, ведае, што прыехаў ён не на канікулы і не ў акадэмічны адпачынак, а выгнаны «за п'янства»!

Штораз ён выходзіў на двор, прыслухоўваўся. Ціха, толькі сабака недзе цяўкае, ды дымкамі пацягвае, ды неба свеціцца чырвоным далёка-далёка за лесам, у тым баку, дзе станцыя і горад, адкуль павінна ісці матка... Але вось рып снегу. Нейкім пачуццём Антон зразумеў, што ўсё, дачакаўся, вярнуўся ў хату, сеў перад грубкаю, дзе малінавыя вуголлі пераліваліся сінім, атухалі, паправіў чыгунчык з прыгарэлай ужо зверху бульбай. Скрыпнулі веснічкі, гупнула нешта на ганку — відаць, маці паставіла сумку з хлебам, купленым на станцыі, — пайшла не ў хату, а некуды: правяраць курэй, кабана, гаспадарку... Яго пабачыць не спяшаецца, што ж, нежаданы госць. Урэшце зноў крокі, бразнула клямка ў хату.

— Фу, дыхаць няма чым. Чаго ты так напаліў? «Вось табе і добры дзень, сынку!»

— Напаліў, бо холад быў сабачы. А ты ўсё дроў шкадуеш?

— Шкадую, яшчэ ўся зіма наперадзе!.. Не скідаючы паліта, хусткі, прайшла да стала, бухнула на падлогу сумку з хлебам, адкрыла тумбачку, убачыла бутэрброды, узяла сасіску, з'ела стоячы.

## III

Васкевіч не бачыў маці з самага верасня. Божа, як яна за гэтыя месяцы пастарэла! Як паменела ростам!..

Скінула хустку, толькі цяпер абабіла каля парога мокрыя ад расталага снегу боцікі, зняла жоўтае асенняе паліто з жорсткім каўнерыкам, падоранае ёй некалі нявесткаю, якое маці апранала толькі ў «людзі» — едучы ў горад або, як цяпер, ходзячы на сваю работу. Яна працавала прыбіральшчыцаю на заводзіку пад горадам, радая была, што ўжо на пенсіі, а яе цэняць і не «сакрашчаюць», што хоць і капейкі плоцяць, затое работа лёгкая, усяго чатыры гадзіны ў змену, якія адрабі — і два дні дома. Антон ведаў, што, каб адрабіць гэтыя «лёгкія» гадзіны, яна падымаецца ў паўпятай раніцы, корміць гаспадарку, пораецца[2], у палавіне шостай выходзіць і праз лес, якім яны сёння ішлі з Пульсам, спяшаецца на станцыю, адтуль дызелем едзе ў горад, з горада зноў, ужо рабочым аўтобусам, дабіраецца да заводзіка к васьмі нуль-нуль раніцы. Такім жа шляхам вяртаецца назад, у вёску.

А як яна пасівела, як зморшчыўся, пацямнеў твар!.. Ну, на пенсіі, ну, цяжкая вясковая доля, — але ж, урэшце, беларускія бабы жывуць даўжэй за ўсіх на свеце, не ў пяцьдзесят жа пяць гадоў так старэць... Гэта была тая самая жанчына, маладая, прыгожая, стройна-тоненькая, у вышываным сарафане, якая ішла калісь з ім, малым Антонам, — вярталіся з далёкіх сотак... Лета, ён бегае па поплаве, стракатым ад розных кветак, ірве іх... Потым напіліся вады з крыніцы, і маці смяялася,

што ён баіцца падыходзіць блізка, бо бераг дрыгвісты, не хоча нават глянуць, як вада сама высочваецца прама з зямлі... Як яна потым заспявала — радасна, галасіста, на ўвесь луг, нешта палескае, бо яна чыстая паляшучка, з Турава родам, смуглявая, скуластая, яе і дражняць у вёсцы Тураўкай...

Седзячы цяпер на ўслончыку, пазіраючы на гэтае жоўтае матчына паліто, на самую маці, Антон адчуў, як у сярэдзіне ў ім нешта вось-вось збіраецца абарвацца, а вочы пачынае шчыпаць. Адкуль узялася, ад чаго гэтая віна перад ёю?! Што цяпер яна ўжо не спявае? Што не можа ён вярнуць яе ў той летні дзень, калі пчолы гудзелі на красках, і ліплі да пальцаў смолкі, і песня плыла над рэчкаю, лугам, аддавалася ў лесе?..

Вось што цяпер яму казаць? Што выгналі мяне, але нічога страшнага, галоўнае, я люблю цябе, шкадую, буду слухацца, памагаць? Ды не трэба ёй ніякай помачы! Гэтая праца — адзінае, што ў яе асталося. Яна прывыкла жыць адна, есці абы-як, мала, не паліць у грубе, шкадуючы дроў, мерзці вечна, — але яна шчаслівая, бо жыве не для сябе, ведае: адзін, старэйшы сын — у блізкім горадзе, сямейны, другі вучыцца ў Мінску, гэта для іх ёй трэба недаядаць, недасыпаць... І вось заяўляецца ён, каб памагаць ёй — адбіраць занятак, які для яе само існаванне.

Гэты момант, калі Антон ледзь не заплакаў ад жалю, гледзячы на матку і яе жоўтае асенняе халоднае паліто, ясна паказаў яму: калі ён сапраўды так моцна любіць і шкадуе яе, лепш за ўсё яму не паказваць гэтага. Трэба быць або строга ўпэўненым, або насмешлівым, як з Пульсам у лесе, трэба казаць і рабіць выгляд, што яму на ўсё напляваць, у жыцці бывае не такое, ён, урэшце, жывы-здаровы, малады, і не прападзе. Расслабляцца не трэба было.

Ён сказаў:

— Сядзь ты за стол ды паеж па-людску. Зараз картоплі зварацца.

— Я не хачу, — але паслухалася, села, падперла рукою галаву, гледзячы на яго. — Ну, выгналі? Дапіўся? Ай-яй...

— Ніхто мяне не выганяў. Я заваліў экзамены і ўзяў... на год ці на паўгода акадэмічны водпуск.

— Не брашы, сынок, ты два гады вучыўся на круглыя пяць.

— Скажы лепш, — схамянуўся ён, — чаму ты раструбіла па ўсёй вёсцы, што мяне выгналі за п'янку?

— Я раструбіла?! Я маўчала, як тая рыба ў пельцы! Гэта ж тая, на пошце, прачытала тваё пісьмо! (Маці мела зуб на Надзю-паштальёнку, некалі сама хацела прыстроіцца насіць газеты, але ўзялі Надзю як больш «граматную».)

— Як прачытала? Чужы ліст?

— Так, разадрала канверт і прачытала! Яна што хочаш можа! І пісьмы чужыя чытае, і што хочаш... Пабач на сам, — маці дастала з шуфлядкі тумбачкі пісьмо, падала.

Праўда, добра было відаць, як няўмела, грубавата падклейваўся ў другі раз верх канверта. Васкевіч пакруціў канверт у руках — «А раптам гэта не Надзя?» — падумаў ён і знаёмы з Мінска халадок варухнуўся ў грудзях, каля сэрца.

— А я ўжо як пабачыла, — казала далей маці, — што яе рук гэта не мінула, тады ўжо і я ў магазіне — як то сказаць, прабалтала, што, можа, Антон мой хутка прыедзе. Што, можа, ён там у Мінску трохі выпівае. А так — я ж маўчала, як рыба!

Антон абгарнуў ручнікам чыгунчык, сцадзіў у вядро, паклаў у талерку некалькі гарачых бульбін, падсунуў да маткі. Але тая не стала есці, усхапілася, выцягнула з печы вялізны чыгун са «свінячай» ежаю, у вядро з адцэджанай вадою сыпнула мукі, укінула паўкулідкі хлеба, пачала мяшаць рукою...

— І што ты думаеш рабіць цяпер? Адзін, як гаворыцца, на ўсе дзярэўні?

— Нічога... жыць.

— Ну жыві. Ідзі ў які калхоз, калі шчэ возьмуць, ды сядзі тут з маткаю... Будзеце піць з Пульсам, бо той тожэ адзін сядзіць, дык той дурны, а ты ж разумны...

Панесла вядро на двор, а Васкевіч зноў прысеў перад грубкаю, у якой даўно ўжо ўсё патухла, і паўтараў сам сабе, бы зацыклены: «Не Надзя, гэта не Надзя...»

Вяртаючыся, маці заскочыла ў поргаб[3], прынесла ў хату кош, выставіла з яго слоік гуркоў, слоік памідораў, слоік белых марынаваных грыбкоў, міску квашанай капусты, пабегла ў калідор, падсмажыла хутка на газе мяса з яечняю — застаўлены аказаўся ўвесь стол. Паелі моўчкі. Раней, калі Антон прыязджаў з Мінска, заўсёды пытала, ці не вып'е, і калі згаджаўся, ставіла пляшку куплёнай гарэлкі — цяпер нават не папыталася. Хутка Антон падзякаваў, выбраўся з-за стала, накінуў на плечы кухвайку, выйшаў на двор пакурыць. Марозу амаль не было, ледзь-ледзь мігцелі над галавой слабыя зоры. Усё навокал цёмнае, чорнае — нават плот і дрывотня здаюцца нечым чужым, фантастычным... Моцна пахла начным адліжным снегам, і проста рука не паднялася закурыць, перабіваць гэты пах. «Нічога, цяпер усё ясна. Чысты перад Богам і людзьмі».

Спаць ляглі рана. Ціха ішоў тэлевізар. Антон пачаў быў ужо засынаць, як зусім бяссонным голасам азвалася маці:

— Нашто ты піў?

— Мама, я не піў. Гэта доўга расказваць. Мяне выгналі за тое, што я гаварыў так, як вы. Як у вёсцы гавораць. Па-беларуску.

— Не брашы. За гэтае нікога не выганяюць!

— Мяне ж выгналі.

— А яшчэ каго? — з надзеяй спытала маці.

— Нікога больш.

— Хіба ты адзін так гаварыў?

— Чалавек дзесяць.

— А цябе аднаго выгналі? Чаму?

«Хацеў бы я гэта і сам ведаць...» Антону раптам падалося, што маці разумее нашмат больш, чым яму здаецца — можа, ва ўсялякім разе, зразумець — і зноў пяшчота і шкадаванне да яе заварушыліся ў ім, але зноў ясна было, што калі пачаць гаварыць з ёю інакш, чым ён цяпер, больш лагодна, пачаць суцяшаць — яна толькі спалохаецца, адчуўшы нешта няладнае. «Ах, дурань! — запозна падумаў ён. — Трэба было не апраўдвацца, казаць, што выгналі за п'янку, тады б і ёй, і ўсім усё было б зразумела!»

— Валера ж вунь не выганяюць... — нібы сама сабе расказвала маці, — вучыцца хлопчык цішком-нішком, з такой жа беднай, як гаворыцца, сям'і (Валер, сын Надзі-паштальёнкі, Антонаў аднакласнік, таксама вучыўся цяпер у Мінску, у радыётэхнічным), жаніцца, тая хвалілася ў магазіне, скора будзе... Адзін ты!..

— Нашто ты так гаварыў? — спытала зноў у Антона. — Хіба ты не ўмеў, як трэба? Ты ж разумны, у варміі служыў...

— Мама, я хацеў гаварыць так, як ты мяне з малых гадоў вучыла, як мяне ў школе вучылі, як у нас усе гавораць! Вы такія ж людзі, як і тыя, што жывуць у горадзе, у вас такія ж галовы і такая ж культурная мова... ну, язык, як і ва ўсіх...

— Г...о ў нас, а не язык! У адной дзярэўні так скажуць, у нашай — яшчэ інакш, а выходзіць ні па-польску, ні па-конску...

Памаўчалі.

— Вунь паслухай, у целявізары гавораць па-беларускаму... Антон! Чаму іх не выганяюць?

«А чорт іх знае!» — хацеў адказаць Антон, але сказаў другое:

— Гэта ж дыктары, гэта работа іхняя, а на вуліцы яны па-руску чёкаюць, як Надзін прымак.

— І ты б на вуліцы гаварыў па-рускі... А пісацелі? Пісацелі ж пішуць, і гавораць, і ў радзьве — хіба іх хто чапае?

— Не ведаю.

Зноў пачаў засынаць Антон, і зноў адазвалася матка:

— Яшчэ ў якую цюрму забяруць. «Да — вось, здавалася б, самае дзікае глупства, бязглуздзіца: за тое, што гаварыў па-беларуску ў Беларусі, адлічваюць з інстытута, родная матка, вяскоўцы замест таго, каб ганарыцца, што хоць адзін знайшоўся, які любіць іх, іхнюю мову, звычкі — замест гэтага дапускаюць, што кара яшчэ замалая, што не будзе вялікага дзіва, калі яго яшчэ ўпякуць у турму! Як усё ж умее думаць вясковы практычны мозг!.. Самае цікавае, што мала памыляюцца...»

Але ў самога Васкевіча мозг болей думаць не хацеў, дужа мякка і цёпла было ляжаць. Матка яшчэ нешта пыталася, гаварыла, але ён больш не слухаў, не адказваў — перастаў змагацца са сном, і салодкія хвалі закружылі яго, загайдалі, у вушах пачуўся перастук вагонных колаў, запішчаў снег пад Пульсавымі саначкамі... Так моцна і соладка, як у гэтую ноч, Васкевіч даўно ўжо не спаў.

## IV

За акном трошкі развіднела. У хаце было ціха. Маці зноў пайшла на працу, яна падмяняла гэты месяц сваю

хворую зменшчыцу.

Васкевіч ляжаў, круціўся пад цёплай коўдраю, не жадаючы расставацца з лёгкай, ціхай прыемнасцю ад здаровага сну, ад родных сцен, ад таго, што ён адзін у хаце. Ён палюбіў быць адзін раніцамі яшчэ з дзяцінства, калі неяк, таксама зімою, моцна захварэў на вятранку і два тыдні сядзеў дома. Брат сыходзіў у школу, маці — у саўгас, а ён уключаў святло, бо за акном стаялі такія ж, як цяпер, прыцемкі, браў у ложак міску сухіх гарбузовых зярнят, кніжку — Мележа ці Васілевіч «Пачакай, затрымайся...» — і за некалькі гадзін пераўжываў некалькі чужых жыццяў, такіх яркіх, цікавых, і разам з тым такіх блізкіх і падобных на сваё будучае жыццё... У Мележа Васіль абдымаў Ганну, а ён, чытаючы, думаў пра сваю новую маладую настаўніцу батанікі і ўяўляў, як ён вырасце і таксама будзе абдымаць дзяўчыну, падобную да гэтай настаўніцы. У кніжцы смалілі вепрука, а ён думаў, што і яны скора будуць біць кабана, а ён, Антон, залезе на печ, будзе пазіраць, як дзядзька Мікола-ляснік пакладзе на лаўку свой штык-нож, скіне шапку, перахрысціцца на пусты кут (абраз Міколы ў большай хаце), потым сядуць з братам за стол, вып'юць, матка будзе круціцца каля стала і прытворна дзякаваць, увесь час крадком пазіраючы на пляшку, ці не многа выпілі... А ён, глытаючы слінкі, адчуваючы страшны, да моташнасці голад, будзе пазіраць з печы, і вось урэшце матка падасць яму місачку свежаніны з лустай хлеба, шкваркі — каторая перасмажаная, аж чорная, каторая ледзь пажаўцелая, з белым салам, але ўсе да таго смачныя, што нават шкада глытаць іх, хочацца даўжэй патрымаць у роце, ды не слухаюцца і, неразжованыя, неяк самі пракоўтваюцца...

Тэлевізара тады не было. Антон вылазіў з-пад коўдры, бег па халоднай падлозе, уключаў радыё, стрымгалоў ляцеў назад і, лежачы, слухаў, як галасы з зусім іншага свету напаўняюць хату нейкай урачыстасцю, адчуваннем свята, быццам усё гэта для аднаго яго, хворага Антона...

Нешта падобнае ён адчуваў і цяпер. Лёгка, прыемна, радасна было ляжаць пад коўдрай аднаму ў хаце, глядзець у акно на ранішні прыцемак, але і ўставаць было радасна, бо чакала праца, якую Васкевіч умеў і любіў рабіць. Галоўнае, сам сабе гаспадар, ніхто не будзе камандаваць: як зробіш, так і добра.

Маці, падняўшыся ў чатыры гадзіны, паспела выпаліць у печы. На прыпечку стаяла патэльня смажанага мяса, падагрэтая ўчарашняя бульба. Васкевіч добра пад'еў — у Мінску забыў, калі ўвогуле апошні раз еў раніцай, — выйшаў на двор. Мароз яшчэ больш адлёг, усё было ў тумане. Дыхалася лёгка і здорава, як у дзяцінстве, ды ўсё вакол і было дзяцінствам: і гэтая сцяна хаты, і плот, і хлеў, і ледзь бачныя ў тумане абрысы блізкага лесу... А як добра само па сабе, смачна пад'еўшы! І гэтыя штаны байкавыя, валёнкі, кухвайка — цёпла, зручна...

Ён залез на гарышча, скінуў вялікія санкі, пацягаў іх трохі па снезе, каб адцерці з палазоў, у дрывотні знайшоў кавалак новай аборкі, падперазаўся і засунуў пад аборку сякеру. «Паглядзелі б цяпер на мяне хто з Мінску... — падумаў ён, ідучы агародамі па рыхлым снезе да пахмурнага лесу. — А можа, сапраўды, гэтая кухвайка і сякера за поясам якраз і ёсць маё, і не варта было рыпацца, шукаць нечага іншага...»

Ён з самага ранку настроіўся не спяшацца, як не спяшаецца звычайна ніколі сапраўдны вясковы мужык. У лесе кінуў на сцежцы санкі, доўга хадзіў, выбіраў раўнейшую, даўжэйшую хвойку. Усё былі роўныя і доўгія, і раслі пры самай дарозе. Прайшоў далей у лес — яшчэ лепшыя. Успомніў, што збіраўся насекчы лучыны, вярнуўся назад да дарогі — вось, тоўстая, камлюкаватая насечаная хвоя, насечку нядаўна нехта паліў і ўвесь камель аж да галін чорны.

Антон пасядзеў на санках, пакурыў. Усё пад бокам, думаў ён, — хочаш, хвойкі на жэрдкі, лучына, а летам тут жа, дзесяць мінут ходу, грыб, ягада, а вясною хочаш, прыходзь стаў[4] сок — вунь тры таўсценныя бярозы на пагорку... Папляваўшы для большай спаважнасці на далоні, насек лучыны — смачна

хэкаючы, адчуваючы, як слухаюцца рукі, глыбокія і ладныя робяцца падсечкі і злупліваецца зверху вялікі, з аднаго боку гарэлы, з другога — жоўта-смалісты пахучы пласт... А некалі брат рубаў, а ён стаяў воддаль, каб не агрэла трэскаю, пазіраў з зайздрасцю... Склаў пласты каля санак, зноў трохі пахадзіў па лесе, нагледзеў урэшце дзве хвойкі, адна каля адной, абтупаў снег каля камлёў, каб ссячы пры самай зямлі; пагаварыў з імі ў думках, папрасіў прабачэння, што сабраўся іх забіваць — як рабіў у дзяцінстве, калі ўсё вакол здавалася жывым, разумным, і ён гаварыў і з катом, і з рэчкай, у якой купаўся, і з морквай, якую грыз, — так і цяпер: пагаварыў: «Вядома, вам тут лепш... І гэтыя бярозы будуць па вас сумаваць, і гэты дубок, які, нябось, ужо заглядаўся на вас, гадаў, каторую ўзяць у жонкі... Але што зробіш? Будзеце вісець у плоце прыбітымі да шулаў, вуліцу паглядзіце, людзей, машыны, кот па вас будзе бегаць. Тут, у лесе, магла б бура зваліць, ці самі па сабе састарэлі б, згнілі б — і ўсё; а ў плоце паслужыце, спарахнееце, парэжуць вас на дровы, спаляць, і паляціце дымам над гэтым лесам, над Беларуссю, свету пабачыце...»

— Селянін за гэты час высек бы і абчасаў даўно! — схамянуўшыся, сказаў сабе Васкевіч.

Але настрой гэты — «здзяцінелы», узнёслы — не пакідаў яго, пакуль высякаў, цягаў па адной хвойцы, прывязваючы камель да санак, а доўгі хвост валачыўся па снезе і спружыніў на буграх і ямах, пакуль абчэсваў, здымаў кару... Раскідаў старое прасла — амаль усе дошкі пагнілі там, дзе былі прыбітыя цвікамі, парасколваў гэтыя дошкі напал, і ўсё пайшло ў дзела. Хутка навенькае прасла жаўцела сваімі новымі жэрдкамі, адыходзіць не хацелася... Насек са смалістых пластоў поўны вялікі кош лучыны, а рукі ўсё не ўнімаліся, яшчэ прасілі работы. Падмёў хату, вытрас палавікі, гадзіны ў чатыры, калі ўжо змяркалася, запаліў у грубцы. На гэты раз не паспелі яшчэ як след разгарэцца дровы, як на двары пачуўся тупат, і зайшла маці з братам Сцяпанам. Маці, відаць, адпрасілася раней, заехала ў горадзе да Сцяпана, і вось, прыбылі,

вырашаць Антонаў далейшы лёс. Маці была зусім іншая, чым учора, — ці проста выгаварылася дарогай Сцяпану, ці паспела ўжо ўбачыць і новыя жэрдкі, і кош лучыны, і што ў хаце чыста.

— Ну, як ты тут, сынок? — спытала і хутчэй кінулася збіраць на стол. На гэты раз знайшлася і пляшка.

Сама за стол не села, прыткнулася на ўслончыку каля печы.

— Вот, Сцёпа, вот куды яму дзецца? — спытала маці, калі браты выпілі і Сцяпан цягнуў з міскі поўную лыжку тугіх, слізкіх у алеі грыбкоў; па яе інтанацыі можна было здагадацца, што за сённяшні дзень яна задае гэтае пытанне не ў першы раз.

— Ён жа не малое дзіця, — асцярожна адказаў Сцяпан, жуючы грыбкі, пазіраючы на брата спагадлівымі вачыма з-пад чорных густых броваў.

— З Менска я выпісаны поўнасцю, і што рабіць, пакуль не знаю, — шчыра сказаў Антон. — Можа, у горадзе можна будзе як прыляпіцца?

— І не думай! — ускрыкнула матка. Відаць, і пра гэта яны са Сцяпанам ужо гаварылі.

— Горад... — Сцяпан фыркнуў насмешліва. — Добра, калі б быў горад!.. Гэта табе не Мінск, ці, як ты кажаш, Менск. Ды гэта вялікае балота, большая глуш за нашую вёску, за любы хутар! Абшчагі, заводы, бруд, аўтобусы ходзяць абы-як, у выхадныя да цэнтра няможна дабрацца, а калі і дабярэшся, дык што? Што ў нас за цэнтр? Два кінатэатры? Поўна нейкіх зэкаў, хімікаў[5], страшна па вуліцы прайсці... Зацемна еду на работу, зацемна вяртаюся, замыкаемся і глядзім тэлевізар — вось мне і ўвесь горад... Але хоць дзякую Богу, што вырваўся з той абшчагі рабочай, хоць гэтую маласямейку далі, а то ж страшна ўспомніць... П'янкі, бойкі, дзверы трашчаць, вады вечна няма, на кухнях нагаджана, пліты паламаныя, у душ пасля работы не сходзіш, калі і вада ёсць, бо баішся схапіць якой

каросты ці грыбок!.. Наш горад!..

## V

Антон лічыў старэйшага на шэсць гадоў брата лепшым сваім сябрам, самым блізкім па духу чалавекам. Яны перапісваліся ўжо гадоў з дзесяць — з тых часоў, калі Сцяпан пайшоў у армію, астаўся там «макароннікам» — звыштэрмінова, — ажаніўся, потым вярнуўся, але ўжо Антону настаў час служыць... Бачыліся яны мала і рэдка, таму толькі ў пісьмах і маглі спавядацца, раскрываць адзін аднаму душу.

Яны былі не падобныя. Сцяпан — вышэйшы ростам, плячысты, па-паляшуцку марудлівы ў рухах і словах, з грубымі, моцнымі рукамі — адразу было відаць, што чалавек працуе фізічна, многа і нялёгка працуе. У адрозненне ад бялявага Антона, які пайшоў трохі ў бацьку-нябожчыка, трохі ў светла-русага дзеда Антона, Сцяпан быў увесь у матку: зусім чорны, скуласты, з паляшуцкімі глыбокімі чорнымі вочкамі. Перад тым, як Антону ісці ў армію, яны сфатаграфаваліся — чорны Сцяпан і белы, з доўгімі патламі, у белай куртцы Антон — і ў Сцяпана потым пыталі, ці не сястра гэта яго? Сапраўды, Антон перад войскам упершыню згаліў пушок са шчок і пад носам і быў падобны на дзяўчыну.

Раней, у дзяцінстве, у школьныя гады Сцяпан, як і належыць старэйшаму, быў ва ўсім галоўны, завадатар. Антон слухаўся яго і пабойваўся, бо брат, калі што не па ім, цырымоніцца не любіў, часцяком пападала Антону і па вушах, і асабліва па тым месцы, з якога ногі растуць. Потым, калі Сцяпан, ужо жанаты, жыў у горадзе, а Антон, адслужыўшы, вучыўся ў Мінску, неяк ролі памяняліся, неяк патроху-патроху ўжо ён, Антон, пачаў выходзіць у «камандзіры», а брат слухаў яго і верыў... Сцяпан не здзівіўся, калі аднойчы атрымаў ад брата ліст, напісаны па-беларуску, ліст блытаны, з клічнікамі, з намаляваным унізе бел-чырвона-белым сцяжком, з выразкамі з нейкіх газетак... Антон пісаў, што цяпер у

Мінску многа такіх, як ён, што ён раней быў сляпы, а цяпер нібы наноў нарадзіўся на свет. «Успомні, — пісаў Антон, — як у нас заўсёды, з малых гадоў жыло адчуванне, што мы — беларусы, чорт вазьмі! І самі павінны гаспадарыць на нашай зямлі! Успомні, як мы чыталі «Векапомныя дні» Лынькова, Паслядовіча — мы ж чыталі наадварот, між радкоў вышуквалі, што за «нацыяналісты»? Дзе яны цяпер? Чаго яны хацелі? Чаму іх з такой нянавісцю, пагардай, сатыраю апісваюць Лынькоў, Паслядовіч і іншыя?»

Гэта была праўда. Сцяпан адразу ж адпісаў таксама па-беларуску, паведамляў, што ён ужо аднёс на працу і раздаў рабочым выразкі з газетак, паказаў там, які сапраўдны беларускі сцяг (забягаючы наперад, скажам, што яму гэта бокам вылезла).

— Ты збіраешся... калі-небудзь вярнуцца зноў у Мінск? — спытаў Сцяпан. Ён рабіў з хлебнага мякіша шарыкі і еў іх.

— Як табе сказаць... — Антон задумаўся. — Вядома, збіраюся. Тут да смерці сядзець не буду.

— Едзь, а цябе зноў выжануць! — уставіла маці.

— Мы, пакуль ішлі, гаварылі з маткаю... Антон, ты ж не адзін такі быў? Я ніколі не паверу, што ты быў нейкі галоўны там... А выгналі цябе. Няважна, за п'янку ці за што — проста ты падлез пад гарачую руку... Шэнціць перастала. Пайшла нейкая чорная паласа, бываюць такія палосы... Трэба пераждаць яе, перасядзець, і ўсё наладзіцца.

— Гэта я і сам ведаю. Але дзе перасядзець?

— Тут. У маткі. Я табе параю: ідзі заўтра ж у сельсавет, прапісвайся і жыві.

— Ды я і сам так хацеў бы! — Антона ад гарэлкі, а яшчэ больш ад гэтай спакойнай мужчынскай гаворкі пацягнула на шчырасць, якой ён з маці не мог дапусціць. — Сёння вось у лес схадзіў, жэрдак прывёз...

— ён хацеў расказаць, як адчуваў сябе селянінам і як гэта добра было, але пры матцы не стаў: — Але кожны ж дзень не будзеш ездзіць па жэрдкі! А чым заняцца? А жыць за што? Цыгарэт купіць, кашулю якую новую, шкарпэткі... А на матчынай шыі я сядзець не хачу.

— Я магу чым памагаць, — сказаў Сцяпан не вельмі ўпэўнена.

— Ты сваю сям'ю глядзі, а не памагаць! — зноў умяшалася маці; аднак ёй, відаць, спадабалася, што Антон не хоча «сядзець на яе шыі». — Хай жыве! А я на што? У мяне ж і пенсія, і палучка! Матка ж на тое і матка, каб памагаць!.. Сала вунь поўны кубел, вунь кабан на паўхлява, к Калядам зарэжам, на той год два купім, картопляў поўна, гуркі, капуста... Адно, што хлеб, ды муку, ды крупы трэба купляць... Але не пі, не куры — і пражывеш, прыпяваючы!.. Матка ж цябе выганяць не будзе, раз прыехаў!..

Наеліся, дапілі гарэлку, сабраліся на двор пакурыць, але на двары за дзень так усё растала, што аж з даху капала, таму селі ў сенцах на лаве пры ўваходзе, закурылі.

— Скажы, Антон, — спытаўся брат, стараючыся сваімі кароткімі тоўстымі пазногцямі расшчапіць запалку; не змог, абкусаў яе і стаў калупацца ў зубе. — Скажы: вось я гляджу тэлевізар, радыё слухаю, газеткі вашыя чытаў... Вас жа, такіх, як ты, многа... Як магло здарыцца, што цябе турнулі? Што цябе не змаглі абараніць, адстаяць? Вы ўсё ж студэнты, разумныя — ды аб'явілі б галадоўку, забастоўку, сабралі б мітынг, напісалі б у газеты!.. Там усё ж Мінск, не нашае балота!

— Хочаш, я табе зараз пакажу свой «воўчы білет»? Альбо працоўную кніжку? Там жа не напісана «исключен за политическую неблагонадежность» ці за «национализм», а за «неоднократное нарушение правил соцобщежития, появление в пьяном виде, распитие в комнате спиртных напитков...» Якая галадоўка!.. Пратэстуем супраць выгнання за п'янства?! Ды я ж пісаў табе.

— Я першы раз чую пра ўсё гэта. — Не можа быць! — уразіўся Антон. — Я пісаў табе вялікае пісьмо, перад Новым годам!

— Першы раз чую, — паўтарыў брат. — Апошні твой ліст быў перад «акцябрскімі», кароткі — усё добра, вучуся... Потым ужо матка пазваніла з работы, сказала, што ты напісаў ёй нешта пра акадэмічны водпуск і хутчэй за ўсё цябе выганяць. Я толькі здагадваўся, што нешта здарылася.

Антон усё не мог прыйсці ў сябе. Вось так так! Адно пісьмо невядома кім і навошта прачытанае, другое ўвогуле не дайшло... Брат паклаў яму на плячо цяжкую руку, сказаў ціха:

— Пры матцы не хацеў гаварыць... У мяне таксама гісторыя. Перад Новым годам вызывае мяне з бытоўкі брыгадзір — зэк, нахабны, тупое рыла — і расказвае, што ў дырэктара была нарада, дзе адзін «весь в коже» — у скура.ной куртцы — ціхенька сядзеў у кутку, а потым падышоў да яго, брыгадзіра, і сказаў: «Перадай Васкевічу, што калі ён не хоча згніць у сваёй маласямейцы, калі хоча атрымаць нармальную кватэру, хай менш торкаецца са сваімі газеткамі і менш ляпае языком. А з тым мінскім братцам мы яшчэ разбярэмся!».

Антон не верыў сваім вушам. Ён забыўся на цыгарэту, і яна сама дагарэла, прыкурыў другую ад фільтра.

— Галоўнае, не мне сказалі, а гэтаму недапечанаму зэку, які двух слоў звязаць не можа, тупы, як гэты стол! — Сцяпан пастукаў па стале тоўстым пальцам. — Гэта праз яго я павінен даведацца, чаму мне не даюць кватэру, і што з братцам будуць нейкія разборкі! Ён для іх важнейшы, больш свой, чым мы з табою!..

— Я думаў, хоць я адзін; выходзіць, і цябе падставіў, — прамовіў Антон.

Сцяпан прамаўчаў. Антон разумеў яго, ведаў, як брат марыў пра гэтую кватэру, чакаў яе, у пісьмах да Антона

ужо хваліўся, дзе што збіраецца ставіць, як будзе перарабляць кухню, як у прыходжай зробіць антрэсолі па ўсім перыметры... Вось і атрымаў... А галоўнае — пра гэта Антон здагадваўся, — што кватэра надала б зусім іншы сэнс братаваму жыццю, рукі не прападалі б, і ўвогуле, што значыць пасля работы ехаць да сябе дамоў!.. Вось і дачакаўся.

— Аж неяк брыдка, — сказаў Антон. — Мы і цяпер нічога не ведаем. У чым віна? За што? Ніхто не кажа. А лісты адкрываюцца, чытаюцца, не даходзяць, а ты жывеш, ходзіш, задраўшы галаву, прыродай любуешся, кватэраў чакаеш... І раптам як снег на галаву, як малатком у лоб — бац! — высланы з Менска, бух! — «пралятае» кватэра...

Брат Сцяпан умеў слухаць, не перабіваў, падтакваў. Антон пачаў вярэдзіць сабе душу:

— Ну, мітынгаваў! Дык тады на кожнай плошчы Менска мітынгавалі, тысячы людзей!.. Значок насіў бел-чырвона-белы, дык палавіна інстытута насіла, якраз мода такая пайшла! Адказваў па-беларуску, але калі бачыў, што гэта не падабаецца, ці выкладчык прасіў гаварыць па-руску, не скандаліў, пераходзіў на рускую... Вось забі мяне, не ведаю, куды я ўлез, куды «ўступіў», як той мужык, што вечна ўступаў ці ў партыю, ці ў г...о. Цягаючыся па гэтых мітынгах, заўсёды падпішаш што-небудзь, не дужа чытаючы... Ды не проста кручком, а добра падпішаш, поўным прозвішчам, ды па бацьку, ды з адрасам і з месцам вучобы... Чэсна кажу: не ведаю і не помню, дзе і што я мог падпісаць. Але пачалося адразу ж; завальвае неяк увечары ў пакой цэлая світа: прарэктар, дэкан, камендант — чэрці, слова ж якое! — стараста паверха... Я адзін быў. Лезуць у тумбачку, у шафу, пад ложак, на балкон, на балконе з-пад старой макулатуры выцягваюць дзве парожнія пляшкі з-пад піва. Ды я год на гэты балкон не выходзіў, братцы, туды і выйсці немагчыма, усё макулатурай завалена! Пляшкі брудныя, любы скажа, што ім па сто гадоў; па-другое, лета ж нядаўна было, а летам тут абітурыенты жылі... Але складаецца акт, усё як трэба. Праўда, і я не

змоўчаў, сказаў прарэктару з'едліва: «Я ж не прыходжу да вас на кватэру і не лезу ў халадзільнік!» І пакацілася ўсё, як ком з гары... На «акцябрскія» ўсёй групай выбраліся ў лес пад Менск, на шашлыкі; я не піў. У горад вярнуліся позна, я яшчэ правёў дзяўчыну, Лену, — я табе пісаў пра яе, і да інтэрната падыходзіў без пяці дванаццаць. Інтэрнат у дванаццаць зачыняецца. Ужо зачынена! А холадна, снег мокры з ветрам... Я свістаць, барабаніць у дзверы — глуха... Вахцёрка Волкава, руская (гэта важна), бабулька гадоў пад семдзесят, якую дражнілі «Гестапа», спіць недзе мёртвым сном. І толькі мо праз паўгадзіны, калі я ўжо збіраўся ісці начаваць на вакзал і, без ніякай спадзеўкі, грукнуў апошні раз, урэшце пачула, расчухалася, выплыла ў калідорчык... Я, хоць і злы, і змерзлы, але так і прайшоў бы маўчком, каб яна не прабурчэла ўслед, замыкаючы дзверы: «В следующий раз напишу докладную ректору!..» Я паварочваюся і спакойна, хоць у душы ўсё кіпіць ад злосці, па-беларуску (таксама важна) гавару:

«А можа, мне на вас напісаць дакладную? Дзе вы былі без пяці дванаццаць? Чаму вы спалі? Я павінен быў мерзці пад дзвярыма?» У яе, прывыкшай, што яе баяцца як чорт ладану, адвісла сківаца і мову адняло. Я падняўся на свой трэці паверх, у калідорчыку, не заходзячы ў пакой, каб не будзіць хлопцаў, распрануўся да пояса і стаў мыцца і чысціць зубы. Раптам страшны грукат у дзверы і ўлятае раз'юшаная Волкава, з нейкай паперкаю ў руцэ. «Как фамилия?! Я добьюсь, чтобы тебя вышвырнули отсюда!» — крычыць у дзверы пакоя, а не бачыць, што я стаю збоку, каля ўмывальніка. Я ступіў да яе моўчкі, голы да пояса, з зубной шчоткаю ў руцэ... вось так (Антон паказаў як). Яна збялела раптам, анямела, вылецела на калідор і адтуль данёсся дзікі крык, ад якога, потым расказвалі, прачнулася палавіна паверха... А назаўтра мяне выклікаюць да знаёмага прарэктара, дзе мне зачытваецца дакладная, ці «закладная», як мы звалі:

«Пьяный до того, что не мог связать двух слов... в час ночи, голый, гонялся за мной по коридору с ножом в руке...» Але гэтую Волкаву не любілі нават тыя, каму

яна навушнічала, і дэканша, якая чамусьці таксама сядзела ў прарэктара, захіхікала. Тут і я не вытрымаў: «Вашая Волкава, пражыўшы тут семдзесят гадоў, магла б навучыцца калі не гаварыць, дык хоць бы разумець чалавечую мову; не «мог связать двух слов» — гэта не што іншае, як беларускія словы, якія для яе гучаць як тарабарская грамата!..» Тут ужо і сам прарэктар засмяяўся; але паперка пайшла ў справу, і чарговае строгае папярэджанне павісла ў фае на дошцы аб'яў... Ну, а потым так супала, што настаў мой дзень нараджэння. Тут ужо сапраўды грэх было не выпіць... Набраў я віна, нясу ў сумцы, а на вахце ўжо чакае знаёмая кампанія:

Волкава, якая і на дзяжурстве сёння быць не павінна, камендант інтэрната, стараста паверха, прарэктар, якому іменна не было чаго рабіць тут, на інтэрнатаўскай вахце, у тры гадзіны дня... Не памог і пашпарт, які я прадбачліва захапіў, ідучы ў магазін, пашпарт, у якім чорным па беламу было напісана, што нарадзіўся я акурат сёння. «Шыльду бачыш? «Пронос спиртных напитков, а равно и распитие оных, строго запрещено»? Нічога тут пра дні нараджэння не сказана...» Складаецца чарговы акт, назаўтра мяне проста з лекцыі забіраюць і на гэты раз не да знаёмага прарэктара, які паспеў ужо стаць мне як бы трошкі раднёю, а заводзяць у пустую аўдыторыю. Там сядзіць адзін малады чалавек. Адзеты не «в кожу», як знаёмы твайго брыгадзіра, а ў харошы касцюм, са стракатым французскім гальштукам. Малады чалавек назваўся Николаем, расказаў, што сам ён з Тульскай вобласці (?), любіць рыбалку і часта перачытвае не помню якога пісьменніка. Відаць, мая рэакцыя была нейкая не такая, як яму хацелася — я проста глядзеў на яго і лыпаў вачыма, — бо малады чалавек раптам дастаў і паказаў мне чырвоную кніжачку, дзе было напісана, што ён — старэйшы лейтэнант. Я хацеу дакрануцца да яе пальцам, Коля не даў, схаваў яе і ўрэшце прама заявіў, што я ўліп, як швед пад Палтаваю. Я ўздыхнуў і апусціў галаву. ЁН сказаў, што яшчэ нічога страшнага, «всё поправимо», толькі мне трэба будзе раз у месяц у пэўныя часы прыходзіць у гэтую аўдыторыю і

расказваць, як здароўе маіх беларускамоўных сяброў. Гэта значыць, Лены, Антоненкі, Брусаўца, Алеся Рамановіча... Я адмовіўся. Тады малады чалавек раптам спытаў, ці ёсць у нашай вёсцы рэчка, а ў рэчцы рыба? Пачуўшы маё «ўгу», ён — я пабажыцца гатовы! — засаромеўся, трошкі пачырванеў і папрасіў мяне не здзіўляцца, калі ён як-небудзь завітае да мяне ў госці, на рыбалку.

— Вось такі атрымліваецца «мітынг пратэсту»... Якую мне было аб'яўляць галадоўку? Павесіць на шыю шыльду: «Пацярпеў за тое, што распіваў напіткі «оные» і п'яны хацеў згвалтаваць бабку Волкаву»?

Браты пасмяяліся, але неяк нявесела.

— Тым больш, сам бачыш, што табе ў горад няма чаго торкацца, трэба тут сядзець, — сказаў Сцяпан, устаючы з лаўкі.

І больш на гэтую тэму гаварыць не сталі; пайшлі ў дрывотню — там было праведзена святло і стаяў наждак. Антон круціў ручку, а брат правіў сякеры і нажы, і, нібы між іншым, без усялякай, здавалася, сувязі з тым, што пачуў зараз ад Антона, расказаў, як нядаўна адзін хлопец з іхняй работы разам з жонкай і дачкою разбіліся на матацыкле.

— Куды яго паперла зімою? — здзіўляўся Сцяпан. Ляглі спаць рана, і тэлевізара не глядзелі. Ціха, цёмна, чуваць, як вецер пасвіствае за акном, толькі гардзіны на вокнах бялеюць, а так не відаць ні падлогі, ні сцен, ні столі. Маўчыць, відаць, адразу ж задрамаўшы, змораная маці, маўчыць, хоць не спіць, варочаецца на сваёй канапе брат...

І Антон, у якога даўно прайшоў лёгкі хмель і тое ўзбуджэнне, з якім расказваў пра свае мінскія прыгоды, зразумеў раптам, чаму брату не спіцца, чаму ён згадаў небараку-матацykліста — ды брату проста страшна! Таму ён і згадвае тых, каму яшчэ горш, чым яму можа быць! Інакш чаму ён так змяніўся пасля Антонавай гісторыі? Не смяяўся, слухаючы, хоць былі ў гэтай

гісторыі і смешныя моманты — ва ўсялякім разе, Антон стараўся расказваць гумарыстычна, — не стаў суцяшаць, хоць мог бы, павінен быў бы… Старэйшы, разумны, дужы, дарослы брат, якога Антон заўсёды лічыў такім жа, як сам, толькі лепшым — баіцца!

«А я? — спытаў у сябе Антон, пазіраючы на светлыя плямы гардзін, прыслухоўваючыся да свісту і крапляў зімовага дажджу. — Мы ўсе тут: і Сцяпан, і матка, і я думаем і адчуваем цяпер аднолькавае… Разбярыся ў сабе — і ўведаеш, што ў іх на душы».

А на душы ў Антона быў страх. Той самы, ранейшы мінскі страх, які пасяліўся ў ім яшчэ тады, калі ён ясна зразумеў, што не проста так да яго чапляюцца, не «чорная паласа пайшла», як сказаў Сцяпан, а яго знарок «пасвяць», каб выкінуць урэшце з Мінска. Быў час, калі страх гэты прытупіўся, але гутарка з братам зноў развярэдзіла яго — нібы зуб быў вырваны, і звыкся да дзіркі ў роце, і раптам зноў боль, і аказваецца, не ўвесь вырвалі, а недзе глыбока астаўся сядзець цалюткі корань…

«Да таго мінскага братца дабярэмся… Вось і дабраліся. А ён, сляпы дурань, — сорамна ўспомніць! — здаваў семінары, канспектаваў лекцыі, за Ленай бегаў і ўжо марыў, як некалі прывязе яе сюды, у вёску, і будзе расказваць, ведучы яе ад станцыі, пра кожнае помнае дрэва, кожную паваротку дарогі, пра кожную хату, на якую Лена пакажа пальцам… Ён жыў, ні пра што не дбаючы. А ў гэты самы момант у нейкім кабінеце рука здымала тэлефонную трубку, званіла ў другі канец Беларусі, і другая рука падымала трубку, называліся яго прозвішча, імя, правяралася біяграфія, заводзілася папка, клаліся ў яе паперы… Жылі побач з ім дарослыя людзі, для якіх цікавіцца ім, Васкевічам, была такая ж будзённая, магчыма, са сваімі «прелестями» і цяжкасцямі, звычайная праца, за якую грошы плацілі — такая ж, як для маткі праз дзень дабірацца на свой заводзік, як для брата гарбаціцца на будоўлі…

«Нічога не скончана, — думаў Антон, не могучы не тое што забыцца і задрамаць, а і вачэй прыплюснуць. —

Гэта толькі пачатак. Як проста... Чорная глухая ноч, машына падкоціць — і не пачуеш, не ўбачыш. Стук у шыбку. Пяць хвілін на зборы. Матка галосіць... Ну і што, што канец XX стагоддзя; 1991-ы год? Ну і што, што я нікога не забіў і не абакраў? Вось так жа думалі Лебяда, Гарэцкі, Зарэцкі, сотні, тысячы іншых. Мы — чыстыя, сумленне наша чыстае — за што нас «браць»? Цяпер жа не сярэднявечча, не інквізіцыя, не імперыялістычная, не грамадзянская войны, не ваенны камунізм — няўжо тыя, чые ідэі даўно перамаглі, не змогуць у спакойны, мірны час адрозніць ворага ад не-ворага? Як гэта нас, маладых, разумных, сумленных, гатовых служыць пераможцам верай і праўдаю, ні з таго ні з сяго забяруць? А так, вельмі проста. За шкірку. Ты думаў калі, што цябе, выдатніка, цяперашнім часам можна адлічыць з інстытута і выкінуць з Менска? Ды яшчэ два месяцы назад ты назваў бы гэта дзікім абсурдам! А ў цябе ніхто і не папытаў!»

Відаць, усё ж праўда, што думкі могуць перадавацца, як гэтае цяпло ад напаленай грубкі. Інакш як растлумачыць, што матка раптам перастала пасвістваць носам, уздыхнула, пакруцілася і зусім бяссонным голасам разарвала гнятлівую цішыню:

— Глядзі, каб яшчэ не прыехалі «чорным воранам» ды не забралі ў якую цюрму!

— Што гэта ў цябе ўсё ў «цюрму» ды ў «цюрму»?..

— Ага! Ты не помніш, Сцяпан не помніць, а я добра помню, як пасля вайны «варанкі» гайсалі!.. Лягаў чалавек спаць, а назаўтра няма, і па сённяшні дзень ніхто не знае, дзе...

Самае дзіўнае было, што брат не спаў — а маўчаў. І Антон нічога матцы не адказаў. І матка больш не адзывалася.

Ляжалі без сну — і кожны думаў адно і тое ж.

## VI

З гэтых выхадных, ад Каляд аж да старога Новага года, стала такая адліга, такая зрабілася, як маці казала, «скаўзеліца», што без кійка немагчыма было прайсці па двары. Зверху вада, калюжыны, знізу — голы лёд. Пачарнелі стрэхі хат і хлявоў, дрэвы ў садзе, нязвыклы — без свайго белага ўбрання, — чужы, непрытульны стаяў лес. Агарод і поле цераз дарогу парабіліся рабымі ад чорных грудкоў, што павылазілі з-пад снегу. Зранку да вечара на двары вісеў мокры туман — нібы дождж, стаміўшыся, узяў і завіс паміж небам і зямлёю. Позна развідняла і рана цямнела. Васкевіч нічога не рабіў, сядзеў, чытаў, глядзеў тэлевізар; выходзячы пакурыць, глядзеў на пахмурае неба, на рабы агарод, выпускаў з рота цыгарэтны дым, а дым так і стаяў каля твару, над галавою, бы гэты туман, не разыходзіўся... Нейкі цягуча-нудны сум сядзеў усе гэтыя дні ў душы, не даваў спакою, раз'ядаў яе, як гэтая слота раз'ядала снег з поля... Прыходзіў у госці Пульс, мокры, трымаючы ў руцэ ўсю ў гразі шапку — пакуль дайшоў, умудрыўся два разы ўпасці. Як чалавек культурны, каля парога зняў галёшы, мокрую шапку выкруціў у «свінячае» вядро, паклаў на прыпечак сушыцца. Маці дала яму паесці і наліла шклянку віна. Ён адразу ж ап'янеў, выпіў адно за адным тры сырыя яйкі, у кожнае ўсыпаўшы мо з паўжмені солі, пачаў расказваць, як адна «баба» з Двароўкі (суседняй вёскі) ездзіла ў горад, у «енвалідскі дом», выбрала там і прывезла сабе «мушчыну», прасіў, каб Васкевіч і яго звазіў у той дом і памог там выбраць «бабу», спяваў, танцаваў пад песні з радыё... Толькі позна ўвечары ледзь удалося яго справодзіць.

Перад старым Новым годам, пасля абеду, выбліснула раптам сонца, без ветру, неяк самі сабой паплылі за лес шэрыя дажджавыя хмары, усё вакол паяснела. Адразу ж проста на вачах вада ў двары пачала пакрывацца крохкім рыфленым лядком, зацвярдзела, пашэрхла зямля, і певень, які ў той дзень доўга не йшоў на седала, ужо смела, героем пазіраючы на курэй, хадзіў па непралазнай яшчэ колькі хвілін назад, а цяпер трывалай гразі. За ноч зямля ператварылгася ў чорны

лёд. Снегу не было, марозік цісну́ў, а ад зыркага ранішняга чырвонага сонца было, здавалася, яшчэ халадней.

Загарнуу́шы ў газету пашпарт, ваенны білет, працоўную кніжку, выпіску — свой «воўчы білет», Антон чыста пагаліўся, нацёр за вушамі і пад носам, прытарным, душным (які быў) адэкалонам «Цытрусавы», апрануўся ў сваё гарадское: куртка, вымытыя блакітныя джынсы, наваксаваныя чаравікі, ад якіх паспелі адвыкнуць ногі і таму цяпер асабліва прыемна было ступаць, — і, не снедаючы, не чакаючы аўтобуса, пашыбаваў у мястэчка, у сельсавет, за шэсць кіламетраў.

Шырокая, высыпаная адсевам, а цяпер ледзяная дарога блішчэла пад сонцам — аж у вачах балела; добра, што ўжо метраў праз дзвесце пасля апошніх хат пачынаўся лес. У лесе Васкевіч павярнуў на вузкую сцежачку між хвой, паўз дарогу: і не так слізка, і калі будзе ехаць папутка, з дарогі яго не заўважаць. Пасля бадзяння па хаце, нудоты апошніх дзён хацелася прайсціся аднаму, падумаць. Ды й то: здарава, марозна, ясна, сонца мільгае ў вершалінах высокіх хвой, б'е ў вочы, жоўтым мяккім золатам адсвечваюць ствалы — гладкія, бы літыя, знізу зусім без галін, стромкія, тоўстыя... Калі забыць, што на галаве шапка, а на руках пальчаткі, і глядзець не пад ногі, не па баках, дзе паўсюль наздраваты, падмарожаны, усыпаны ігліцаю і шышкамі лясны снег, а ўверх, на сіняе неба і гэтыя жоўта-залатыя ствалы, дык адчуванне, быццам патрапіў у самае лета, у жнівень месяц...

Колькі разоў ён перамераў сваімі нагамі гэтую дарогу ў два канцы! Школьны аўтобус як мінімум раз на.тыдзень ламаўся, і добра было, калі суха, цёпла — закінуў, як кажа матка, ногу на «лісапету» і заехаў. А зімою, увосень, увесну, у такі вось галалёд? І тым не менш, як ён любіў гэтую дарогу, колькі з ёю звязана ўспамінаў, якія ніколі не забудуцца!.. Калі б цяпер у яго быў пэўны настрой, не карцела б так найперш разабрацца ў сабе цяперашнім, ён абавязкова перанёсся б у тыя свае гады, у клас, скажам, сёмы — калі ў іхняй школе праходзіла

раённая алімпіяда па шахматах і ён заняў першае месца, абыграўшы дзевяць чалавек запар; вяртаўся з мястэчка марозным зорным вечарам адзін, несучы за пазухай цвёрды, гладкі, залатымі літарамі запоўнены дыплом, дзе было надрукавана яго прозвішча і імя — ішоў і ні грама не баяўся, хоць у гэтым лесе вадзіліся ваўкі... Альбо ў клас дзевяты, калі ў школьнай сталоўцы ладзілі сустрэчу-знаёмства двух дзевятых класаў — іхняга і з гарадскои школы, з танцамі, і яго ўпершыню ў жыцці, пад зайздросныя хіхікі аднакласнікаў запрасіла на танец бялявая тоненькая дзяўчынка з горада... Нейкі час пасля таго ён быў проста героем школы; а тады, ідучы гэтай дарогай, на ўзлеску каля мястэчка забрыў невядома чаму ў зараснікі акацыі, ламаў галіны, крываніў рукі, і ўсё хацелася думаць вершамі, але за ўсю дарогу выдумаўся толькі адзін радок: «И руки твои абдымалі меня...»

Нічога гэтага Васкевіч цяпер не ўспамінаў, больш пільнаваўся, каб не паслізнуцца, і думаў зусім пра іншае.

Пасля той размовы з братам нейкі дзіўны настрой пасяліўся ў ім — дзіўны, бо настрой гэты змяняўся кожную гадзіну без усялякіх, здавалася б, прычын. Калі Васкевіч стараўся глядзець на сябе збоку, чужымі вачыма — усё было добра. Малады чалавек, «высланы» за палітычную ненадзейнасць — значыць, мае сваю чалавечую каштоўнасць, бачыцца некаму небяспечным... Тут быў сімпатычны арэол пакутніка, арэол, які яшчэ са школьных гадоў хваляваў, да слёз захаплення і зайздрасці даводзіў Антона, калі ён пачынаў думаць пра дзекабрыстаў і іхніх жонак і сябе ўяўляў дзекабрыстам (пасля ўрока літаратуры), альбо рэвалюцыянерам-народнікам, які страляе ў ненавіснага губернатара (пасля ўрока гісторыі), альбо селькорам, закатаваным кулакамі (кніжка пра Паўліка Марозава); потым, ужо ў Мінску, калі, дзякуючы Лене і Алесю Рамановічу, адчуў і ўсвядоміў сябе беларусам, калі па руках хадзілі ксеракопіі памерам з калоду карт «Песьняў выгнаньня» Лебяды, якія так лёгка, з першага разу намёртва ўядаліся ў памяць:

*Ой, пралягла чыгунка за Байкалам,*
*Паміж узгор'яў роўна, бы абрус:*
*Бо тут цяпер амаль пад кажнай шпалай*
*Ляжыць замучаны ў выгнаньні беларус!*

— тады ўяўлялася, што ён якраз і ёсць той беларус, які хутка ляжа пад шпалу, па якім недзе далёка, дзе «бэз цьвіце над родным домам», пралівае слёзы сінявокая беларусачка... І дрыжыкі беглі па спіне ад нейкага проста экстазу, і пальцы сціскаліся ў кулакі, і думалася ў такія хвіліны: «А хай бы!.. Хай забіраюць, замучваюць у выгнанні...»

І вось, аказваецца, усё гэта добра, сімпатычна і рамантычна, калі не з табою; апынуўшыея сам у скуры гнанага, адчуўшы блізка на сабе подых невядомага, сур'ёзнага нават не ветру, а толькі ветрыку, Васкевіч разгубіўся. Гераічны арэол адлятаў, як гэты дымок ад цыгарэты, а на яго месца — асабліва пасля размовы са Сцяпанам — усё часцей прыходзіла адчуванне занесенай над галавой дубіны, якая невядома калі і з чыіх рук так яшчэ можа трэснуць, што іскры з вачэй пасыплюцца...

«А што ж ты хацеў? — у каторы раз спытаў сябе Васкевіч. Ён ужо дабраўся да шашы, за якой віднеліся двухпавярховыя катэджы мястэчка, і стаяў, прапускаючы машыны, што праносіліся адна за адной як шалёныя, абдаючы яго хвалямі халоднага ветру. (Зімою на лясной шашы заўсёды здаецца, што машыны ездзяць занадта хутка.) — Чаго чакаў? Табе ж тлумачыў Рамановіч, ды і самаму няцяжка было ўгадаць — у гэтым жа і ёсць план... Патрошку даць зразумець, што ты — казюрка, муха з абарванымі крыльцамі, бегаеш па стале і думаеш, што бегаеш сам па сабе, а над табой зверху — палец, які калі захоча, тады і апусціцца... Што ж ты хацеў? У гэтым план: пасяліць страх, зламаць, запалохаць брата, матку...»

Ён падыходзіў да сельсавета. Сельсавет быў насупраць іхняй школы, у самым пачатку прыгожага, вялікага, кампактнага мястэчка, у якім амаль не было драўляных хат, усё добрыя цагляныя будыніны. Цяпер, пачынаючы

ад шашы, дзе раней быў падлесак, і на пустэчы за школай, за сельсаветам, і на высокім дальнім беразе возера, што вялізнай падковай агінала паўмястэчка,— скрозь ішла будоўля, віднеліся ўжо гатовыя і яшчэ недабудаваныя двух- і трохпавярховыя катэджы. Васкевіч, якому ўвогуле падабалася любое вясковае будаўніцтва, на гэтыя домікі заўсёды проста любаваўся: акуратныя, кожны сваёй планіроўкі, з рознымі балкончыкамі, шпілямі, бы дачы; перад кожным — ладны кавалак зямлі, абнесены плоцікам, пад грады... Лес блізка, горад блізка, рыбнае возера пад бокам. Успомнілася, як калісь, школьнікам, калі гэтых домікаў не было яшчэ і ў паміне, ён зайздросціў хлопцам з гэтага мястэчка...

## VII

Было роўна дзевяць гадзін раніцы, і Васкевіч, заходзячы ў сельсавет, абціраючы ў дзвярах ногі аб нейкую драцяную сетку, якая чаплялася за падэшвы і цягнулася следам, падумаў, што нікога яшчэ можа не аказацца тут і можна будзе трохі пастаяць у кутку каля акна, дзе батарэя, сагрэцца і сабрацца з духам (яму ўжо нават такая простая справа, як прапіска, здавалася нейкай падазронай). У цемнаватым пасля вуліцы, вялікім квадратным калідоры, сапраўды было ціха і пуста, але дзверы ў праўленне — масіўныя, абабітыя ў ромбы чорным дэрманцінам — былі прыадчыненыя. Ён, зняўшы шапку, зайшоў і апынуўся ў прыёмнай — пустым, светлым, такім жа вялікім і квадратным калідоры, як і першы. Прыёмная нагадвала більярдную залю: пасярэдзіне — два сталы, састаўленыя тарцамі, паўз сцяну — некалькі крэслаў (для іспракоў, што чакаюць сваёй чаргі). На прыёмную выходзіла двое такіх жа чорных дэрмацінавых дзвярэй (адкуль лёкаі выносяць шампанскае і крэйду для кіёў); на цэнтральных — зашклёная шыльдачка з надпісам «Старшыня І. В. Лобан», на другіх, кутніх — «Сакратар І. О. Лізун». Здзіўляючыся, што за імя па-беларуску на О — ён ужо забыўся, як сакратара па-бацьку, —

Васкевіч пастукаў і ўвайшоў у знаёмы вузенькі катух. Нічога не змянілася з тых часоў, калі ён, выпісваючыся, некалькі гадоў назад быў тут. Злева як зайсці, каля запавуціненага кратамі акенца, амаль на ўсю шырыню катуха — стол, у кутку вялізны, у чалавечы рост сейф, за сталом — той жа сакратар Лізун, сівенькі, аднарукі, у касцюме, з гальштукам, глядзіць пукатымі, павялічанымі тоўстымі лінзамі акуляраў, няшчырымі вачмі, строгі, непрыступны... Такому б не на лічыльніках, што заўсёды перад ім на стале, костачкі біць, а ў Мінску па тэлевізары інтэрв'ю даваць. Насупраць акна, у глухім кутку, яшчэ столік, за якім цяпер нікога не было.

Убачыўшы Васкевіча, Лізун застыў з занесенай над лічыльнікамі рукою і моўчкі, звыкла строга, стаў чакаць першых яго слоў.

— Здрастуйце, — трохі замнуўшыся, сказаў Васкевіч і адчуў, як густа чырванее. «Вось і першая ластаўка!..» Замінка была кароткая, але і за гэтыя секунды ён паспеў уявіць, як з'едліва хмыкнуў бы Рамановіч, калі б пачуў гэта, з якой пагардаю зірнула б на яго, Антона, Лена. — Добры дзень! — гучным голасам паправіўся ён, злуючы чамусьці не на сябе, а на сакратара. — Я хачу прапісацца ў вас і стаць на ваенны ўлік. Васкевіч, з Сасноўкі, — і паклаў на стол дакументы.

Сакратар, ні слова не прамовіўшы, перавёў вочы на дакументы, потым спрытна падсунуў разгорнуты пашпарт адной палавінай пад лічыльнікі, утаропіўся ў першую старонку, прачытаў усю, перагарнуў... І так увесь пашпарт. Адклаў, узяўся за ваенны білет.

«Відаць, быў званок — не прапісваць! — думаў Васкевіч, не перастаючы сачыць за гэтай праверкаю і здзіўляцца, як налаўчыўся спраўляцца з перагортваннем аднарукі чалавек. — А прычына? Любая. Напрыклад...»

— Ваш Сцяпан у горадзе ж ужо даўно, — сказаў сабе пад нос сакратар, выцягнуўшы з-пад скобкі і разглядаючы ўлікова-паслужную картку.

— Ну і што?

— А тут указана, у Сасноўцы.

— Алоўкам указана. Для таго ж і пішацца алоўкам, каб можна было выцерці і паправіць.

— Дык трэба выцерці і паправіць...

Сакратар адсунуў дакументы, пстрыкнуў ключыкам шуфляды, дастаў адтуль яшчэ адзін, маленькі ключык, сагнуўшыся, недзе ў глыбіні шуфляды адамкнуў яшчэ нейкую патаемную шуфлядку, выцягнуў з яе ўжо вялікі двухзубцавы ключ; не ўстаючы з месца, нібы выпадкова павярнуўшыся так, каб засланіць сабою дзверцы, адамкнуў і трошкі, на адну шчылінку, прачыніў дзверцы сейфа. Сабе на стол кінуў тоўстую кнігу з надпісам «Сасноўка», Васкевічу падаў бланкі:

— Запаўняйце.

Хутчэй Антон выйшаў з гэтага цеснага, душнага катуха, прысеўшы за «більярдныя» сталы, расклаў перад сабою, нібы ігрок карты, бланкі. У гэты момант шчоўкнулі ручкай другія дзверы, старшынёўскія, і паказаўся малады хлопец з чорным чубам, без пінжака, у светленькай кашулі з закасанымі да локцяў рукавамі — як у тых, што недзе ў кабінетах, закасаўшы рукавы, плануюць далейшы Васкевічаў лёс... Тут у кабінеце зазваніў тэлефон, і хлопец, не паспеўшы нічога сказаць, крутануўся назад.

— Старшыня слухае! Алё! Старшыня з вамі і гаворыць! — пачулася з кабінета бадзёрая добрая беларуская мова.

Васкевіч сядзеў, як заваражаны, слухаў і не верыў сваім вушам. Чаго ён ніяк не чакаў пачуць у сваіх мясцінах, а тым больш у такой установе, дык гэта чыстай мовы... Старшыня пагаварыў і выйшаў зноў у прыёмную:

— А хто вы, прабачце? Васкевіч назваўся.

— Дык я ж з тваім Сцяпанам у адным класе вучыўся! —

узрадваўся малады старшыня, паціскаючы Васкевіча за плячо. Рука ў яго была досыць цвёрдая. — І матку добра ведаю! Ты ж у Мінску вучышся? Ты курыш? Хадзем, зайдзі да мяне, пакуль час ёсць...

Васкевіч, не паспеўшы адказаць ні на адно пытанне, сабраў бланкі, дакументы і пайшоў за ім. У кабінеце — прасторным, светлым, з дыванком ад парога да паліраванага, літарай «Т» стала, над якім, узяты ў прыгожую рамку, вісеў каляровы партрэт Леніна — старшыня падвёў яго да скуранога крэсла-круцёлкі, што стаяла ў кутку каля акна і служыла, відаць, асабліва важным гасцям, зноў-такі даволі моцна ўзяўшы за плячо, пасадзіў, сам падбег да стала, прынёс пачак харошых цыгарэт і попелку, на выгляд крышталёвую... Васкевіч падзякаваў і дастаў свае, а попелку, пашукаўшы вакол вачыма, паставіў сабе на калена.

— Дык ты прапісваешся? Што, заваліў экзамены? — падміргнуў старшыня, чыркаючы запальнічкай. — Акадэмічны ўзяў?

Васкевіч кіўнуў — раз хочаш, думай, што акадэмічны. Хоць ён і не дужа свабодна пачуваўся ад гэтага панібрацтва, асабліва ад «тыкання», тым не менш Лобан яму падабаўся — ды тут за адну мову можна было дараваць, што хочаш!..

Жыўчык-старшыня, вядома, пасядзець не мог, падскочыў, адчыніў фортку, зноў прабег да стала, апрануў пінжак, які вісеў на спінцы крэсла, струсіў попел з цыгарэты ў сметніцу за крэслам, вярнуўся і пакарыстаўся попелкаю на Васкевічавым калене.

— У цябе працоўная кніжка з сабою? — спытаў ён раптам.

— З сабою.

— А чаго ты яе ўзяў?

— Ну... так, проста.

— Пакажы...

Васкевіч падаў. Лобан, быццам напярод усё ведаў, разгарнуў яе якраз на месцы апошняга запісу — «отчислен за неоднократное нарушение...»; але, прачытаўшы, нават не глянуў на Васкевіча, задумліва паляпаў кніжкаю па далоні.

— Слухай, у нас ёсць для цябе праца... Бібліятэкарам. У Двароўцы ўжо тры месяцы бібліятэка зачынена. Пойдзеш? — і, не даючы Васкевічу слова сказаць, думаючы, відаць, што той пачне зараз аднеквацца, стаў пераконваць: — Ездзіць можна аўтобусам, ды і прайсцці там колькі, работа лёгкая — сядзі сабе, кніжкі чытай!.. Да экзаменаў падрыхтуешся, праз год спакойна здасі і паедзеш назад у Мінск... Ну?

Васкевіч між тым і не думаў аднеквацца. Для яго гэта была б проста нягаданая, раптоўная ўдача, калі б... Ён зірнуў старшыні ў вочы — сказаць ці не? Вырашыў сказаць: і каб перастрахавацца, і каб потым, калі што якое (прыедуць яго арыштоўваць), не падстаўляць Лобана. А галоўнае, яму раптам захацелася паказаць старшыні, што ён, Васкевіч, трохі не тое, што пра яго можна падумаць.

— Вы чыталі запіс? — спытаў ён.

— Ну і што? Я і так усё ведаў, — старшыня зноў падміргнуў яму .— Мне наш Лізун, — кінуў ён на катух, — яшчэ на тым тыдні казаў, што Васкевічавага хлопца, з Сасноўкі, выгналі за гэтае дзела (ён паказаў, як куляюць чарку)... Ды ты не перажывай! Праз год назад прымуць.

— Я не перажываю, проста...

— У нас, калі я вучыўся, таксама хлопцаў выганялі, потым зноў прымалі. Ты колькі правучыўся? Два гады? Плюс падрыхтоўчыя курсы год, так? — тры. А цяпер падлічы, колькі на цябе грошай убухалі. Каму будзе выгадна, каб ты не давучыўся? Дзяржава не такая дурная...

— Мяне выгналі ні за якае не за «гэтае дзела», —

цвёрда сказаў Васкевіч, трохі любуючыся сабою ў гэты момант, — а за нацыяналізм.

Лобан зірнуў на яго — ён так і стаяў перад Васкевічам, чуць сагнуўшыся, пакурваў — і так зарагатаў, што аж у пустой прыёмнай у прыадчыненыя дзверы адбілася.

— Хто ж цяпер за гэтае выганяе?! Цяпер абы ты толькі гаварыў! Я ж гавару — і што? І паперы вяду, магу паказаць... Канечне, многія крывяцца, але нічога — пераджывуць! — і такая ўпэўненасць была ў яго словах, такі, знаёмы ўжо Васкевічу, імпэт правінцыйнага падзвіжніка — змагара «за ідэю», што Антон нічога не захацеў расказваць, падумаў толькі: «Што ж, раз не верыш, тым горш можа быць для цябе ж».

— Я чаму і ўзрадаваўся, калі пачуў, што ты ў сакратара па-беларуску балэкаеш, і адразу сказаў сабе — гэта свой чалавек! — Лобан прытушыў недакурак, зірнуў на гадзіннік. — Карацей, ты згодзен. Давай, па-быстраму прапісвайся, зараз, у дзесяць, будзе аўтобус на горад — тым больш усе дакументы пры табе, — паедзеш у цэнтральную раённую бібліятэку...

— Пачакайце, ды я паняцця не маю, што і як! Вам жа пасля сорамна будзе...

— Не трэба тут вялікай навукі. Тут да цябе такія працавалі, што фармуляра не маглі запоўніць. Значыць, раённую бібліятэку ведаеш?

Васкевіч не ведаў. Старшыня, радуючыся, што хоць нейкае выйсце знаходзіць яго бурлівая энергія, схапіў са стала лісток, падрабязна накрэсліў, як знайсці, дзе перайсці вуліцу, стрэлкамі паказаў, як заходзіць у будынак бібліятэкі, куды павярнуць на калідоры, дзе кабінет дырэктаркі, якую завуць Валянціна Мікалаеўна... Там Васкевічу трэба будзе сказаць, што ён ад Лобана, напісаць заяву, і там яму ўсё раскажуць і пакажуць.

Ужо збіраючыся выходзіць, Васкевіч успомніў і спытаў, прыцішыўшы голас:

— Што за імя па-беларуску на О?

— А, Осіпавіч? Дык у яго так і ў метрыках, і ў пашпарце запісана. Потым, ён нам са слоўнікам даказаў, што імёны і прозвішчы не паводле правілаў пішуцца, а так, як вымаўляюцца. Хітры, разумны дзядзька! Сказаў, не збіраюся быць ні Восіпавічам, ні Ёсіпавічам, ні Язэпавічам...

«А сапраўды, — падумаў здзіўлены Васкевіч, якому хацелася казырнуць перад Лобанам сваёй назіральнасцю і заадно злавіць несімпатычнага яму сакратара на непісьменнасці. — Не пішам жа Ёфэ, або Іёныч, хоць па правілах павінны былі б...»

Не паспеў Васкевіч, прапісаўшыся, выйсці з сельсавета, як у кабінет старшыні ціха ўсунуўся сакратар, стаў у парозе, з дакорам ківаючы сівай галавою:

— Не баіцеся вы, Васільевіч... Як можна яго браць?

— А што? Ён разумны хлопец, — старшыня яўна цешыўся сваёй уладай, маладосцю, жвавасцю. — Чаго баяцца? Што кніжкі прап'е?

— Хоць бы і так. Фонд там багаты, харошы...

— А вы хіба не п'яце, Осіпавіч? — спытаў старшыня, добра ведаючы, які будзе адказ. — Калі-нікалі?

Лізун уздыхнуў і паварушыў пальцамі адзінай рукі, бышцам адкідваў костачкі на лічыльніках.

— Дзевяць гадоў, тры месяцы і дзевятнаццаць дзён ні кроплі, — адказаў ён.

— А хочацца? — дапытваўся старшыня, ужо ў адкрытую смеючыся.

Сакратар толькі прыцмокнуў і, як і належыць старому безадказнаму служаку (ён быў на пенсіі і баяўся скарачэння), таксама ўсміхнуўся на начальніцкі смех; а сам, відаць, падумаў: «Я ж цябе, смаркача, без штаноў помню — помню, як ты яблычкі ў мяне латашыў...

Радуйся, што мінуў тады маёй рукі!..»

Менш чым праз паўгадзіны Васкевіч ужо выходзіў з аўтобуса ў цэнтры горада. З такім планам, які ляжаў у яго ў кішэні, бібліятэку можна было знайсці з заплюшчанымі вачыма, таму ён не дужа спяшаўся: купіў марожанага, у кіёску на плошчы папытаў «Маладосць», апошні «ЛіМ», потым памалу пайшоў уверх, у горад, вузкай крывой вулічкай. Яшчэ перад горадам сонца схавалася; цяпер ззаду, з Прыпяці, налятаў халодны снегавы вецер, задзіраў старчака капюшон, гнаў паперадзе шматкі папер, смецце і ўжо забіваў трэшчыны тратуара ледзь прыкметнай драбнюткай белай сечкаю. Холадна было і ад з'едзенага марожанага, і ад гэтага ветру. Васкевіч ішоў і пазіраў па баках: пасля жывога, «сапраўднага» Мінска і ціхай вёскі, якія былі натуральнымі — як два полюсы, — гэты раённы горад, некалі галоўны цэнтр усяго Палесся, цяпер проста ўражваў яго сваім брудам, нейкай неўладкаванасцю, мноствам грузавых аўтамабіляў, якія, равучы, пыхкаючы чорным дымам, паўзлі і паўзлі адзін за адным па вузкай вулічцы; сваімі нізенькімі чэзлымі дрэўцамі паўз тратуары, шэрымі і жоўтымі сценамі «хрушчовак», сярод якіх ці не на кожны квартал абавязкова тырчыць у неба вялізная труба і копціць неба дзень і ноч... А людзі!.. Шэрыя, як гэтыя сцены, твары, бязрадасныя, нейкі застарэлы ўвесьчасны клопат у вачах, або проста страх, або падазронасць — быццам нейкі злы знахар накінуў на цэлы горад чары, і людзі развучыліся весяліцца, смяяцца... Бедна, непрыгожа, безгустоўна адзетыя — як старыя, так і маладыя... Яшчэ даволі рана, а ўжо на кожным кроку сустрэнеш п'янага; вунь, каля гастранома, цэлы гурт — стаяць, п'юць піва з паўлітровых слоікаў, моўчкі, уважліва аглядаюць тых, хто заходзіць у магазін і выходзіць, некаторых падзываюць да сябе... Побач аблезлая бабка корпаецца ў сметніцы, стала на коленцы, запусціла па локаць руку... «Ды тут большая глуш, чым любы хутар!» — успомніў Васкевіч братавы словы.

Аднапавярховы, прадаўгаваты, з драўляным ганкам і

зялёнымі аблупленымі парэнчамі будыначак раённай бібліятэкі стаяў у дварах, сярод дрэў, і ўлетку вельмі проста можна было прайсці побач і не заўважыць яго. Васкевіч, які спярша, пасля размовы са старшынёю, быў акрыяў, ужо едучы ў аўтобусе абдумаўся і, замест адчування хоць невялікай, але ўдачы, на яго зноў найшла ўжо звыклая апошнім часам падазронасць — цяпер і да гэтага Лобана, і да яго прапаноў. Што за свінню яму збіраюцца падкласці, Васкевіч, як ні фантазіраваў, прыдумаць не змог, але цвёрда ўпэўніў сябе, што нічога людскага з гэтага ўладкавання не выйдзе. Хай, тым больш, губляць няма чаго — паспрабуе... Таму ён без лішніх абдумак таўхануў дзверы, на хаду буркнуў «добрага дня» жаночай галаве ў праёме гардэроба і пайшоў, адным вокам пазіраючы ў свой план, другім — на дзверы з надпісамі «Абанемент», «Чытальная зала», «Ж», «Даведачны аддзел», — у самы канец калідора.

Дырэктарка — Валянціна Мікалаеўна — была на месцы. Калі Васкевіч уторкнуўся ў кабінет, яна сядзела за сталом, курыла і задуменна глядзела ў акно. На стале, апроч тэлефона і звычайных для такіх установ папер, адразу кідаўся ў вочы вялікі бліскучы электрасамавар, які важна шумеў і ўжо ваўсю струменіўся параю. Відаць, за гэтым шумам і не пачуўся лёгкі стук у дзверы. Васкевіч кашлянуў, Валянціна Мікалаеўна азірнулася, войкнула і раптам неяк паспешліва і няўмела схавала руку з цыгарэтай пад стол, другой рукой пачала ляпаць вакол сябе па стале, знайшла, уздзела на кірпаты носік акуляры ў чырвонай аправе, глянула:

— Фу, напужалі! — і засмяялася харошым грудным смехам маладой жанчыны. Ужо смела зацягнулася яшчэ раз, пстрыкнула недакуркам у расчыненую фортку, вышмаргнула з разеткі шнур, і самавар сціх. — Я крадком пакурваю, — патлумачыла яна і, яшчэ панізіўшы голас, прыклаўшы да поўненькіх, чуць падфарбаваных вуснаў палец, дадала: — Шпіёнаў многа!

Васкевіч, як агаломшаны, стаяў і круціў у руках шапку.

Нічога такога ён не чакаў. Гэты кабінецік — вузенькі, утульны, з дыванам на ўсю падлогу, з карцінамі, габеленамі на адной сцяне, з секцыяй-шафай уздоўж усёй другои, і ў секцыі — нейкія вымпелы, тэлевізар-кубік, і, здаецца, музычны цэнтр, і прыгожы посуд, і яшчэ розная драбяза, якую не ўхопіш вокам... Гэтая маладая, сімпатычная, зусім не падобная на дырэктарку жанчына, якая так даверліва ні з таго ні з сяго дзеліцца з ім, чалавекам з вуліцы, нейкімі сваімі сакрэтамі... Трэба было абвыкнуцца хоць трохі. Урэшце ён, зіркаючы з-пад ілба, пачаў мямліць пра старшыню Лобана, Двароўскую бібліятэку...

Валянціна Мікалаеўна выслухала і засмяялася.

— Гэты Лобан сам насабачыўся па-беларускі, ды яшчэ такіх, як сам, шукае! — сказала яна, як бы трошкі з зайздрасцю да таго Лобана. — Што ж, добра, распранайцеся, сядайце, пішыце заяву. Вось папера, ручка... Вам кавы зрабіць, пакуль самавар гарачы? — спытала і зараз жа лёгка паднялася — паўнаватая, фігурыстая, у зялёнай бліскучай сукенцы, белагаловая, прайшла, мякка тупаючы ў дыван абцасамі белых, пад колер валасоў, туфелек, дастала з секцыі бляшанку кавы, сподкі, кубачкі. — Тут якраз перад вамі прыходзіла адна, фіфа нейкая намазаная, таксама прасілася ў Двароўку... З малым дзіцям. Я сказала, што падумаю, а сама думаю — трэба ты мне з дзіцям! Будзеш сядзець месяцамі на бальнічным, а там зноў у дэкрэт пойдзеш.

Зацурчэў кіпень з самавара, запахла каваю. Васкевіч, распрануўшыся, прымасціўся за стол. Валянціна Мікалаеўна падсунула яму кубак, прапанавала курыць, калі курыць, і жартоўным голасам, нібы даючы зразумець, што яна давярае, але вымушана пацікавіцца гэтым па службовай патрэбе, спытала, што ён за чалавек і адкуль узяўся.

Васкевіч сказаў, што ў Мінску два курсы скончыў.

— У Мінску? — як невядома якому дзіву ўзрадвалася Валянціна Мікалаеўна. — Ведаеце там такую вуліцу —

Сердзіча?

— Чуў, але так... Я неяк блытаю Сердзіча і гэтую, як яе... Сядых.

— Ну-у. Сядых — гэта ж Зялёны Луг, а Сердзіча адразу за плошчай Прытыцкага, каля «Дзюймовачкі», — і задумалася на міг, відаць, успамінаючы нешта, з гэтай вуліцай звязанае.

Зрэшты потым, пасля гэтай кароткай задумкі, лапатала яна не перастаючы. Пакуль разамлелы Васкевіч — во начальніцу Бог наслаў! — піў каву, курыў і знарок марудна, каб даўжэй тут пабыць, выводзіў па літарках словы заявы, мілавідная дырэктарка, не выбіраючы асабліва выразаў, расказала, што цякучка кадраў замучыла, палучкі мізэрныя (назвала лічбу ў чатыры разы большую за яго стыпендыю), што «дзеўкі» ўстройваюцца і адразу ідуць у дэкрэты, што вечная праблема — дровы...

— Хоць вы малады, можа, не так мерзнуць будзеце. А то нашыя ўсе мерзнуць, кроў не грэе...

Васкевіч уставіў, што холаду не баіцца, а баіцца запароць работу.

— Вазьміце гляньце ранейшыя фармуляры, планы, і самі так вядзіце.

Валянціна Мікалаеўна папярэдзіла, што фонд там вялікі, і трэба будзе зрабіць вопіс. Як гэта? З заўтрашняга дня ў Двароўку ранішнім аўтобусам будзе прыязджаць чалавек з аддзела апрацоўкі, усё растлумачыць, пакажа, раскажа. Потым гэты вопіс звераць у аддзеле камплектавання з каталогам.

— А то што вы будзеце прымаць ката ў мяшку? Можа, там палавіны ўжо няма, параскрадалі...

Усё гэта для Васкевіча было цёмны лес. Але ён не стаў нічога запісваць — каб не падумала Валянціна

Мікалаеўна, што ён падхалім ці тугадумны, — не

стараўся нават дужа запамінаць; проста вырашыў з усім згаджацца, а там разбярэцца як-небудзь. Цяпер, калі заява напісаная, што рабіць? Ехаць у сельсавет, сказаць, што афіцыйна аформлены? Добра. Заўтра ў дзевяць раніцы, к аўтобусу, быць у бібліятэцы? Будзе. Кожны месяц першага чысла прыязджаць па палучку ў горад, тады ж кароценькі сход? Будзе прыязджаць. Справаздачы за кожны квартал і планы? Пастараецца...

Валянціна Мікалаеўна чыркнула колькі слоў на яго заяве, пагартала працоўную кніжку, спыніла вочы на злашчасным запісе. Васкевіч, які ўжо чамусьці быў падумаў, што справа яго вырашана, пахаладзеў.

— Так... — дырэктарка зрабіла твар строгім і паківала Васкевічу пальцам, як гарэзу-школьніку. — Так, на рабочым месцы не піць! Кніжкі глядзець! Дзевак за стэлажамі не ціскаць! Бо знаю я гэтых дзевак... Дамовіліся?

Васкевіч, смеючыся, кіўнуў. Яму раптам захацелася перагнуцца цераз стол і пацалаваць гэтую жанчыну.

«Чорт, і што ім усім так хочацца думаць, што я нейкі п'яніца і за гэтае выгнаны? — думаў ён, у цудоўным настроі, зусім іншым чалавекам выходзячы на вуліцу. — І цікава, ште як быццам ніхто ў тым ніякага граху не бачыць».

Вуліца за гэты час пабялела, з неба замест сечкі ціха і густа падаў ужо сапраўдны снег — і ад гэтай белізны, а больш ад таго, што сядзіць тут блізка, у гэтым вось будынку, такая разумная, харошанькая Валянціна Мікалаеўна, і сам горад падаўся Васкевічу не такім ужо і гадкім.

## VIII

Калі ад чыгункі паміж Мозырам і Ельскам правесці роўна на захад, у напрамку Лельчыц, умоўную лінію, прыкладна праз 2—3 кіламетры на гэтай

лініі-«апендыксе» размяшчаюцца чатыры вёскі: бліжэй да чыгункі Сасноўка, потым Двароўка, тады Бокаўка, і апошняя, пад махнавіцкія балоты — Стаў. Самай прэстыжнай можна лічыць Васкевічаву Сасноўку — блізка горад, мястэчка, чыгунка; праўда, няма сваёй школы, і, пакуль былі ў вёсцы дзеці, вечная праблема была ў непагадзь дабірацца ў местачковую дзесяцігодку. Цяпер самы малады ў Сасноўцы саракагадовы Пульс, ну і Васкевіч, так што пытанне аб школе, само сабою, не стаіць. Сасноўскія мужчыны не кураць, п'юць толькі па святах і ніколі так, каб пад плотам валяцца; амаль ніводзін не працуе ў саўгасе — альбо на чыгунцы, манцёрамі пуці, альбо ў горадзе «на праізвойстве» — пажарнікамі ці вартаўнікамі. На гэтых работах выдаюць «хворму», і сасноўскіх мужчын заўсёды яшчэ здалёк пазнаюць па пінжаках з алюмініевымі гузікамі і нязменных, у любое надвор'е, фуражках ці шапках з кукардамі. Прычым ёсць такія касцюмы выхадныя і буднія. У іншых вёсках сасноўцаў недалюбліваюць: «Ідзе, гузікі тыя блішчаць, а ён рады-рады!»

Двароўка славутая сваім харошым, на два аддзелы, магазінам. Была яшчэ некалі васьмігодка, цяпер асталася толькі пачатковая, для пяці вучняў з розных вёсак (з-за таго, што хадзілі ў розныя школы, Васкевіч амаль не ведаў двароўскай, ды і іншай з тых вёсак, моладзі).

У Бокаўцы няма магазіна, затое ёсць вялікая ферма, з якой у асноўным і кормяцца тутэйшыя людцы; будуецца многа фінскіх домікаў, якія чамусьці засяляюцца не мясцовымі, а прышлымі, перасяленцамі з-пад Чарнобыля. Урэшце, у самым меншым, дальнім Ставе няма ні фермы, ні школы, ні магазіна, прыязджае разы два на тыдзень аўталаўка і два разы ў дзень ходзіць аўтобус з горада.

Нягледзячы на той жа лес вакол і тыя ж балацянкі, гэтыя вёскі непадобныя адна на адну. Яны розняцца і ўмовамі жыцця, і прозвішчамі, і вымаўленнем; у Сасноўцы, напрыклад, большасць прозвішчаў канчаецца

на «іч» — Асіповіч, Мохавіч, Васкевіч; у Двароўцы — на «а»: Ткачэнка, Кузьменка, Дварэнка; у Ставе — зусім без канчаткаў: Галас, Гаман, Басак, Цык, Лізун... У Сасноўцы скажуць звонка — мы, дзеўкі, хлеў, мёд; у Бокаўцы — му, дзёўкі, хлёў, мюод; у Ставе — яшчэ інакш. Увесь тутэйшы люд цвёрда лічыць сябе беларусамі праваслаўнай веры і гэтак жа цвёрда не лічыць сваю мову беларускаю. Калі папытаць, а якая, з гатоўнай пагардаю да сябе адкажуць: «Абы-якая, ні польская, ні конская!» Прызнаюць свой рэгіён Палессем (ад таго, што вобласць не так даўно звалася Палескаю?) і не прызнаюць сябе палешукамі; пагардліва крывяцца, ківаючы на захад: «Ета там, пад Пінск, западня!» Паважаюць яўрэяў («Адзін аднаго глядзяць, не тое, што му»), у кожнага знойдзецца гісторыя, як спрытна «от була Фаня» зубы без наркозу рвала, і «буў Мойша» ставіў — во, паглядзі, — і пакажа белы сталёвы рот, адвярнуўшы пальцам губу. Цыганамі, як і паўсюль на Беларусі, любяць палохаць дзяцей, але і ў дарослых ёсць боязь перад гэтай таямнічай нацыяй — «усе языкі на свеце можна разабраць, а цыганскі ніхто ніколі не разбярэ!» Калі ходзяць па сяле цыганкі, бабы абавязкова вынесуць сала, яек — невядома адкуль і з якіх часоў убілася ў тутэйшыя галовы паданне, што «яўрэі Хрыста распялі, а цыганы знялі з крыжа». З рускіх пасмейваюцца, лічаць горшымі за сябе — «пскапской есь пскапской!» — скажуць, перадражніваючы. Пабойваюцца ўкраінцаў — «усіх можна абдурыць, а хахла ніколі!», але песні ўкраінскія любяць больш за беларускія, хоць і спяваюць зусім на свой лад.

За свае дваццаць тры гады Васкевіч трохі пабачыў свету, служыў у арміі, але да вучобы ў Мінску яму нават у галаву не прыходзіла, што іхні рэгіён нейкі адметны, нейкая іншая Беларусь, чым тая ж Міншчына або Гродзеншчына. Сорамна прызнацца, але ён і пасля войска слаба арыентаваўся ў геаграфічным становішчы сваёй вёскі, раёна — поўдзень гэта ці поўнач? з кім мяжуецца?.. Беларусь, Гомельская вобласць, Палессе — гэтым усё сказана. І толькі ў Мінску, на падрыхтоўчых курсах, калі пайшла чутка пра Чарнобыль, ён проста

дзеля цікавасці — чаго яны ўсе бегаюць, гэта ж недзе пад Кіевам, у іншай рэспубліцы? — палез у карту, глянуў і абамлеў. На карце даволі вялікага маштабу адлегласць ад Чарнобыля да іхняга раённага горада была меншая за два запалкавыя карабкі. З гарачкі схапіўся пісаць дамоў ліст, каб маці кідала ўсё і... А што «і»? Кідаць — і дзе дзецца? Так нічога і не напісаў. Гады праз два ён яшчэ раз сутыкнуўся з праблемай «адметнасці свайго рэгіёна» — калі неяк адносіў у дэканат бальнічную даведку, у пустой прыёмнай паклаў на стол і сабраўся выйсці, як раптам з прыадчыненых дзвярэй пачуўся голас дэканшы: яна гаварыла з кімсьці «жывым» ці па тэлефоне. Васкевіч пачуў сваё прозвішча, Антоненкі, Рамановіча... Ён застыў, прыслухоўваючыся. «Да нет, так нормально... Просто кучка этих гомельских хохлов мутит...» — гаварыла дэканша. Зайшла сакратарка і не дала даслухаць на самым цікавым месцы. Тады ён не столькі насцярожыўся, колькі здзівіўся. Дастаў зноў карту, пачаў вывучаць ужо як след. Так і ёсць: вось Чарнігаўшчына, Кіеўшчына, Жытоміршчына, абступілі, ціснуць з усіх бакоў... Успомніў, як калісь дзед Пятро хваліўся, паплёўваючы: «Я ў Кіеў за суткі канём заязджаў!» Не ў Мінск, а ў Кіеў.... Сапраўды, мінскаму чалавеку, гледзячы на карту, смела можна называць іх «гомельскімі хахламі». Але іншае цікава — раней ён неяк не задумваўся, не звяртаў увагі, што з дзесяці беларускамоўных чалавек у інстытуце адзін з Магілёўшчыны, і восем з Гомельшчыны! З Мінска Лена, але і ў яе бацькі са Светлагорскага раёна. З Рэчыцы Рамановіч, з-пад Лоева Антоненка, з Жыткавіч Брусавец, недзе адсюль, з-пад Нароўлі, блізкі яго, Васкевіча, зямляк, быў паэт Вяргейчык, які загінуў у канцы першага курса...

Увечары расказаў пра ўсё чутае ў дэканаце Рамановічу. Той задаволена пасмяяўся і растлумачыў, што ўсё правільна, так і павінна быць, і вельмі добра, што такія чуткі ідуць пра іх, бо гэтая, найбольш здаровая хваля «адраджэння», заканамерна ідзе з усходу, з Гомельшчыны і Магілёўшчыны — як з рэгіёнаў, якія ў іншыя часы не змаглі «нацыянальна рэалізавацца».

Згадаўшы Калубовіча і яго «хвойніцкіх альтруістых», Рамановіч захапіўся і яго, як заўсёды, панесла:

— Толькі мы, усходнікі, якія за столькі вякоў змаглі захаваць сваю непадобнасць на рускіх, украінцаў, палякаў, захавалі сваю мову — мы, хітрыя, абачлівыя, якія ўсіх асцерагаліся і нікому ніколі не верылі, капілі, шанавалі да пэўнага часу свой патэнцыял, — мы зможам зрабіць нармальную незалежную праваслаўную дзяржаву! І не збіраюся я лічыць сваю Рэчыцу горшаю за Вільню ці Наваградак, хоць «разумныя» кніжкі і стараюцца мне гэта ўнушыць; тое, што ў нас не было палячкоў, якія на тэрыторыі Беларусі бунтавалі за «ойчызну мілу», ні пра што не гаворыць. Гэта яшчэ невядома — плюс ці мінус. Так што правільна яна (дэканша) сказала. Далей — што раз'ядноўвае Беларусь? Літаратурная мова, якую беларусы не ведаюць і ведаць не хочуць, бо яна «сделана» на аснове дыялектаў трох мінскіх вёсачак, і правільна Гарэцкі называў яе «мінская ламаніна». Гэта ж здурэць можна — у моўных адносінах адрэзаны такі кавалак, як Усходняе Палессе! Зусім не ўлічаны нашы дыялекты, асабліва такі феномен, як «саканне», якое трэба ўвесці абавязковым для ўсёй літаратурнай мовы, бо гэта адразу розніла б канчаткі нашых дзеясловаў ад рускіх, польскіх і ўкраінскіх. Нідзе, ні ў адной мове не кажуць «наеўса, напіўса», а ў нас было б. Хоць што дэканша! Вазьмі нашу Лену: раз ледзь не пасварыўся з ёю — і яна не верыць, што ў нас водзяцца і яйкі адкладаюць чарапахі, што ў вашым Мозыры спакойна растуць і спеюць садовыя абрыкосы...

Усё гэта цяпер успаміналася Васкевічу, калі вось такая гаспадарка — чытачы чатырох вёсак «адметнага рэгіёна» — яму дасталася.

## IX

Бібліятэка знаходзілася ў старой будыніне васьмігадовай школы, у самым цэнтры Двароўкі, каля

магазіна, да якога сыходзіліся некалькі вулічак. Квадратны, абнесены пачарнелым штакетнікам двор, зарослы акацыямі, завалены снегам, у двары воддаль — хлеў, дрывотня. Адразу з вуліцы, як увайсці ў веснічкі — ганак бібліятэкі, прайсці за вугал — такі ж ганак пошты, яшчэ за адзін вугал — ганак пачатковай школкі. Да бібліятэчнага ганку не вяло ні следу, ляжаў некрануты снег.

Калі Васкевіч у першы дзень, следам за маладой нахмуранай дзяўчынай, што прыехала ранішнім аўтобусам з горада і прывезла ключы, увайшоў перш у маленькія, нядаўна прыбудаваня сенечкі, потым з цёмнага калідора, у настылы, гулкі, таксама цёмны пакой, калі вочы трохі абвыкліся і ён убачыў доўгія рады стэлажоў, забітых з верху да нізу кнігамі, ён проста ахнуў:

— Гэта... столькі?!

— Здесь три филиала, — суха адказала дзяўчына, бразнула на стол каля грубкі ключы і ўзялася адшморгваць шторы на вокнах.

Васкевіч нават не ведаў, што такое філіалы. А гэта значыла, што сюды звезены кнігі з трох бібліятэк. Вырашылі, нашто плаціць тры аклады, калі можна адзін?

Дзяўчына пачала прыязджаць у Двароўку кожны дзень.

З раніцы Антон на двары мыўся снегам, тады грэў ваду, галіўся; часта праз сілу стараўся добра наесціся, каб потым цярпець да чатырох гадзін, калі са Става вяртацьмецца дзённы аўтобус і дзяўчына паедзе, доўга тырчэў перад люстэркам, замест лаку для валасоў разводзіў у цёплай вадзе зубную пасту і сяк-так прыладжваў валасы ў прычоску, бег на аўтобус і ў аўтобусе адразу шукаў вачыма знаёмую чорную хустку ў чырвоныя кветкі — зноў была пайшла мода на такія хусткі, — і калі дзяўчына сядзела адна, масціўся побач. У халоднай, не паленай ні разу за зіму бібліятэцы дзяўчына, як была, у паліце, не здымаючы тонкіх

пальчатак, падсаджвалася да сталоў, на якіх стаялі слупкі кніг, падсоўвала бліжэй «калоду» бібліятэчных картак і хутка, так, што карткі з-пад рукі вылятаці і проста на вачах меншалі слупкі, пачынала пісаць. У гэтым была іхняя работа: пераносіць на карткі назвы кніг, аўтараў, нумары і раздзелы — мастацкая гэта кніга ці медыцынская, ці грамадска-палітычная. Васкевіч, да сораму свайго, мёрз. Ён таксама паспрабаваў пісаць у сваёй тоўстай скуранай пальчатцы, але нічога не выйшла. Штораз хукаў на пальцы, а калі трэба было браць з паліцы чарговую партыю кніг, заходзіў за стэлажы і рабіў некалькі прысяданняў. Выходзіў на ганак пакурыць і заадно пагрэцца — на двары было цяплей. Снегу навапіла процьму, а мароз вялікі так і не стаў.

Гадзін у дванаццаць дзяўчына, не перастаючы пісаць, даставала з сумачкі яблык ці булачку, бутэльку кефіру, ела з адной рукі. Васкевіч браць з сабою саромеўся, ды і што ён мог узяць? Хлеба з салам, цыбуліну?

Седзячы збоку ці насупраць дзяўчыны, Васкевіч часта — калі спадцішка, калі ў адкрытую — аглядаў яе. Красуня, нічога не скажаш: вялікія цёмныя вочы, гарадскі дагледжаны твар, рукі тонкія, фігура, нават схаваная палітом, зграбная... За гэты тыдзень, пакуль яны былі разам, ён проста выматаўся; не столькі ад голаду, холаду ці гэтай механічнай, па цэлых гадзінах перапіскі (як-ніяк быў вопыт канспектавання лекцый), колькі ад думак. Не дужа прыемна маладому хлопцу днямі сядзець адзін на адзін з прыгожай дзяўчынаю і ведаць, што ты для яе пустое месца. Ён спрабаваў быць вясёлым, спрабаваў сумным, загадкавым, звяртаўся да яе па-руску, па-беларуску; аднойчы, каб пахваліцца сваёй назіральнасцю і каб даць зразумець, што і ён, як і яна, да вяскоўцаў ставіцца скептычна, расказаў такое (студзень 1991-га, якраз пачалася вайна ў Персідскім заліве):

— Учора ў нас у магазіне адна бабулька разважае:

«Наляцелі, як груганы; на таго беднага Адама, ды таўкуць!» У сэнсе, на Саддама Хусейна. Трэба ж —

разбіраецца нешта!

Дзяўчына хмыкнула, а што гэта значыла, невядома. З дня ў дзень усе яе сказы былі «ну», «да», «нет», «давай делать, нужно скорее». Пасля Антон даведаўся, што на гэты вопіс ім давалася больш за два тыдні, але дзяўчына «фарсіравала», каб потым пагуляць. Першыя дні ён нават прачынаўся з радасцю: зараз, у аўтобусе, убачыць знаёмы тварык, сядзе побач і людзі будуць на іх пазіраць... Але ў аўтобусе яна моўчкі ківала і адварочвалася да акна. Васкевіч аглядаў сябе ў люстэрка, камплексаваў, урэшце пачаў проста баяцца яе. Перастаў ездзіць аўтобусам, уставаў раней і йшоў пехам, суцяшаў сябе, што так яшчэ лепш — хоць бы чыста для здароўя прайсціся сцежкаю па туманным снежным лесе, палюбавацца, як знянацку выплываюць з лесу нізенькія двароўскія хаты — бы ў якім кіне ці на ілюстрацыі са старой кнігі.

Разгадаў ён дзяўчыну ў апошні дзень, калі неперапісаных кніг асталося чуць, на якую палавіну стэлажа. Ён прыйшоў у бібліятэку рана, аўтобус спазняўся, — прысеў на дзяўчынінае месца, машынальна пачаў пераглядаць запоўненыя ёю карткі, і вачам не паверыў. Крывыя, гарбатыя, як курыца надрапала, літары, неразборлівыя лічбы, а скарачэнні!.. Мапасан — М. Г. Д. Зверыў некаторыя карткі з перапісанымі кнігамі — так і ёсць, з раніцы яшчэ нічога, даволі разборліва, потым, бліжэй да абеду, пропускі, скарачэнні, закрэсліванні... А самае галоўнае, памылкі ў нумарах. І хто гэта ўсё разбярэ, каму трэба такое перапісванне, нашто яны мучаюцца?..

«Ды ты проста... дурніца, недалёкая, — сказаў сабе Васкевіч, адчуваючы, як на душы святлее. — Таму і маўчыш, бо ганарыстая, як і ўсе недалёкія бабы!» Калі яна заявілася, ён, на гэты раз іншымі вачыма, агледзеў яе. Ну, вядома: фанабэрысты носік уверх, губкі падціснутыя, нават піша, адстаўляючы пальчык... Як ён раней гэтага не заўважаў? Гарадская пані, вымушана тырчэць тут, у холадзе, яго вучыць, неабчэсанага. Васкевіч зразумеў, што да яе не даходзіла нават, што з

ёю гаварылі на беларускай мове — яна думала, гэта звычайная іхняя вясковая гаворка.

У той дзень ён перастаў яе баяцца, знарок пасвістваў, закурыў тут жа, у бібліятэцы, калі захацеў. І дзіўна, дзяўчына, адчуўшы гэтую перамену, сама змянілася, загаварыла першая, спытала, ці праўда, што ён вучыўся ў Мінску? Васкевіч хацеў сказаць ёй пра памылкі ў нумарах, але (што было, вядома, не па-мужчынску) перадумаў: «Разбярэцеся… Калі такія, як гэтая, ездзяць вучыць іншых — разбяруцца». І ён не памыліўся. Дзяўчына забрала карткі, праз дзён колькі, ужо ў апошні раз, прыехала, сказала, што ўсё нармальна, і адбыла тым жа ранішнім аўтобусам, пакінуўшы Васкевічу вялікі спіс «утерянных» кніг (потым ён знаходзіў гэтыя кнігі на розных стэлажах).

З радасці, што астаецца ўрэшце адзін, за поўнага гаспадара, ён нават забыўся распытаць у яе пра галоўнае: як весці фармуляры, чытацкі дзённік, складаць планы — што яму рабіць, нарэшце? Але, калі ўспомніў, не пашкадаваў — чым такая дапамога, хутчэй сам разбярэцца.

## X

Нечакана выяснілася, што ў Васкевіча ёсць свой штат. На другі дзень пасля таго, як паехала дзяўчына, ён, падыходзячы раніцай да бібліятэкі, яшчэ здалёк убачыў, што дзверы ў калідорчык адчыненыя. У калідорчыку стаяла вядро вады. У вялікім «цёмным» калідоры ўбачыў, што на блясе перад бібліятэчнай грубкаю (была яшчэ адна грубка, у другі, насупраць бібліятэкі, пакой — «Клуб») ляжыць абярэмак дроў, ды і ў самой грубцы ўжо гарыць. У бібліятэцы маленькая бабка ў кухвайцы і ў новенькіх гумавых ботах дамывала падлогу, ужо зводзіла анучай ваду да дзвярэй. Аказалася, гэта прыбіральшчыца, яна ж будзе паліць грубку. Васкевіч быў прыемна здзіўлены.

— Я як даведаласа, што ву будзеце, — казала шчаслівая бабка, прыціскаючы да грудзей худыя рукі з выкручанай анучаю, — так пайшла ў сельсавет і папрасіласа. Вы ўжо ізьвініце, што даўно не палена... Дроў колатых не было. Я і пры тым заведушчым (так бабка звала бібліятэкараў) тут прыбірала, і пры той, што да вас, Лідзе... А як яны звальняюцца, так і я без работы.

— А дзе вы дровы бярэце?

— У дрывотні. Там і дроў, і торфу столькі, што абы хто паліў. На школу, пошту і цеку (бібліятэку). Выходзячы, зноў папрасіла прабачэння за тое, што холадна.

— Ды я прывык за гэты тыдзень.

— І то — чалавек малады; гэта старому хоць палі, хоць так сядзі, усё адно белы свет... У майго чалавека пакойнага век ногі мерзлі. Бывае, ляжым у ложку, а я баюся яго тых ног крануцца.

Вымыла яна і калідор, і калідорчык. Антон памацаў грубку — гарачая, хоць ты здымай куртку і шапку. У калідоры нехта забухаў пракураным кашлем, доўга аббіваў ногі перад дзвярыма. Зайшоў высокі, няголены, аж нейкі чорны з твару мужчына, у кухвайцы, у ботах, у ватніх штанах. Там, дзе штаны запраўлены ў боты, поўна кірсы[6], трэсачак; запахла смалою, лесам і гарэлачным перагарам. Васкевіч здагадаўся, што гэта і ёсць зяць Іван, які дровы коле.

Нічога не кажучы, мужчына стаў аглядаць новага бібліятэкара. Васкевіч пакруціўся, сеў за стол, адчыніў шуфляду, прабег пальцамі па кніжачках фармуляраў, падняў вочы — Іван стаіць і глядзіць.

— Вы нешта хацелі?

— «Яму» Купрына. — І выгляд, і голас у яго былі такія, быццам зараз ён сабраўся у нечым падашукаць Васкевіча.

Васкевіч якраз учора паўдня расстаўляў на паліцы

раскіданыя абы-дзе пасля вопісу кнігі і дабраўся акурат да «К»; ён нават помніў, што цяжкі новенькі двухтомнік Купрына стаіць паміж Купалам на рускай мове і «Выбраным» таго ж Купрына.

Іван даў яму час прачытаць зместы абодвух тамоў, «Выбранага», і толькі тады ўпэўнена сказаў:

— Не, не будзе тут «Ямы» Купрына. Сапраўды, не было.

— Можа, так што возьмеце? Вось, двухтомнік...

— Не, мне трэба толькі «Яма».

— Пачакайце, я запішу, і калі паеду ў горад, там папытаю, у гарадской бібліятэцы.

— І там не будзе, — завярнуўся і пайшоў. Што за «Яма»? Трохі здзіўлены такімі паводзінамі першага чытача, а таксама загадкавым творам, пра які раней ніколі не чуў, Васкевіч распрануўся, кінуў на стол куртку (вешалку трэба зрабіць) і хацеў далей разбірацца з кнігамі, як зноў затупалі ў калідоры. Зайшлі тры дзяўчынкі — адна зусім малая, а тыя, падобна, старшакласніцы. Васкевіч перасеў за свой стол, дзяўчаткі ціха прайшлі ў куток, да газетнай шафкі-стэлажа, і пачалі гартаць часопісы.

Трэба сказаць, што бібліятэка размяшчалася на вялікай плошчы, на месцы двух класаў, паміж якімі разабралі перагародку. Бібліятэкарская «кафедра» — стол, у шуфлядах якога зроблены аддзяленні для фармуляраў — стаяла злева каля самых дзвярэй, ля грубкі. Далей злева, паўз глухую сцяну чатырма радамі цягнуліся стэлажы з вузкімі, якраз чалавеку стаць, праходамі. Стэлажы займалі ўздоўж палавіну памяшкання. На другой палавіне, пасярэдзіне, стаялі чатыры сталы, у дальнім кутку, дзе цяпер тоўпіліся дзяўчаткі, — газетны стэлаж і часопісны столік, у бліжнім кутку, насупраць «кафедры» Васкевіча — шафка са скрынкамі для каталожных картак і стэнд для кніжных выставак. Са свайго месца Васкевічу можна было, і то толькі калі добра выцягнуць шыю, убачыць што робіцца каля

часопіснага століка; зусім добра, да самага акна, праглядаўся праход уздоўж глухой сцяны, — але два другія «лазы», як ні старайся, разгледзець немагчыма. Між тым дзяўчаткі, асмялеўшы, у сваіх, вядома, футрах пашыліся акурат у гэты дальні, нябачны праход.

— «Яму», «Яму» папрасі! — пачуў Васкевіч.

— Сама папрасі!..

Як быць? «А то знаю я гэтых дзевак!» — успомнілася Валянціна Мікалаеўна. Сапраўды, тут за раз пад футрамі можна вынесці паўпаліцы кніг... Правяраць на выхадзе? Альбо цяпер стаць у пачатку прахода і глядзець? Зрабіцца самому наглядчыкам, «пасвіць» людзей, як яго самога не так даўно «пасвілі» на інтэрнатаўскай прахадной? Нельга было так. А галоўнае, Васкевіч усё ж быў малады хлопец, і дзяўчаткі былі маладыя — проста па-мужчынску яму няёмка было б іх доўга разглядваць... «Ні цяпер, ні надалей наглядчыкам не буду!» — падумаў ён і астаўся сядзець і знарок пільна глядзець у акно перад сабою.

Дзяўчаткі кожная набралі па стосу кніг — дзіцячых і школьных праграмных. Васкевіч пачаў корпацца ў фармулярах і не мог знайсці ніводнага прозвішча з тых, што яму назвалі. Памагла старэйшая, як ён падумаў, дзяўчынка — румяная, з русымі непрыкрытымі кароткімі валасамі; яна, саромеючыся, ціхім голасам падказала:

— У нас свае, школьныя, — легла жыватом на стол, перавесілася і пальцам тыркнула ў скрыначку ў самым кутку шуфляды. — Вось, сёмы клас, Данілава...

— Я не думаў, што ты школьніца, — нічога лепшага за такі жарт не знайшоў прысаромлены Васкевіч.

Пакуль запісваў кнігі гэтай Данілавай Наташы («Божа, сёмы клас!»), яна расшпіліла футру і пачала абмахваць далоняй шыю. Вось тут думай: ці ад духаты яна расшпілілася — бо ад грубкі патыхала ўжо аж гарачынёй, — ці Васкевіч правільна зрабіў, што

вырашыў не прыніжаць сваіх чытачоў праверкаю і шпіянажам, і гэта было ацэнена, і цяпер дзяўчынка плаціла яму даверам на давер, паказваючы, што пад футрам нічога няма. Нагнулася распісацца ў фармуляры, і Васкевіч міжволі ўбачыў беленькія на чорным карункі школьнай формы; распісалася, адступіла — і ўбачыў белы школьны пярэднічак... Ах, як востра ўспомнілася школа, парты і чамусьці малюнак з чытанкі — грыб у траве пры дарозе з ссунутым капелюшом, і верш побач: «Ахінае восень восеньскім надвор'ем...»!

Выходзячы, дзяўчынка яшчэ затрымалася і ціха — аказваецца, ціха яна гаварыла не ад вядомай падлеткавай сарамлівасці, а проста быў такі голас — папрасіла, «ці не маглі бы вы ўзяць у горадзе Надара Думбадзе?»

— Тут няма, я яшчэ раней усё паперашукала...

Васкевіч паабяцаў.

У акно было відаць, як высыпалі на двор дзяўчаткі і, даўшы волю, смяяліся і штурхалі адна адну з вузкай сцежкі ў снег... Па вуліцы дзядзька цягнуў санкі, каля веснічак Іван шуфлем расчышчаў дарогу, і дзяўчаткі спыніліся і пагаварылі з ім — ён нешта адказваў і ківаў на бібліятэчныя вокны... На вуліцы дзяўчаты разышліся: адна павярнула да магазіна, Наташа з меншаю — на бокаўскую дарогу. Малая на хаду зачэрпнула з-пад ног снегу, зляпіла снежку, адкусіла, прыклала да шчакі... Васкевіч курыў каля акна, глядзеў ім услед, і сумна, і радасна, і трывожна было ў яго на душы... «Глянуць бы на цябе гадоў праз пяць, — думаў ён пра гэтую Данілаву, — дзе ты будзеш, якая, з кім?.. А вось я дзе буду праз пяць гадоў? Школьная форма, белыя каўнерыкі... Я для іх тое, чым для мяне ў іхнія гады была Зінка, Зінаіда Аляксееўна, настаўніца батанікі — дарослы, зусім іншы ад іх чалавек... А ёй было трохі за дваццаць... Гэтая Наташа не мясцовая, акцэнт не наш; адкуль яна ўзялася? Тут на дзесяткі кіламетраў кругом не знойдзеш прозвішча на «ов» ці «ова»...

«Праз пяць гадоў, — фантазіраваў ён далей, — ты будзеш замужняя пані, марудлівая, з русай касой цераз плячо, галаву будзеш паварочваць паволі, бы нехаця, даючы палюбавацца сваёй доўгай белай шыяю... Дзеці будуць рахманыя, белыя, тоўстыя, як парасяты...»

«Яны пайшлі, я падумаў: чаму ты не нарадзілася на гадоў пяць раней?..» — і Васкевіч схамянуўся. Апошнім часам у яго з'явілася звычка думаць так, быццам ён расказвае некаму.

Ён моцна сумаваў у гэтыя дні. Не было з кім перакінуцца нават словам. Брат у горадзе, матцы не скажаш чаго хацелася б. Ён паслаў у Мінск, Рамановічу, пісьмо на чатырох спісаных з двух бакоў лістах пра тое, як хадзіў у сельсавет і што бачыў у гарадской бібліятэцы, напісаў, што адрас яго не змяніўся, але цяпер лепш дасылаць яму лісты адразу на бібліятэку... Ведаючы, што Алесь зразумее, «асаблівае прывітанне» прасіў перадаць «адной сяброўцы»... Адказу пакуль не было.

Цяпер Васкевіч злавіў сябе на тым, што расказвае пра візіт дзяўчынак нібыта Лене, — расказвае і ўяўляе, як яна пасміхаецца, і — магчыма, — раўнуючы, цэдзіць праз вострыя зубкі: «Ну-у, Васкевіч, усяго ад цябе можна было чакаць, але сёмая кляса — гэта занадта! Я магла...»

«Дарэчы, «Яма»! — успомніў Антон. — Лоб разбіць, а знайсці і прачытаць», — і, каб не думаць больш быццам расказваць, узяў з паліцы двухтомнік Купрына, прысеў за стол. Так, «Алеся» — глядзеў фільм... «Кадэты» — змераў у пальцах таўшчыню, ого... Прачытаў першы сказ «Паядынка» і захапіўся. Што такое, калі гэта напісана?! Глянуў у каментарыі — вось так, сто гадоў назад. «Не быў я паручнікам і дзяншчыка не меў, але чаму так цікава? Вакзалы, як Рамашын, люблю, і люблю думаць пра сябе ў трэцяй асобе; «калі ён (я) убачыў тую школьную форму, цэлы віхор няўлоўных асацыяцый і ўспамінаў закружыў у ім...»

Паспрабаваў згадаць, што чытаў апошнім часам з

сучаснай літаратуры — такое, дзе б знаходзіў сябе. «Архіпелаг ГУЛАГ», рэпрэсіі, «Чонкіна»... Цікавыя кнігі, у іх было ўсё, акрамя яго, Антона Васкевіча.

«Пытанне: ці ў нас перавяліся класікі, што само па сабе было б зразумела ў век тэлебачання і магнітафонаў, ці я проста неначытаны і нічога не ведаю пра іншыя творы.... Бо што за выпадковасць — у першай жа кніжцы, з першых сказаў наляцець якраз на тое, што мне цяпер патрэбна? Ану, паспрабую...»

Ён выбраўся на сярэдзіну бібліятэкі, заплюшчыў вочы, раскінуў рукі і патрошку, каб не выцяцца аб сталы, пайшоў на крайні стэлаж. Торкнуўся ілбом у кніжкі, удыхнуў гэты спецыфічны, саладжава-прыемны пах, навобмацак выцягнуў адну... «Вайна з шумам каціласся на захад». Ужо не заплюшчваючы вачэй, перайшоў да наступнага стэлажа, узяў другую кніжку. Зборнік вершаў.

Мой брат камсамолец,

А я — піянер.

Мой брат трактарыстам

Працуе цяпер...

З наступнай паліцы выняўся зборнік апавяданняў. Першае — пра брыгаду муляраў і брыгадзіра, у якога «план гарэў»... Зборнік замежнай літаратуры, апавяданне ў сярэдзіне, першы сказ — «Ван Уик Брукс написал книгу под названием «Расцвет Новой Англии»...

— Ну і хай радуецца, — мармытаў Васкевіч, — гэта яго праблемы...

Ён пераходзіў ад аднаго стэлажа да другога, выкалупваў з паліц кнігі, з нейкім зларадным раздражненнем упіваўся вачыма ў сказы і, нават не дачытваючы іх да канца, адразу бракаваў. Што яму ўжо хацелася, ён і сам, відаць, не ведаў.

Але вось, разгарнуўшы чарговую кнігу, пачаўшы чытаць канцоўку апавядання, не змог адарвацца, словы не адпусцілі. І словы, між іншым, былі самыя звычайныя, простыя: «Думаў неяк спакойна, што і без яго будзе ісці снег, будуць стыць сінія марозы, будуць дыхаць белай параю ў палях разагрэлыя коні з аб'інелымі ласкавымі пысамі, а потым на сонцы будуць выгінаста блішчэць сляды ад палазоў... І ён адчуў, як не хочацца пакідаць гэтую зямлю, над якой ідзе снег, кружацца вішнёвыя пялёсткі, ідуць «сляпыя», як шчасце, дажджы, і потым за ўсю сваю зялёную радасць разлічваюцца ўвосень золатам лясы...»

Ах, як здорава! Гэтага пісьменніка варта запомніць і прачытаць усяго... Антону прыгадалася яшчэ адно падобнае апавяданне, дзе таксама паміраў чалавек, якое яны некалі праходзілі ў школе. Ён адшукаў тую невялічкую кніжку, знайшоў адразу і месца: «Стадо оленей, необыкновенно красивых и грациозных, о которых он читал вчера, пробежало мимо него... потом всё исчезло, и Андрей Ефимыч забылся навеки»...

І раптам аж дыханне перахапіла, рэзанула проста па жывому гэтае «о которых он читал вчера», — і такім салодкім болем адазвалася ў сэрцы!.. Вось гэтыя словы мелі права стаяць толькі ў такім парадку, як стаялі; нечым знаёмым, прадуманым, безнадзейна тужлівым і велічным, несумненным веяла ад іх...

Антон падышоў да акна. «И всё исчезло...» А для мяне нічога не знікла! Жыццё — вось яно: рука, цыгарэта, снег наліплы на акацыях, чорны плот, крывыя веснічкі...» І яму хацелася любіць гэты адліжны туман, і плот, і прыцемак, які ўжо запанаваў на двары і асабліва тут, у бібліятэцы, па кутках, хацелася любіць гэтыя кнігі і іх аўтараў... Ён уключыў святло. Так радасна — ціха, беспрычынна-радасна — яму даўным-даўно ужо не было. «Ды я сам яшчэ не здагадваюся, які тут у мяне скарб!» — падумаў ён, аглядаючы ўтульныя, стракатыя ад кніг паліцы.

## XI

Васкевіч ужо вешаў замок на знадворныя дзверы, як падышлі яшчэ чытачы, двое хлопцаў. Давялося вяртацца.

Аднога, большага, Васкевіч трохі ведаў са школы, помніў нават, як зваць — Пеця. Пеця гэты, калі закрылі іхнюю васьмігодку, давучваўся ў мястэчку. Васкевіч помніў яго, як нешта малое, галаватае, што вечна лазіла ва ўсіх пад нагамі на школьным двары і ў калідоры; помніў, што, бадай, не было такога перапынку, на якім Пеця не роў бы ўзахлёб — бо і пападала яму, вядома, як паганаму кату... Цяпер гэта быў мацачок гадоў семнаццаці, з вусікамі на шырокім квадратным твары, з пытлівымі разумнымі чорнымі вачыма. Відаць, ён вучыўся цяпер у горадзе і прыехаў на выхадныя, бо быў без шапкі — каб паказаць прычоску, — у харошай куртцы, у красоўках, хоць трэба было яшчэ ўмудрыцца прайсці ў іх сюды расталым снегам. Яго таварыш — тут, у памяшканні на святле, Васкевіч разгледзеў, што гэта не хлопчык, як падалося яму ў цемры на ганку, а нізкарослы мужчынка гадоў за трыццаць — быў у старой, заляпанай кухвайцы (ах, нязменны сімвал савецкай вёскі!), у гумовіках з адкочанымі да нізу халявамі, ад чаго быў падобны на маленькага кінакамедыйнага каўбоя. У бібліятэку ён прынёс пах сіласу і таго, што вясною на палі вывозяць. Спартыўная шапачка-грабеньчык збітая набок, твар маленькі, увесь пашчапаны маршчынамі, парослы пухам — быццам гэта дзіця гадоў сямі не паспела вырасці і пастарэла... Зрэшты, глядзець ён стараўся смела і па-п'янаму нахабна — маўляў, бачылі мы і не такіх, і не думай у чужым манастыры заводзіць свае законы.

Пеця яшчэ на ганку павітаўся з Васкевічам за руку, назваў па імені, спытаў, ці надоўга сюды. Мужчынка не павітаўся, а ў бібліятэцы, не паспеўшы стаць на парог, плюнуў пад ногі. Пеця крыкнуў:

— Ручка! — і збянтэжана, бы просячы прабачэння,

патлумачыў Васкевічу: — П'яны, не звяртай увагі...

«Ручка», як зразумеў Васкевіч, была мянушка, якія заўсёды ёсць у такіх непрыкаяных.

Ручка скоса зіркнуў на Пецю, але паслухаўся, нехаця расцёр плявок ботам і толькі больш размазаў гразі з падэшвы.

— У цябе «Яма» Купрына ёсць? — сказаў ён грубым нізкім голасам, нечаканым для сваёй камплекцыі.

— «Яма»! — Пеця засмяяўся, ківаючы галавою, запрашаючы і Васкевіча смяяцца і нічога ўсур'ёз не прымаць. — Ляпне ж такое!.. Ды ты чытаць ужо не ўмееш, як той Пульс іхні!

Зарагатаў і Ручка, узрадваўшыся:

— Пульс?! Калека тая дваццатага века?! «Бабу, бабу мне знайдзіце», — перадражніў ён, выскаляючы счарнелыя зубы.

Васкевічу аж брыдка стала, неяк дзікавата ад гэтага рогату: адзін такі нягеглы, недапечаны, смяецца з другога такога ж... «Ды Пульс цябе б пстрычкаю забіў бы», — падумаў ён, яшчэ раз аглядаючы шчуплую дзіцячую фігурку.

Пеця папрасіў ключ ад пакоя-«клуба», сказаў, што Ліда (бібліятэкарка, што была да Васкевіча) заўсёды давала. Сёння пятніца, і сабярэцца «маладзёж», у карты пагуляюць, магнітафон паслухаюць. Ручка тым часам, хістаючыся, пасунуўся ўглыб стэлажоў. Не паспеў Васкевіч адчапіць з кальца ключ, як за стэлажамі пасыпаліся на падлогу кнігі, бухнула нешта цяжкае... Васкевіч з Пецем кінуліся туды і ўбачылі, што Ручка сядзіць на падлозе і запіхвае пад кухвайку таўсценную кнігу. Пеця вылаяўся, даў яму ў патыліцу, кнігу адабраў і, памагаючы тумакамі, павёў яго да дзвярэй.

— А ты не думай... — стараўся павярнуцца да Васкевіча няўдалы злодзей. — Паняў?

Пеця выпхнуў яго ў калідор, вярнуўся і зноў папрасіў не звяртаць увагі:

— Ён толькі калі п'яны — дурны... Хочаш, і ты аставайся? У карты пагуляем...

Васкевіч адмовіўся. Яны выйшлі разам, было ўжо зусім цёмна. Ручка сядзеў на ганку і курыў. Ад Бокаўкі, з лесу, наплывала светлая пляма — вячэрні аўтобус вяртаўся ў горад. Васкевіч ледзь паспеў дабегчы да прыпынку і ўскочыць у заднія дзверы. У аўтобусе, і калі ішоў цёмнай вуліцай дахаты, успамінаў сваіх чытачоў, і зноў на душы было сумна — сяброў яму тут не будзе, гэта ясна, як дзень белы... Трэба звыкацца з адзінотаю, а на які час — хто ведае?..

Пасля выхадных, у панядзелак, аўтобуса не было, і Васкевіч прыйшоў у Двароўку пешкі, ступіў на бібліятэчны двор, падняў галаву — і сэрца абарвалася. Акно, што насупраць яго «кафедры», каля якога ён любіў курыць і думаць, чарнела пустатою: дзве шыбкі былі разнесены ўшчэнт. Калі выбілі? У пятніцу? Няўжо два выхадных так і прастаяла?! Агледзеў снег, рамы, зазірнуў у сярэдзіну — не, не падобна, каб лазілі. Тады чаму разбілі? Ключоў няма — дамаўляліся, што Пеця пакіне бабцы... Тут з-за вугла, ад пошты выскачыла бабка, завойкала, аддала ключы:

— Вызывайце міліцыю! Яго ўжэ хацелі забіраць лячыцца, ужэ ўчастковы казаў — хай толькі шчэ раз!..

— Каго?

— Ручку тую малахольную! Як вуп'е, такая гадасць несусветная! Не давайце ім больш ключы!..

Васкевіч зайшоў у бібліятэку, прабег вачыма па стэлажах — як стаяла ўсё, так і стаіць, нічога не ўкрадзена. Каля акна валяецца пабітае шкло, пасярэдзіне на падлозе яшчэ невысахлая вада... Снежкамі разбілі. Проста так, ні за што, на злосць — бо ён не такі, як яны... І Пеця гэты не мог умяшацца!.. Што за людзі, што ў іх у галовах, чым яны жывуць?..

Бабка кінулася прыбіраць.

— Сцякла ж няма, мо б Іван паставіў, — казала яна, — дык і Йвана няма, паплёўся ў лясніцтва, зноў нап'ецца, бо ў тых палучка...

— А калі да гэтага схадзіць, Ручкі, — хай ставіць, раз выбіў.

— А Божа! — пляснула бабка ў далоні. — Ён паставіць! Ён не здолее дошкі ў плот прыбіць.

— А што ён робіць, працуе дзе?

— На трахтары, жыжку возіць на поле. Жыве адзін з маткаю, п'е, як дурны які...

«Ладна, — падумаў Васкевіч, — шуму не падымаць, сабе ж даражэй...» Наказаў бабцы пабыць тут, блізка дзе, зняў шнурком размеры, схадзіў назад, дамоў, забраў з гарышча два кавалкі шкла, што маці хавала на чорны дзень, пацёгся назад у Двароўку, у магазіне купіў шкларэз. Адрэзалася роўна, у акурат, нідзе не трэснула, — і пакрысе супакоіўся — правільна, так і трэба, сам, маўчком. Са сваімі законамі ў чужы манастыр не суйся. Калі прыбіваў штапікі, упаўзла ў двор бабка нейкая на двух кіёчках, яшчэ здалёк загаласіла:

— А мой ты сынку, прасьці яго!..

Плакала, «бо Валера мой не жэніцца», і не йдзе за яго ніхто, што яго хочуць выганяць з работы, а так ён, калі цвярозы, «дабрачы», «што і ў мяне ж сэрца, як і ў каждай маткі, за яго баліць»...

Найбольш уразіла Васкевіча, ледзь не да саромных слёз давяло, што гэтая бабка з кіёчкамі марыць пра ўнукаў, і што паганенькі Ручка для яе ніякі не Ручка, а родны сын, у якога, як і ў кожнага чалавека, ёсць імя — Валера; яна так і заве яго, і, відаць, ёй крыўдна, што людзі дражняць яго нейкай сабачай мянушкай; сын, якога яна песціла малога, любавалася ім і спадзявалася, верыла, што калі ён вырасце, будзе ёй помач і абарона.

## XII

Скончыўся люты, і адразу ж, за якіх пару дзён скончылася і тая слотная, адліжная зіма 91-га года. Толькі дзе-нідзе ў полі, у лесе, каля платоў і ў ямках паўз дарогу пааставаліся латкі старога снегу. Замаразкі прапалі, і ўночы было цёпла, як і днём. Другія суткі амаль без перапынку церушыўся нудны дождж ык.

Увесь час цягнула ў сон, а выспацца не можна было. Васкевіч прачынаўся раніцаю і не мог дапяць, што цяпер — вечар ці ранак? Усё тая ж цемрадзь за акном, капае, ціхенька шоргае аб рамы дождж, запацелыя шыбы...

З гэтай вясной, з гэтым дажджом прыпоўз такі сум, што выць хацелася. Адзінота, такая доўгая, і якія ўсе аднастайныя дні!

Увойдзеш з двара ў хату, як ні абцірай ногі, сляды астаюцца. І ад гэтага брыдка, сумна, адзінока. Лямпачка, такая няўтульная раніцаю, слаба свеціць жоўтым святлом (яркую матка шкадуе ўкручваць — шмат энергіі бярэ); сядзеш есці, падзёўбаеш відэльцам учарашнюю падагрэтую бульбу, нясмачную, цвёрдую, напішаш пальцам на запацелай шыбе «Лена» ці «Жыве Беларусь» — і вытраш адразу ж, з нейкай злосцю... Нашто ўсё, каму ты трэба, якой Лене, якой Беларусі?!.

Паеў, у Двароўку заехаў, на пошту забег, па бібліятэчныя газеты і часопісы — цэлы пак, і ніводнага пісьма... З Мінска ні слуху ні духу! І ўжо не хацелася думаць так, быццам расказваеш Лене ці Рамановічу. Гартаў часопісы, упіваўся вачыма ў газетныя рубрыкі, загалоўкі — і не мог чытаць, звыклая злосць запаўняла ўсяго, не верыў ніводнаму слову. Нашто гэта пішуць, для каго?.. Няўжо яшчэ нехта можа верыць у гэта?!. Уключаў свой маленькі галасісты «Сокал», які прынёс з дому, — тое ж самае: палітыка, рэферэндум, «паўлаўскі» грашовы абмен... Курыў, хадзіў па

бібліятэцы з кутка ў куток, чытаў кнігі;

калі была ахвота, калупаўся ў каталозе, прыводзіў да ладу алфавітныя карткі. Абедаў хлебам з салам, салёным гурком. Пёрад вячэрнім аўтобусам, калі трэба было ўжо зачыняцца, наўзгад даставаў пяць-шэсць фармуляраў (столькі чытачоў па планах павінна было ў дзень прыходзіць, але, вядома, не прыходзіла), запаўняў, у дзённік запісваў: школьнікаў — 2, пенсіянераў — 2, служачых — 1, калгаснік — 1; кніг узялі: мастацкіх — 10 (з іх на беларускай мове — 5), грамадска-палітычных — 3... Цёмна вяртаўся дадому, глядзеў тэлевізар, спаць лягаў.

Ну, працуе. Ну, месяц прайшоў. Ну і што? Для чаго ўсё?

Васкевічу думалася, што ён проста яшчэ ніколі не жыў самастойна, як дарослыя людзі жывуць. Возьмем школу — усё ясна, настаўнікі над душою, ведаеш, што гэта ім трэба, каб ты давучыўся да канца і атрымаў атэстат. Армія — яшчэ ясней, кожны яфрэйтар — начальства, ведаеш, што гэтаму начальству патрэбна, каб ты адбарабаніў сваё і вярнуўся дамоў. Інстытут — выкладчыкам трэба, каб ты вывучыўся і адпрацаваў за тыя грошы, што дзяржава ў цябе ўбухала... Заўсёды некаму трэба было, каб Васкевіч рабіў тое й тое. А цяпер каму ён трэба? Нікому. Аддадзены сам сабе. Хочаш — сядзі хоць да пенсіі ў бібліятэцы, не хочаш — кідай, шукай што другое.

Проста нічога не аставалася, як верыць, што недзе нехта ўсё ж помніць пра яго і, магчыма, у гэтую вось хвіліну нехта ў некага пытае: «Ну, як там наш выгнаннік?» — «Прыцішэў, гібее ў сваёй бібліятэцы!» — «Вось і добра, нагляду за ім не здымаць!..»

Увечары можна прайсціся па вёсцы: у адзін канец, дзе дарога на станцыю, у другі — дзе шаша з горада на Двароўку... Ціха, цёмна, глуха, нават тэлевізары мала ў якіх вокнах свецяцца, сабакі маўчаць, толькі гразь пад гумовікамі піскае, ды дождж ледзь чутна стракоча аб брызентавую накідку... Калі хто сустрэнецца, буркне нешта на твой «добры вечар» і доўга яшчэ будзе стаяць

і глядзець табе ў спіну — быццам ты з турмы збег... Можна да Пульса зайсці, пасмяяцца, як ён чытае — ён ведае амаль усе літары, але не ўмее злівацъ іх у склады і выдумляе абы-якія словы: замест «Гомельскія навіны» чытае «голыя ногі», замест «мастацкі фільм» — «майсцер Хведзя» (дзядзька Хведзя — яго сусед)... Пасядзіш, пасмяешся, але праз міг так абрыдне, што захочацца хоць зноў у цемру, пад дождж...

Перад мінулымі выхаднымі ўсё ж астаўся паглядзець, што за двароўская «маладзёж». У такім жа вялікім, як і біблятэка, памяшканні з двух ранейшых класаў, у адным кутку, абсеўшы лаўку, гулялі ў «храпа» — Пеця, Ручка, нейкія малыя, нейкі чорны, калматы, як цыган, з доўгімі бруднымі пазногцямі, якому ішла карта і ён увесь час крычаў: «Са мной!», «Верталёт!», «Тры ўзяткі!»; побач, проста на падлозе, — літровы слоік самагонкі — хто хоча падыходзь, налівай, пі... Усе, у тым ліку і малыя, курылі бесперапынна. У другім кутку, дзе таксама стаялі лаўкі, дзявочая кампанія слухала магнітафон. Была там маленькая, худая і гадкая дзяўчынка, якая пстрыкала клавішам, пераганяючы касету, і лаялася матам. Была баба гадоў пад трыццаць з грудным дзіцём, танцавала, прыціскаючы гэтае дзіцё да сябе. Час ад часу дзіцё заходзілася плакаць, тады з кутка карцёжнікаў крычалі: «Глушы байстручаня!», а баба спакойна адказвала: «Уйди, скройся!». Была нейкая Люда, даволі мілавідная, сядзела сабе ціхенька на лаўцы. Васкевічу, што стаяў слупам каля карцёжнікаў і, як і ўсе, курыў, убачылася ў ёй нейкая блізкасць, роднасць душаў, падумалася, што яна, мабыць, задыхаецца тут, у гэтым балоце, рвецца да жыцця, і проста няма каму ўзяць яе за руку і вывесці «на сонца», і што гэтым чалавекам можа стацца ён, Васкевіч... Ён быў ужо наважыўся астацца тут, выпіць; магчыма, пагуляць у таго ж «храпа» — каб «зліцца з масамі» і каб потым было лягчэй з ёю пазнаёміцца. Але Люда, пасядзеўшы ў рамантычным задуменні, пазяхнула, падышла да карцёжнікаў, стала ззаду, абняла цыгана, пачала падказваць, чым хадзіць... Той адмахваўся, смыкаў плячыма — перашкаджала трымаць карты; Люда яшчэ мацней ашчаперыла. На Васкевіча

ніхто не звяртаў увагі. Ён сабраўся і пайшоў, і ніхто яго не пазваў, не папрасіў астацца.

У горадзе, калі ездзіў атрымліваць першую палучку, заскочыў да брата Сцяпана. Той якраз збіраўся на працу ў другую змену, і не пагаварылі добра — так, перакінуліся парай слоў, пакуль Антон праводзіў яго да прыпынку і пакуль чакалі рабочы аўтобус. Сцяпан быў не ў гуморы. Такім Антон яго рэдка бачыў і не любіў такога. На пытанне, што новага, крутнуў галавою — нічога.

Антон загаварыў пра блізкі рэферэндум, сказаў, што апошнім часам раптоўна перастаў усяму верыць і, відаць, зусім не пойдзе галасаваць.

— А я пайду, — сказаў Сцяпан. — За саюз. Дастаў бардак гэты за шэсць гадоў... Шэсць гадоў бардаку, а дабіліся таго, што гарэлка была па пяць, а стала па дзесяць. І тую купі паспрабуй!..

— Ну чаму — у нацыянальным плане... — пачаў быў Антон — трэба ж было яму нешта гаварыць.

— Што ў нацыянальным? Зараз, глядзі, я табе пакажу ўсе перамены...

Ён выцягнуў з торбачкі газетны скрутак («А там сала, хлеб, салёны агурок...» — падумаў Антон, адгарнуў край газеціны:

— Вось, наша «брахалаўка», — помніш, была ўся па-беларуску? А цяпер, глядзі — уся, акрамя «шапкі», па-руску... Вось гэта адзіныя перамены ў нацыянальным плане!..

Прыязджаў у бібліятэку старшыня сельсавета Лобан, на «Масквічы» з будачкай, наказаў нікому больш не даваць ключы ад «клуба», бо тут будзе ўчастак для галасавання, а ён, Васкевіч, прызначаецца сакратаром гэтай «галасавальнай» камісіі. Усе бібліятэкары ў час выбараў заўсёды былі сакратарамі. Васкевіч вымушаны быў прымацаваць на дзвярах бібліятэкі і магазіна

плакаты такога зместу:

*БЮЛЛЕТЕНЬ*
*для голосования на референдуме СССР 17 марта 1991 года*
*Считаете ли Вы необходимым сохранить Союз?*
*ДА НЕТ*
*Если Вы за мир и согласие, зачеркните НЕТ!*

І сорамна, прыкра было чапляць гэтыя хітрыя і разам з тым падлізлівыя да людзей плакаты; Васкевіч разумеў, што лепшай, большай прапаганды і не трэба, і дзе-дзе, а тут, на яго радзіме, пагалоўна будуць крэсліць «НЕТ» (напісалі б закрэсліць «ДА» — было б закрэслена «ДА»), а ён, «шчыры незалежнік», беларус Антон Васкевіч, сваімі ўласнымі рукамі памагае праводзіць гэтую агітацыю...

Перад 8-ым сакавіка стала асабліва адзінока. Каго павіншаваць? Лену? І гэтае віншаванне не дойдзе, як здарылася, хутчэй за ўсё, з тым яго вялікім лістом... Васкевіч плюнуў на ўсё і замест бібліятэкі паехаў ранішнім аўтобусам у горад. Дзень урэшце выпаў сонечны, па-веснавому свежы, малады. Лёгкі ветрык цягнуў з Прыпяці, рабацініў ваду, шоргаў аб бераг слабымі хвалямі. Васкевіч палюбаваўся на раку, пазайздросціў дзядзьку, што з лодкі каля самага берага цягаў адну за адной чырвоных тоўстых плотак... Вось у чалавека выхадны, выбраўся на рыбалку, дома жонка, дзеці, прынясе сетку рыбы, дзеці бегаюць вакол, тармусяць, распытваюць, як клявала гэтая, як сарвалася тая, самая большая, просяць і іх узяць другі раз — хоць з берага паглядзець... Жонка бурчыць, што «зноў усю ванну засмярдзеў сваёй рыбаю!», а сама, нябось, радая, што чалавек дома, а не таўчэцца, як другія, каля магазіна... Вось юшка гатовая, чарку вып'е, тэлевізар паглядзяць ці пойдуць гуляць у гэты ж парк...

Трэба было хоць матку павіншаваць. Нічога не прыдумаў, як купіць ёй новыя галёшы. Заглянуў у кнігарню на плошчы, выбраў святочную адкрытку (?) — самую прыгожую, дарагую, з пазалочаным абадком... Каля кнігарні бабкі продаюць цюльпаны — цэлыя вёдры

якіх хочаш: чорныя, чырвоныя, пярэстыя, жоўтыя... «Маладой хлопец, купіце!» — «Няма мне каму дарыць». — «То што ж ву тады за маладой хлопец?»

Да аўтобуса яшчэ было часу, і Васкевіч патуляўся па прывакзальных магазінчыках, купіў яблык, цукерак, у буфеце — пляшку шампанскага з сабою. Вось і цудоўна, што больш трэба? — «паеду зараз у бібліятэку і вып’ю адзін. Шкада, што гарэлкі няма!» У душным аўтобусе прыдрамаў і не заўважыў, як на павароце ад мястэчка да іхніх вёсак села ў аўтобус яго знаёмая. Калі кранулі за плячо, падняў галаву — а, Наташа? Як яе... Данілава.

— Чаму ты не заходзіш? — ён пасунуўся, дзяўчынка прысела побач, абцягнула на каленях пярэднічак сваёй школьнай формы. — Я даўно ўзяў твайго Думбадзе...

— Цяпер магу заехаць.

І зноў, як і тады, у бібліятэцы, на міг у ім адбылося «змяшэнне часоў»; здалося раптам, што і ён школьнік, і вось вяртаецца са сваёй аднакласніцай дамоў... Гэта было здорава, але хутка гэтае адчуванне прайшло.

Трэба было нешта гаварыць. Але пра што? Відаць, пра тое, пра што могуць гаварыць дарослы з дзіцям — паблажліва, паказваючы, што хоць я і даю табе ўвагу, але ў мяне поўна сваіх, дарослых клопатаў.

— Скончыліся ўрокі? — спытаў ён.

— Не, нас адпусцілі — мяне і Наташу — мы лепш за ўсіх дыктант напісалі.

— Дык ты малайчына. На пяцёркі вучышся?

— Не, што вы! Дзве чацвёркі і дзве тройкі...

— А чаму ты так добра дыктанты пішаш? Чытаць любіш?

— Люблю.

— А што больш?

— Беларускае ўсё чытаю... тады «Честь» Мядынскага. Там пра Антона, як і вас звалі, — яна зірнула на Васкевіча сваімі шэрымі спакойнымі вачыма.

«А яшчэ той Антон нешта краў, сядзеў у турме, і перавыхаваўся, і пайшоў культурна на заводзік, стаў за станочак... Такі ж фальш, як і ў мяне цяпер на душы! Ды не зможаш ты быць з ёю, як дарослы з дзіцям. Бо ніякі ты не дарослы і ніколі ім сябе не адчуваў, а яна... яна не такое ўжо і дзіця! Вунь пярэднічак вышэй калень, а ногі не горшыя за Леніныя; вунь правая грудка як торгаецца — «сэрцайка б'ецца дзявочае»; вунь пальчыкі сарамліва перабіраюць ніз пярэдніка, а вочы гэтыя шэрыя глядзяць так ласкава, а вусны поўненькія, а шчочкі чырвоныя — усё як у самай звычайнай дарослай дзяўчыны... Яна падабаецца табе, жаданая табе — вось гэта не фальш! І яна бачыць, ведае гэта, ужо адчула, і не памогуць тут ніякія напусканні на сябе дарослай паблажлівасці!»

— Дзе ваша хата? — спытала дзяўчынка, гледзячы ў акно; якраз праязджалі Васкевічаву Сасноўку.

— Там, у другім канцы, каля рэчкі...

«Як нашаптаў мне хто купіць гэтае шампанскае... Калі яна згодзіцца трохі пабыць у бібліятэцы, буду піць, смялець, і як-небудзь змагу яе зацікавіць...»

А пакуль на яго напаў маўчун. Моўчкі даехалі да Двароўкі, зайшлі ў бібліятэку, дзяўчынка прысела за стол, паставіла каля ног партфель. Васкевіч, каб пачаставаць яе яблыкам, палез у сумку і ўбачыў адкрытку.

— Во, тое што трэба... На, віншую цябе з жаночым днём.

Яна аж не паверыла:

— Праўда? — узяла, пакруціла ў пальцах і забылася падзякаваць.

— А вы сваю дзяўчыну павіншавалі? — спытала яна раптам.

Васкевіч хацеў сказаць — як бабкам на плошчы, — што яму няма каго віншаваць, але вядомая ў такіх выпадках хітрасць шапнула яму, што трэба, каб гэтая дзяўчынка ведала пра Лену.

— Не, — адказаў ён.

— Паслязаўтра ж восьмае! А адкуль яна?

— З Менску.

— Адбіце тэлеграму.

«А сапраўды... Сам не мог прыдумаць... Лісты правяраюцца, а віншавальная тэлеграма каму трэба! І аб сабе знак падам, і яна вымушана будзе адказаць, хоць пару слоў...»

— Малайчына ты... Давай тады разам прыдумаем тэкст.

Яна з гатоўнасцю, хітравата і задаволена ўсміхаючыся, удзячная, што ў яе папрасілі такой няцяжкай дапамогі, пачала дэкламаваць:

— Пусть солнце нежных глаз коснется, и счастье...

— Усё гэта, мілая Наташа, банальшчына. Ды яна і чытаць па-руску не стане... Самыя прыемныя словы — простыя, звыклыя, шаблонныя... Давай так: «Лена, віншую цябе са Сьвятам. Жадаю шчасьця». І ўсё.

— Лена, — паўтарыла дзяўчынка.

Васкевіч папрасіў яе пасядзець тут трохі, забег на пошту; думаў, управіцца хутка, але там было поўна людзей — якраз давалі пенсію. Вяртацца не стаў, дачакаўся сваёй чаргі, выцерпеў, калі сярод мёртвай цішыні паштарка, знарок няправільна выгаворваючы словы, перапытваючы яго ўвесь час, па тэлефоне прадыктавала яго тэлеграму ў горад, на паштамт... Яму здалося, што пратырчэў тут мо з гадзіну, і ён упэўнены быў, што дзяўчынка пайшла.

Але яна смірненька сядзела на тым жа месцы, дзе й

сядзела.

— Усё; Наташа, — будзеш тут са мной да вячэрняга аўтобуса.

— Ну і што. Што мне там дома рабіць?

— Урокі вучыць.

— У нас чатыры дні канікулы.

— Ну, тэлевізар глядзі.

— У нас няма. Васкевіч уразіўся:

— А радыё?

— Ё. І прыёмнік, «Акеан». Толькі ён адзін «Маяк» ловіць...

— Ты сказала «ё» — вы ж не мясцовыя?

— Не, мы з Магілёўшчыны, з «зоны»... Далі тут хату.

— А якая ў вас сям’я?

— Матка, бацька, брат большы, сястра большая...

— Знайшлі куды высяляць! Быццам у нас тут меншая «зона»... Ды проста па карце глянуць — мы ж у два разы бліжэй да Чарнобыля, чым Магілёўшчына... Точна тыя ж самыя «грабавыя» плоцяць... А дзе было лепш, Наташа? — спытаў Васкевіч. — Ну, прырода там, людзі...

— У нас, вядома! Мы можа, будзем назад вяртацца. Яна ўздыхнула, і Васкевіч раптам адчуў да яе пяшчоту, як да сястры — «Беднае дзіця, любіць сваю Магілёўшчыну, такая вырасце сапраўдная беларусачка...»

Ён убачыў, што адкрытка яго ляжыць перад ёй на стале, акуратна загорнутая ў лісцік са школьнага сшытка.

— Дай, я табе надпішу...

Напісаў — «Мілай Наце на 8-га сакавіка, са шкадаваннем, што яна пазнавата нарадзілася», — падаў. На яго здзіўленне, яна, прачытаўшы, як бы і не ўзрадвалася, спытала:

— А колькі вам гадоў?

— Дваццаць адзін. Яна гмыкнула:

— Мая сястра ў сёмым класе... нарадзіла дзіця, а ён быў старэйшы на дзесяць гадоў. А я за вас усяго на сем.

Не яна засаромелася, а Васкевіч; ён не ведаў, што сказаць, уключыў «Сокал», тады спахапіўся:

— Хочаш, вазьмі гэты прыёмнік? Таксама як падарунак. На!..

— Што вы — ніколі! Вы і так добры.

— Вясковая дурная беларуская сціпласць, — прамармытаў Васкевіч, падумаўшы, колькі ён сам паспеў ужо ў жыцці намучыцца з-за гэтай сціпласці.

— Лепш я да вас буду прыходзіць і слухаць, — і падняла на яго шэрыя вочы і не адводзіла іх.

— Прыходзь, толькі пры ўмове — калі перастанеш выкацца.

— Вы ўсё ж старэйшы...

— Ну, дзякуй, — Васкевіч хоць і жартаваў, але нейкая крыўда варухнулася ў ім. — То расказвала пра сястру, а то я ўжо здаюся табе дзедам у дваццаць адзін год.

— Не, што... ты! Я так сказала. Як хочаш, так і будзе...

— Тады давай вып’ем — на «ты», — сказаў ён, дастаючы шампанскае. — Калі ўжо растлеваць непаўналетніх, дык да канца... («Якая дзікасць, Божа мой, што я вярзу?!»)

Яна сапраўды прасядзела да самага вячэрняга аўтобуса. Чытачоў ніводнага не было. Васкевіч адзін выпіў усю пляшку, але ап’янеў чуць; язык яго мянціў не

перастаючы. Пра такога слухача можна было толькі марыць, і Антон у той вечар адвёў душу за ўсе месяцы, дні і гадзіны свайго змушанага маўчання...

Калі яна паехала, Васкевіч, стоячы каля любімага акна, пазіраючы, як хаваюцца ў лесе агні аўтобуса, думаў:

«Дзякуй табе, мілая дзяўчынка!..» Потым спахапіўся, што так і не аддаў кніжку Думбадзе; кніжка ляжала на стале, а на ёй — пластмасавы кубак з недапітым шампанскім...

Абое яны проста забыліся пра класіка Надара Думбадзе.

## XIII

Перад 17-м сакавіка бабка вымыла вокны, вышаравала падлогу ў калідорах і ў «клубе». Васкевіч памог Івану перанесці з бібліятэкі ў «клуб» сталы; з каморкі, з-пад featured рознага друзу выцягнулі дзве чырвоныя, аблупленыя, брудныя урны, у кутку «клуба» збілі з фанеры кабіны «для тайнага галасавання», бабка павесіла шторы — «ад тых вубараў», заслала сталы чырвоным паркалем, паабтыркала хваёвымі лапкамі ўваходныя дзверы і кабіны... Бабка была вясёлая, прыбраная, Іван цвярозы, спаважны, у новай шапцы — словам, да рэферэндума гэтага (ні бабка, ні Іван і слова такога не маглі вымавіць) рыхтаваліся сур’ёзна, урачыста, як да якога вялікага хрысціянскага ці паганскага свята.

Васкевіча падчас гэтых падрыхтовак — а ён воляй-няволяй вымушаны быў памагаць — не пакідала адчуванне, што робіцца нешта несапраўднае, бутафорскае, падманлівае для людзей, нешта, па-руску кажучы, «жалкое»... Точна такое ж ён перажыў ужо адзін раз, у арміі, дзе ўпершыню давялося галасаваць. Як жа іх тады вымучылі, колькі марынавалі на розных сходах, як па адным выклікалі да зампаліта-капітана для інтымных размоў!.. «Падумайце яшчэ, добра

падумайце! І лепш адразу прызнайцеся — хто не хоча галасаваць? Можа, хто веруючы,— дык скажыце; можа, у каго ў сям’і былі асуджаныя за палітыку — прызнайцеся, не цягніце!» Не было такіх ва ўсёй роце, усе хацелі галасаваць, але зноў і зноў збіраліся сходы, і зноў напрамілы Бог упрошвалі ў нечым прызнацца, нешта ўспомніць... У час адной з такіх гутарак-упрошванняў, адзін на адзін з зампалітам, асалавелы Васкевіч ледзь не нагаварыў на сябе — маўляў, веру ў Бога, таму не магу галасаваць, — каб толькі адчапіліся ад душы. А як ім хлусілі, што дзень выбараў будзе самым «дэмакратычным» днём! Ніхто не ведаў, што гэта такое. Аказваецца, каманды «пад’ём!» не будзе, могуць спаць колькі ўлезе. «Пад’ёму» сапраўды не было, але без пятнаццаці шэсць ротны ціхенька прывёў у казарму двух украінцаў-музыкаў, з баянам і бубнам, пасадзіў іх побач на табурэціках, даў знак — і музыкі, маладыя хлопцы з вучэбкі, «урэзалі» такога гапака, што палавіна роты пасыпалася з верхніх ярусаў — думалі, «трывога»... Да сямі раніцы ўся як адзін чалавек часць прагаласавала. На сняданак далі — сярод рускай траскучай зімы — па добрай порцыі салаты са свежых гуркоў, памідораў і зялёнай цыбулькі ў алеі. Вось тым гапаком ды смачнай салатаю і запомніліся тыя выбары, і яшчэ — адчуваннем сораму за сябе і за ўсіх, і боязі зрабіць нешта не так і гэтым пакрыўдзіць зампаліта, ротнага, хлопцаў «хахлоў» з іхнім гапаком...

І цяпер, памагаючы Івану і бабцы, Васкевіч таксама напускаў на сябе сур’ёзнасць, гнаў ад сябе сорам і адчуванне ўбоства ўсяго, што робіцца. Ну, хай ты такі разумны — але людзі вераць, і ты вер, ці хоць бы рабі выгляд, што верыш; нават у душы не пагарджай... Будзь як усе і менш думай.

— Хіба цяпер так галосяць (галасуюць), як колісь? — казала, разаўспамінаўшыся, матка. — От тады, пры Сталіне! Зіма, мяце, свету белага не відно, Сцяпаніха ляжыць памірае, а яны падляцелі на санях, закруцілі ў кажух, кінулі яе ў санкі, як даўбешку, і паперлі на ўчастак!

Казала гэта маці з павагай, адабрэннем. «І ні пры чым тут Сталін, — думаў Васкевіч, — а тое пры тым, што жыла гэтая бедная затурканая Сцяпаніха, нікому не патрэбная, — і раптам спатрэбілася некаму! Ды так, што сані па яе прысылаюць, у кажух кутаюць... А людзі ўсё бачаць...»

— А ты за што будзеш галасіць? — спытала маці.

— А ты?

— За саюз савецкіх рэспублікоў! — урачыста адказала маці, нават інтанацыяй падстройваючыся пад кагосьці, ад каго магла пачуць гэта. — Бо інакш прападзём, как рудыя мышы!

— А я — ніяк не буду, — больш каб падражніць яе, сказаў Антон.

— Ну-ну! — засмяялася, ківаючы галавою, маці. Відаць, для яе не пайсці галасаваць здавалася большай крамолай, большым святатацтвам за любы грэх. — У цюрму ўміг забяруць!

Антону раптам прыйшла ў галаву цікавая думка, і яму расхацелася спрачацца з маткаю і даказваць ёй нешта. Да апошняга часу ён усё ніяк не мог вызначыцца — як усё ж быць на гэтым рэферэндуме, чый бок прыняць? Месяцы два назад для яго не было б тут ніякіх праблем — вядома, удзельнічаць у рэферэндуме, хоць і здагадваючыся, што гэта чарговы падман людзей; вядома, прагаласаваць за незалежнасць Беларусі ад каго б там ні было...

Але цяпер, будучы столькі часу ў адзіноце, калі проста вымушаны пра многае добра падумаць (як упрошваў некалі зампаліт), забыты сябрамі, начытаўшыся «сур’ёзных» кніг, героі якіх так з’едліва-саркастычна ставіліся да ўсіх задумаў людскіх, так пагарджалі «мітуснёй побытавай», — цяпер Васкевічу карцела зрабіць нешта адваротнае таму, што робяць усе.

Думка, якая прыйшла яму ў галаву пасля славутай

матчынай «цюрмы», была вось якая (прыйшоўшы ў бібліятэку, ён нават занёс яе ў сшытачак, каб яшчэ лепш для сябе праясніць):

«Ты верыш, што калі закрэсліш «ДА», гэта нешта дасць Беларусі? Нават не адзін ты, а калі ўся Беларусь гэтае «ДА» закрэсліць?

Магу зразумець кліч «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» — і праўда, узяць, урэшце, аўтамат ці абрэз і пайсці ў гэты вунь лес заслужваць, заваёўваць Незалежнасць.

Магу зразумець, калі ўсе як ёсць беларусы — ад Езярышчаў на Віцебшчыне да Славечны на Гомельшчыне — возьмуцца за рукі і праз усю Беларусь зробяць «жывую нітку», як прыбалты нядаўна рабілі.

Але верыць, што Незалежнасць можна здабыць простым «росчерком пера», і з гэтым пагодзяцца, і паднясуць гэтую Незалежнасць на ручніку, з хлебам-соллю?! Калі хоць адзін разумны чалавек у гэтае верыць, дык можна толькі павіншаваць яго.

З другога боку — верыш, што калі выкасуеш «НЕТ», настане «мир и согласие»? Ды нічарта і ў гэта не веру!

Урны насіць па хатах буду, галасы падлічваць буду, плакаты клеіць — бо мне за гэта як бібліятэкару грошы плоцяць і я павінен іх адрабіць; але бюлетэня нават у рукі не вазьму!»

Быў светлы яшчэ вечар. Антон вяртаўся з бібліятэкі, мясіў чаравікамі, якіх цяпер ані не шкадаваў, разбітую машынамі сакавіцкую гразь, быў п’янаваты, за пазухай пад курткай нёс непачатую «бомбу» шампанскага, — і сэрца яго спявала, душа рвалася ў гэтае светла-шэрае, як вочы ў сямікласніцы Наташы, неба; хацелася раскінуць рукі і абняць, прыгарнуць да грудзей усё наваколле: і гэты ўжо ледзь зазелянелы луг, разрэзаны чорнай дарогаю, і голае мокрае кустоўе за лугам, і далёкую-далёкую шэра-чорную палоску поля, і гэты зялёны хваёвы лес, што ўжо недалёка наперадзе…

Антон ішоў, востра заўважаючы і ўсю навакольнасць, і кожную драбніцу, — бачыў луг, лес, высозную хвою на ўзлеску, і разам з тым адначасова ўмудраўся ўбачыцы старую пажухлую траву пад гэтай хвояй, і, здавалася, кожную шышку, кожную іглічку на лапцы гэтаи хвоі... Ён адначасова бачыў і любіў усё гэта. Але ён заўважаў усё гэта падсвядома, неасэнсавана, вачыма, але не сэрцам, не думкамі. Сэрцам і думкамі ён усё яшчэ быў за два кіламетры адсюль, у чатырох сценах сярод стэлажоў, стракатых ад кніжак...

Ён захацеў успомніць нешта самае важнае — і не змог. Каб успомніць, трэба было храналагічна ўзнавіць у памяці ўвесь сённяшні дзень. У лесе Васкевіч пайшоў яшчэ цішэй, па купіністым цупкім выступе пасярод дарогі, між слядоў ад машын. Трохі яму ўдалося сканцэнтравацца. «Было так: я чакаў яе. І баяўся. Каб гэтая другая сустрэча не парушыла нешта... Што? Потым дадумаю, а цяпер — храналогія. Я сумаваў. Глядзеў на гадзіннік — калі дзённы аўтобус? Ведаў, што не павінна яна вось цяпер прыехаць, і яшчэ больш цвёрда ведаў, што прыедзе. І яна прыехала. Выйшла з аўтобуса адна. Боязь апраўдалася — на ёй была не школьная форма, а нейкая сіняя сукеначка, белая кофтачка... Ах, не трэба было б! Пераапранулася для мяне, а, галоўнае, магчыма ў сястрынскае... Але калі ўвайшла і ўбачыў гэтыя вочы шэрыя, і вусны, шчочкі — падумаў: дурань, ды свежую кветку стаў хоць у кітайскую парцаляну, хоць у шчарбаты слоік — яна ўсё адно астанецца прыгожай свежай кветкаю... Яшчэ — важна! — сонца з дальняга акна прабілася, асвятліла яе ўсю — і я ўбачыў, што яна не русая, а рыжа-русая... Рыжаватая. Усе армейскія і інстытуцкія гісторыі разам кінуліся ў галаву — што рыжыя самыя сексуальныя... Пахне таннымі духамі. Таксама — для мяне, і таксама — не трэба было б!.. Але добра з ёю. І сорамна. Бабка зайшла, глянула. Іван зазірнуў, выйшаў.

— Антон, чаму ты гаворыш заўсёды па-беларуску?

— Не пытай лепш... Быў час, ненавідзеў гэтую мову, акцэнт хацеў вытравіць, каб і следу не асталося; цяпер

сябе за тое ненавіджу! Хоць каму ні расказваў, аказваецца, усе праз гэтае прайшлі. Не ведаю, і тлумачыць не буду, ды і не змагу растлумачыць, але ведаю, што памру з гэтай моваю.

— Мне так падабаецца!..

Вочы свецяцца — ды ты закахалася, дзяўчо! Анегін знайшоўся, бібліятэкар двароўскі! Каб выпіць, лягчэй было б, ведаў бы, што рабіць. «Пасядзі, Наташа, я адскочу ў магазін...» Дзве «бомбы» шампанскага ў руцэ — чэрці, перад рэферэндумам наперлі гэтага шампанскага ва ўсе вёскі! — глядзяць усе ўслед, Іван стаіць каля веснічак, пакурвае моўчкі... Звар’яцець можна — усе ж ведаюць, што яна тут сядзіць, а ты адкрыта віно цягаеш! Піў без закускі — не даставаць жа сала з цыбулінай... Пасля дзвюх шклянак — лёгка, прыемна, яе любіш, людзей любіш, сябе... Пра Менск, 2-ю лінію метро, мост праз Свіслач, дзе дамба і вербы над лавачкамі, плошча Леніна і Чырвоны касцёл; на лістку накрэсліў, у якім раёне жыў, куды хадзіў гуляць... Ёй усё цікава.

— Калі будзеце ўспамінаць пра Лену, буду зваць на вы і перастану прыходзіць.

Ого. Вось, гэтае трэба ўспомніць.

— У цябе хлопец ёсць?

Апусціла галаву, усміхнулася чуць.

— Ты з ім цалавалася? (А што, п’янаму мора па калена.)

Паціснула плячыма.

— Сама не ведаеш? Напалавіну цалавалася? (Што я да яе прычапіўся?! Але бляфуе так няўмела, нікога ў яе не было.) А мяне пацалуеш?

Сядзіць моўчкі, галоўка апушчаная, валасы рыжа-русыя, ірдзее, як мак. Падышоў раптам і пацалаваў (а каб хто нарваўся?!) — у шчаку, потым у вусны, моцна... Ледзь не задыхнулася, але няўмела паспрабавала

адказаць. Калі і ёсць у яе які школьнік — гэта дзіцячае, на ўзроўні запісачак па парце, яна — свежая, дзіця-няўмеха.

— Табе было непрыемна?

Апусціла галаву — не, наадварот!»

Васкевіч ужо ішоў па сваёй ціхай гэтым часам вёсцы, глядзеў па баках на знаёмыя хаты і платы; ізноў думкі яго рассыпалі храналогію, у галаве мігцелі толькі бязладныя абрыўкі: «Пацалуй мяне...», «Чаму па-беларуску?», «Анегін чортаў!», «Не ўспамінайце пры мне Лену...»

— Цьфу!

Вось Пульсавая хата — лепш пра яго думаць. Вунь, чуваць, кашляе, вядром грыміць... Можа, зайсці? Не, пазней,— а пакуль пайду дадому і вып’ю яшчэ шампанскага. «Не ўспамінайце пра Лену!..»

## XIV

Маці яшчэ не было. На стале ляжала яе запіска з раніцы: «Аддыхай, я ўсё зраблю сама».

Васкевіч асцярожна — набыў ужо вопыт — адкаркаваў шампанскае, палюбаваўся, як віхурыцца ў шклянцы, падымаюцца з дна і ледзь заўважна лопаюцца-пырскаюць на паверхні шарыкі газу, выпіў залпам, выйшаў на двор.

Ужо стаяў прыцемак, але той прыцемак, калі здаецца, што ўсё вакол бачыш лепш, чым светлым днём; калі прадметы робяцца як бы больш выпуклымі, кантрастнымі. Зусім нізка ляцелі гусі і крычалі ні то сумна, ні то радасна...

І ніколі раней не бачаны малюнак адкрыўся раптам перад Васкевічам. На захадзе, у тым канцы вёскі, дзе

шаша, падняўся з-за хат светлы-светлы на шэрым небе, сферычны паўкруг. Нейкі час ён не памяншаўся і не павялічваўся, і было ўражанне, што гэта дзве машыны сталі там, на шашы, лоб у лоб, і свецяць адна на адну фарамі. Але вось з двух бакоў быццам два пражэктары ўлупілі раптам у гэты паўкруг, скрыжаваліся ў цэнтры яго, разарвалі; знізу з’явілася і заззяла фіялетавая паласа, вышэй — бэзавая, яшчэ вышэй — зялёная... Паўкруг пачаў распаўзацца, палосы пераліваліся адна ў адну, дрыжэлі, плавіліся, ігралі колерамі, як мазут на вадзе — і ўсё шырыліся, большалі, раслі ўвышыню і паўзлі сюды, да хаты Васкевіча, з двух бакоў агінаючы вёску, — быццам нехта хацеў нацягнуць над ёю на ноч дзівоснай прыгажосці купал...

Васкевіч стаяў і не мог адарваць ад гэтага купала вачэй. Яму здавалася, што ён у планетарыі — да таго ўсё было ненатуральна, казачна. Але вось пабляк купал, расталі ў цёмным небе квятастыя палосы, і настала ноч. Антон пайшоў да Пульса. Пульс жыў адзін, у вялікай хаце, трымаў кабана, курэй; у хаце, ва ўсіх трох пакоях, чыстата была наўздзіў — палавічкі чыстыя, ложкі засланыя, падлога вымытая, посуд чысты і акуратна стаіць на палічцы над газавай плітою... Убачыўшы Васкевіча, ды калі яшчэ той гупнуў на стол сваю пачатую пляшку, узрадаваны Пульс адразу ж кінуўся ў каморку, прынёс яек, сала, пачаў ладзіць на газе яечню — адзінае, што ён мог прапанаваць любому госцю (а ён лічыў госцем і кідаўся частаваць, любога, хто пераступаў парог яго хаты). Каля печы стаяў тапчан, засланы дзяружкаю; Васкевіч, як звычайна, улёгся на ім, а ногі ў чаравіках закінуў на біла  чаго з Пульсам цырымоніцца?..

Пажаўцелая, абшытая фанераю столь, печ, паўз ляжак на жэрдачцы  вязкі цыбулі, грыбы сухія... Рабілася ж калісь гэтая хата, і печ клалася, і людзі радаваліся... І дзе яны ўсе цяпер? На грудку паміж Двароўкай і Сасноўкай, пад бярозамі і дубовымі крыжамі... У адзін месяц  Васкевіч добра запомніў той летні месяц у свой апошні год перад арміяй  тры смерці... Першая старэйшы Пульсаў брат, якому жонка здрадзіла з

брыгадзірам, не вытрымаў і павесіўся. Матка маленечкая, сагнутая ў крук шчыруха, хадзілахадзіла на могілкі, гаравалагаравала, і раптам надумалася і выпіла скляначку ацэтону, якім дачка  Пульсава сястра сцірала лак з пазногцяў. Тады была вераб”іная ноч, страшная, з маланкамі; а яны, хлопцы, і Пульс разам, сядзелі ў старым клубе, пілі самагонку і гулялі ў карты… І вось раніца, вуліца  бы чужая, з паламанымі слівамі паўз платы, сліўкі ўсе абарвала, уся зямля ўсыпана; бульбоўнік, авёс, жыта  усё палегла… Васкевіч выйшаў на двор мыцца і ўбачыў, што Пульс едзе некуды веласіпедам. “Матка памерла, ёпамаць!  кінуў весела на хаду, а сам сівысівы, як голуб.  Цытон выпіла! На станцаю еду!” Чаго на тую “станцаю”, хто яго навучыў туды ехаць, што ён там збіраўся рабіць  званіць у міліцыю, у “скорую”, куды?..

Тыдні праз два ў той жа месяц сканаў і Пульсаў бацька, дома. Ізноў, толькі не раніцай, а ўдзень, ехаў веласіпедам Пульс на станцыю і весела тлумачыў цікаўным: “Бацько памер, ёпамаць!”,  а сам яшчэ больш ссівелы… З гэтага бацькі, такога рабацягі, гаруна, якіх пашукаць, які згарбеў ад работы задоўга да пенсіі, яны, малыя і дурныя, смяяліся, дражнілі,  сагнуўшыся, паказваючы, быццам носяць гарбы, а ён крычаў, махаючы кулаком: “Падажджыце, дажывеце да маіх гадоў  ракам будзеце поўзаць! Але вы х… дажывеце да маіх гадоў!..”

 Знайдзі мне жонку… Прывязі з дома енвалідаў,  завёў сваю песню Пульс, калі яечня была гатова і селі за стол. Выпіў поўную “маліноўскую” шклянку, заеў шкваркаю, выцер сала з губ. Сівы, патлаты, смяецца  зуба пярэдняга няма…

 Добра, я знайду табе жонку, прывязу. Яна ж твае грошы забіраць будзе, усю пенсію!

— А я не дам! Біць буду!

— Дык хто з табою тады будзе жыць? Яна ж цябе кіне, ці спаць з табою не будзе лягаць.

— Я слухацца буду, кажу!.. Буду любіць, біць...
«Смяешся з яго — а сябе успомні, — падумаў Васкевіч. — Пакуль гэтая малеча да цябе не прытулілася, успомні, які быў... А цяпер і гусей пачуў, і купал неба ўбачыў, і жыць ахвота... Так і ён: знайшлася б якая баба, не пабаялася, пайшла б за яго — і сама жыла б як у Бога за пазухай, і ён змяніўся б, ні адзін дурань не смяяўся б...»

Васкевіч пасядзеў, пагаварыў, і сабраўся ісці, калі віно скончылася. Але Пульс схапіў яго за руку:

— Пастой!.. — пабег у камору, там нешта грымнула, упала; вярнуўся — рукі па самыя локці ў муцэ, белыя, у руках — паўлітровы слоік самагонкі. Дзе ён яе хаваў, на які выпадак?..

Васкевіч астаўся, піў, п’янеў, мала-памалу захапіўся і, як чэхаўскі Іона сваёй каняцы, расказаў Пульсу пра Наташу, і пра Лену, і пра Мінск, і пра фіялетавую паласу на небе...

## XV

Маці пачала катурхаць Антона гадзін у шэсць раніцы. Ён сеў на ложку, прыслухаўся. З меншай хаты даносіліся чужыя галасы. Пасля ўчарашняга «кактэйлю» — шампанскага з самагонкаю — усё плыло перад вачыма, трашчала няшчасная галава... Хто там, што каму трэба?.. Ах, чорт, сёння ж рэферэндум... Перамагаючы сябе, пасунуўся ў меншую хату.

Там, за сабраным ужо сталом, сядзелі Лобан і старшыня іхняга Двароўскага выбарчага ўчастка, былы Васкевічаў завуч, а цяпер пенсіянер, Панас Маркавіч. Васкевіч даўно яго не бачыў. У школе ён вёў фізіку, строгі быў, разумны, прыгожы, высокі, падцягнуты — капітан-франтавік. Усе настаўніцы і вучаніцы старэйшых класаў былі закаханыя ў яго. Але славуты ён быў больш іншым — любоўю да чаркі. З завучаў яго знялі пасля таго, як

ён прапіў школьныя грошы на дзіцячыя навагоднія падарункі. Васкевіч ведаў, што Панас Маркавіч недалюблівае яго, бо ён адзін раз на ўроку хіміі ляпнуў:

«Вопытаў не будзе — Панас Маркавіч сухі спірт з’еў!»

Нехта данёс — і вынік: сярод круглых пяцёрак адна тройка, па фізіцы. Гаварыў Панас Маркавіч заўсёды чыста па-руску, хоць і быў мясцовы, — нават на ўроках у школе, якая лічылася беларускаю.

Калі заспаны, з перапою, Антон вылез на кухню, Панас Маркавіч еў шкварку; Лобан нічога не еў і не піў, чакаў. Васкевіча ад аднаго позірку на гэтую шкварку ледзъ не зблажыла. Толькі ён сабраўся ўсімі праўдамі і няпраўдамі адпрошвацца, каб пайсці дасыпаць, як Панас Маркавіч ужо наліваў яму чарку... І няёмка неяк было адмовіць старому свайму настаўніку, — а галоўнае, Васкевіч цяпер так адчуваў сябе, што сказалі б яму — выпі ацэтон, як Пульсава матка, ён, мабыць, выпіў бы і ацэтон...

Васкевіч, стараючыся не дыхнуць, не расціскаючы зубоў, да крыві прыкусіўшы губу ў роце, каб фізічным болем перабіць агіду, проста сілаю ўкаўтнуў у сябе цёплую самагонку. Ніколі да гэтага ён не пахмяляўся — спрабаваў, але не памагала. «Усё, зараз мяне вырве!.. — падумаў ён, заводзячы пад лоб вочы. Але, на яго вялікае здзіўленне, не прайшло і трох хвілін — і адбылося дзіва. У галаве раптоўна праяснела, боль знік, ад млявасці не асталося і следу, цела налілося здароўем, маладосцю, лёгкасцю, сэрца забілася пругка і радасна... Выпілі па другой — яшчэ лепш: цудоўна ўсё, які гэты Лобан прыемны, сядзіць сабе тут... І Панас Маркавіч — разумнік, і ніколькі не рэжа вуха яго знарочыстая руская мова; сорамна толькі, што калісь пакрыўдзіў яго, — і Васкевіч ледзь утрымаўся, каб зараз жа не папрасіць прабачэння за той «сухі спірт». Ляпнуў, пакрыўдзіў старога заслужанага чалавека, франтавіка.

На развітанне Панас Маркавіч ласкава сказаў матцы:

— Спасибо за хлеб-соль, хозяюшка! — і яны ўтрох

выйшлі ў ранішнюю мокрую цемрадзь.

Каля хаты стаяў «Масквіч» з будачкай. Васкевічу, як самаму маладому, даручылі несці урну, Лобан узяў папку з бюлетэнямі, Панас Маркавіч ішоў налёгку.

У першай, адразу за мосцікам, хаце Васкевічавага суседа дзядзькі Юлена жылі Юленавыя цешча і матка, якія, лічылася па спісах, самі не маглі дабрацца да ўчастка. Зайшлі да Юлена. У меншай хаце палілі ў печы, завіхалася каля прыпечка з нейкімі чыгунамі маўклівая Юленава жонка, і адна з бабулек — сухенькая, вясёлая, шустрая — гэкала пасярод хаты секачом бульбу ў ражцы. Сам Юлен сядзеў за сталом і еў. Панас Маркавіч, як толькі ўвайшоў, яшчэ з парога і вачыма і носам пацягнуўся да стала. Але Юлен, эканомны мужык-багатыр, быў не Васкевічава маці, таму іх не запрасілі нават прысесці. Юлен накрыў газецінай патэльню, з якой еў, ачысціў ад крошак край стала, успёр на пераносіцу акуляры і, адвёўшы далёка і ўбок руку, быццам быў касы, доўга ўглядаўся ў бюлетэні, крактаў, кашляў, урэшце выкрасліў у абедзвюх паперках слова «НЕТ». Бабка выцерла аб хвартух рукі і весела, гатоўна, акуратна піхнула паперку ў урну. Другая бабка ляжала ў цёмнай бакоўцы; калі зайшлі і Юлен уключыў святло, яна нават не паварушылася, не расплюшчыла вачэй. Ляжала, як нябожчыца, уцягнуўшы рот, склаўшы на грудзях рукі.

— Спіць, — Юлен крактануў, не ведаючы, што рабіць з паперкаю.

— Ладно, чего там, — і Панас Маркавіч падаў знак, што будзіць старую не трэба, можа і сам Юлен за яе прагаласаваць.

Але той чамусьці марудзіў, не адважваўся. Тады Панас Маркавіч узяў яго руку ў сваю, патыркаліся над урнаю дзве далоні — белая настаўніцкая і дужая, грубая мужыцкая — і нарэшце паперка знайшла шчыліну.

Другая хата, дзе жыла хворая пенсіянерка Вера, была на тым канцы вёскі, пад лесам. Вырашылі ехаць

«Масквічом». Антону давялося лезці ў смярдзючую, прапахлую бензінам цёмную будачку. Пакуль даехаў, уся лёгкасць ад пахмелкі неяк выпарылася, растрэслася, зноў стала моташна, захацелася спаць... «Чаго я цягаюся за імі?!» — тупа думаў ён.

У Верчынай развалюсе не аказалася нават калідора; проста з двара піхнулі дзверы і адразу апынуліся ў адзіным «пакоі». Лямпачка не гарэла, добра, хоць у печы палілася... Васкевіч, пераступіўшы парог, перш не адразу зразумеў, дзе гэта яны — быццам нейкая сіла перанесла іх аж у мінулае стагоддзе... Гліняная чорная падлога, як ток у хляве; па падлозе скачуць водбліскі агню; каля печы — цэлая гара бульбы, пахне катамі, мышамі... За печчу, з-за складзеных штабелем дошак, рохнуў кабанчык, квокнула кура... На разасланай кухвайцы каля печы сядзіць дзіця гадоў пяці, у нейкіх лахманах, складае з лучын зруб калодзезя, тут жа «лялькі» — абтырканыя запалкамі вялізныя бугрыстыя бульбіны... На сцяне лічыльнік вісіць на правадах, ледзь ліпіць, тынк каля правадоў увесь аблез, адваліўся... У правым кутку на падлозе — міса, у левым — таз, ля печы — таз... Нават пры такім святле добра відаць, як столь скрозь пабіта ў чорныя і жоўтыя плямы, у якія прасочваецца вада...

Гаспадыня — высокая, хваравіта-распухлая — стаяла пасярод хаты, упёршы рукі ў бокі, моўчкі глядзела на няпрошаных гасцей. Водбліскі агню прабягалі раз-пораз па яе дзябёлым насатым твары і рабілі яе вочы, ды і сам твар, ды і ўсю постаць пагрозліва-ўрачыстымі.

Дзіця раптам спалохалася, падхапілася, пабегла і схавалася за ложак, у цёмным кутку. Васкевіч ведаў, што гэта была Верчына ўнучка, якую Верчына дачка нагуляла ў горадзе, прывезла і кінула матцы. Цяпер Верка дабівалася на гэтае дзіця дапамогі ад сельсавета, але дабіцца не магла, бо яно было прапісана ў горадзе, у дачкі; дачка тую дапамогу атрымлівала і акуратна, як расказвала Верка ў магазіне, «прас...а».

— Пришли предложить тебе, Вероника Ивановна, отдать свой голос... — урачыста пачаў Панас Маркавіч,

мацаючы Васкевіча за плячо і выштурхоўваючы трошкі наперад.

— На табе голас! — не менш урачыста адазвалася Верка, тыцнуўшы ледзь не ў нос Панасу Маркавічу вялізную дулю. — Голас даць?! А хто мне што дасць?! Паглядзі, сволач, на гэтыя дзіркі ў столі! Ты бачыш, як з іх вада свішча?! Паглядзі на гэтае дзіця біркулёзнае! Хто мне за яго заплоціць?! Ты бачыш, што шчотчык вадою вывернула, трэйці дзень вісіць, я ж сама яго не пастрою! Я ж да яго падступіцца баюся, што б вы так свету белага баяліся!

— Зробім, зробім, — вінавата сказаў Лобан.

— Які вы ўжо год робіце?! Толькі век чуеш «зробім!», «зробім!» — перадражніла Верка. — Смалы я вам дам, а не голас!

— Ну, ты знаешь, с этим не шути! — папярэдзіў Панас Маркавіч, як бы незнарок адступаючы трошкі назад да парога.

— Ідзі ты разам са сваім саюзам рэспублікоў к ... мацеры! — адрэзала жанчына і дэманстратыўна завярнулася да агітоўшчыкаў спіною.

Васкевіч не ведаў, куды яму дзецца ад сораму, ад жалю да гэтай Веркі, добрай, замучанай жыццём жанчыны, якая цяпер проста радая была, што вось прыйшоў час, і яна спатрэбілася, і яе ўпрошваюць, і яна можа хоць неяк некаму паказаць сваё гора... Каму? Хай гэтыя, чужыя, а ён, Васкевіч, свой, вясковы, — ён нашто сюды прыплёўся, удзельнічае ва ўсім гэтым?..

— Іванаўна, прагаласуйце, — папрасіў Лобан. — Усё зробім...

— Нет, не прагаласую!

— Что ж, пусть. Только потом не пожалей, — прыгразіў Панас Маркавіч, і яны пайшлі, але пайшлі марудна, чакаючы, што іх пазавуць. Ніхто не пазваў.

Пастаялі каля машыны.

— Давайце за яе кінем, — прапанаваў Лобан.

— Ну, нет! Всякая дрянь еще будет тут... Вярнуліся назад, упрошвалі, пагражалі, абяцалі;

урэшце Верка, палічыўшы, відаць, што досыць, нацешылася, спагнала злосць, зусім добрым, нават жартаўлівым голасам папрасіла Васкевіча «крэмзануць дзе трэба, бо баба ж ўжо сляпая!» Ён «крэмзануў» — і Верка такім чынам прагаласавала за Саюз.

Васкевіч першы выскачыў з хаты, кінуў у будку «Масквіча» урну і, нібы вучань-двоечнік з нелюбімага ўрока, проста ўцёк дадому. Прыбег, заваліўся спаць і праспаў аж да абеду, калі матка ўжо вярнулася з участка. Яна была вясёлая, прывезла каўбасы, піва, зефіру.

— Цябе ж там шукаюць усе! Ідзі хоць глянь, колькі людзей, колькі ўсяго панавезлі ў магазін!..

Васкевіч выпіў пляшку піва і пасунуўся ў Двароўку. Знарок ледзь перастаўляў ногі, каб нікога не застаць. Ішоў і думаў пра Наташу, прасіў у думках, каб здагадалася і прыйшла сёння ўвечары ў бібліятэку. Яны б проста моўчкі пасядзелі б, ён бы курыў, яна б пазірала на яго...

У Двароўцы ля магазіна тоўпіліся людзі. Каля школы ўжо нікога не было. Васкевіч увайшоў у цёмны калідор, пачуў галасы ў «клубе» — відаць, яшчэ падлічвалі бюлетэні. Ён прыслухаўся.

— ...Тарасиха где? — чуўся голас Панаса Маркавіча.

— У больніцы, — адказваў нехта. — Там прагаласуе.

— А эта... как её... Адамиха?

— Чорт, праўда, забылі... Схадзіць?

— Ладно... Дай сюда бюллетень...

Васкевіч зразумеў, што і старая Адаміха зараз «аддасць» свой голас «абноўленаму саюзу». Яшчэ больш стала прыкра, гідка ад усяго гэтага. Ён ціхенька адчыніў дзверы ў бібліятэку, праслізнуў туды, і калі ўбачыў знаёмыя карэньчыкі кніг, удыхнуў знаёмы кніжны пах, калі сеў за сваю «кафедру», закурыў, убачыў крэсла, на якім Наташа сядзела, калі яны цалаваліся, — толькі тады на душу зноў лёг супакой... Хутчэй бы канчалі свае выбары, і зноў яго ніхто не чапаў бы, і ўсё пайшло б ціха-спакойна, як і раней!

Раптам піханулі з калідора дзверы ў бібліятэку, — ён аж уздрыгнуў — здалося, гэта тыя, «галасоўшчыкі», пачулі яго і ідуць зваць рабіць якую-небудзь трасцу. Не, уваліласся цэлая кампанія: Пеця, Ручка, Люда (дзяўчынка, якая падказвала чорнаму «цыгану», якой картай хадзіць, якая спадабалася тады Васкевічу), яшчэ нейкая чарнявая, рослая, незнаёмая яму зусім дзяўчына, яўна не мясцовая...

— Антон, можна мы тут вып’ем? — папрасіў Пеця, ставячы долу вялікую сумку. — Няма дзе прыткнуцца, клуб заняты, а на вуліцы холадна.

— Ну, давайце, — паціснуў плячыма Васкевіч. — Толькі ціха.

Размясціліся ў дальнім кутку, накрылі газетаю часопісны столік. Васкёвіч замкнуў дзверы.

Рослую чарнявую звалі Ірэна, гэта была Пецева стрыечная сястра, прыехала з Гомеля. Яна аказалася вясёлай балбатухай, а пасля, калі Васкевіч выпіў і ўжо не саромеўся добра яе агледзець, ён зразумеў, што яна — з тых гарадскіх дзяўчынак, якія з 13 гадоў пачынаюць туляцца з хлопчыкамі па пад’ездах і паддашшах, і што цяпер, — а цяпер ёй на выгляд было гадоў 20 — яна, як кажуць, «видала виды», дзеўка яшчэ тая, і адсюль яе раскаванасць. Але гэта было яшчэ лепш; яе прысутнасць надавала гэтай выпіўцы пэўны шарм. На Васкевіча дыхнула забытым ужо Мінскам, інстытутам, Ленаю...

Сімпатычная Люда амаль не піла, зноў сядзела ціхенькая, маўклівая, і зноў Васкевічу захацелася ўзяць яе за руку і весці з гэтага балота, у якім яна нібыта задыхаецца.

П’яны Ручка пасля першай чаркі палез да Васкевіча абдымацца:

— Дык ты, аказваецца, нармальны хлопец! Чаго ты раней з намі не выпіваў?

— А я вам што казаў? — умяшаўся Пеця.

— Я думаў, ён... — і Ручка змоўк і не стаў казаць, што ён думаў раней пра Васкевіча.

Пачалі расказваць, як галасавалі. Ручка, непахмелены, з самай раніцы сядзеў пад магазінам, чакаў, калі падвязуць піва. Сядзіць, а матка паўзе на сваіх кіёчках галасаваць. Ручка крычыць: «Мамо, кінь там і за мяне!» А яму ўстаць і прайсці да школы сто метраў. Ірэна расказвала так:

— Вместо того, чтобы самому пойти за больную мать бросить, так он ее просит!

— А што, ёй лягчэй, яна ж на двух вядушчых мастах! — смеючыся, казаў Ручка пра матчыныя кійкі.

Смяяўся Ручка, рады, што яму даюць увагу, смяяліся дзяўчаты, смяяўся Васкевіч — ад таго, што прыйшлі вось людзі, якіх ён першы ці другі раз у жыцці бачыць, і весела з імі, проста, і дзяўчаткі такія прыгожыя...

З «клуба», відаць, пачулі шум у бібліятэцы. Нехта тузануў за ручку дзвярэй. П’янаваты і смелы Васкевіч зрабіў усім знак, каб сядзелі як сядзелі, нікога не баяліся, прачыніў дзверы роўна настолькі, каб пралезці, і праціснуўся на калідор. Там стаяў Панас Маркавіч.

— Антон?! Почему вы не отдали голос? Вы же — секретарь комиссии!

Апусціўшы галаву, каб не глядзець былому завучу ў

вочы, Васкевіч, аднак, прамовіў цвёрда:

— Панас Маркавіч, я галасаваць не буду.

— Почему? Хочешь, голосуй против Союза. Ведь я же знаю, что ты — против.

— Зразумейце, Панас Маркавіч, — я ні за, ні супраць. Я супраць галасавання ўвогуле, як працэсу... Гэта ж таксама маё права, згадзіцеся, — не галасаваць зусім.

— Нет... подожди!

Але Васкевіч павярнуўся, каб прашмыгнуць назад у бібліятэку; тады і Панас Маркавіч прытрымаў дзверы, не даў ім зачыніцца, і ўвайшоў следам. Увайшоў, убачыў вясёлую кампанію, нейкі час моўчкі і пільна аглядаў усё і ўсіх, быццам збіраючыся лепш запомніць, тады сказаў:

— Эва! — і выйшаў, ляснуўшы дзвярыма.

«Я падаю! Лячу ўніз, — думаў Васкевіч, ізноў падсядаючы да сваіх новых сяброў. Ён піў, стараўся жартаваць, смяяцца, а на душы шкрэбла: — Не галасаваў, уцёк, каб не хадзіць з урнаю па хатах, устроіў п’янку... Усё гэта дарам не мінецца!»

І яму ўспомніўся той вечар з Наташаю, у гэтай вось бібліятэцы, калі было так добра і спакойна... Нашто ён самахоць усё разбурыў?.. Каму трэба яго прынцыповасць, хто гэта зразумее?..

Але Ручка сядзеў такі ціхі, прыструнены, глядзеў на Васкевіча, як сабачка на гаспадара, дзяўчаткі былі такія вясёлыя, сімпатычныя, Пеця — ветлівы, уважны, ільсцівы — наліваў Васкевічу першаму, падсоўваў лепшую закуску, замаўкаў сам і цыкаў на ўсіх, калі Васкевіч збіраўся штосьці сказаць, штурхаў пад бок Ірэну, ківаючы на Васкевіча: «Ну, бачыш, якія ў нас хлопцы? У вас у Гомелі гаворыць хоць хто па-беларуску?»

Васкевіч піў, і мала-памалу гарэлка знішчала яго трывогу. Але тут зноў пастукалі ў дзверы. Васкевіч, злы,

думаючы, што гэта зноў Панас Маркавіч, адчыніў іх і ўбачыў маладзенькага сяржанта міліцыі. Адразу стала ясна — Панас Маркавіч паспеў ужо данесці і вось яго, Васкевіча, прыйшлі арыштоўваць.

Сяржант, не заходзячы, павітаўся і неяк нясмела, нават сарамліва папрасіў:

— Ребята, извините, помогите, толкнуть машину... Застряли посреди деревни!

«Ведаю вашыя машыны! — думаў Васкевіч, калі яны ўтрох, следам за сяржантам, пацягліся на вуліцу. — Зараз наручнікі надзенуць, а Ручка з Пецем — панятыя...» Але яму, п’янаму, зусім не было страшна.

Сапраўды, недалёка ад школы пасярод вуліцы буксавалі белыя «Жыгулі». Па два прыстроіліся з бакоў, каб не абкідала гразёю з-пад задніх колаў, узяліся, крэкнулі, лёгка выпхнулі. Машына пад’ехала да школы, шафёр, таксама ў форме, адкінуў капот і палез корпацца ў маторы. Сяржант раптам папрасіўся зайсці пасядзець у бібліятэцы, пакуль падладзяць машыну.

— С самого утра по участкам мотаемся, — паскардзіўся ён.

Але Васкевіч добра ведаў, што міліцыя знарок падасланая, і сяржанцік прэцца ў бібліятэку, каб «узяць» яго, Васкевіча, на месцы злачынства... «Ну, хадзем, бяры!..»

«Галасоўшчыкі» даўно ўжо разышліся, у «клубе» было ціха. У бібліятэцы сяржант прысеў за столік, зняў і адзеў на калена фуражку. Ён выглядаў яшчэ маладзей за Пецю — у Пеці хоць вусікі былі, а гэтэ, відаць, ні разу не галіўся. Васкевічу чамусьці стала нават трошкі крыўдна — не маглі ўжо прыслаць кагосьці больш саліднага...

Люда з Ірэнаю глядзелі на міліцыянера, перашэптваліся і хіхікалі. Васкевіч адчуў рэўнасць і яшчэ больш спахмурнеў. Пеця наліў усім, і сяржанту. Той

падзякаваў, узяў у пальцы чарачку. Васкевічу нясцерпна захацелася пазаядацца з ім.

— А я не галасаваў! — аб’явіў ён сяржанту. — І гавару па-беларуску!

Сяржанцік са здзіўленнем на яго зірнуў, паціснуў плячыма, нічога не сказаў. Выпілі.

П’яная логіка падказала Васкевічу, што раз ён — «нацыяналіст», выгнаны за гэта з інстытута, высланы за гэта з Мінска, дык ён і павінен трымаць сваю марку.

— За каго ты галасаваў? — пачаў чапляцца ён да сяржанта.

— За Саюз, — адказаў тои, нагінаючыся над нізкім столікам і выбіраючы косткі з рыбы.

— Ну і што? — не даваў яму закусіць Васкевіч. — Што табе з гэтага саюза? Мы ж семдзесят гадоў былі ў саюзе, і што? Табе не хочацца, каб мы сталі незалежнымі, як французы? Каб Еўропа, Амерыка, Расея пазнавалі нас па мове, сцягу, нацыянальным характары, як французаў пазнаюць?

— Сам тогда почему не голосовал? — спытала Ірэна.

— Сядзь бліжэй, скажу.

Дзяўчына паслухалася, памянялася з Пецем месцамі, Васкевіч абняў яе — незнаёмую, п’янаватую, падатлівую...

— Вось ты — Ірэна, а ў вольнаи незалежнай Беларусі ты была б Ірэн, як француженка! І ездзіла б на сваёй «Вольве»... Пагэтаму я і не галасаваў.

Міліцыянер маўчаў, слухаў з цікавасцю.

— Ты беларус? — зноў насеў на яго Васкевіч.

— Беларус.

— І табе не хочацца, каб у нас была свая Францыя?!

Сяржант раптам пачырванеў і сказаў па-беларуску:

— Хочацца. Знаеце, можа, і праўда ваша... У арміі прыбалты ўмесце, грузіны ўмесце, адны беларусы нейкія нядружныя...

— Ладно, француз, — строга сказала Ірэна, не робячы, аднак, і спробы вызваліцца з абдымку. — Не трогай милицию. И не пей больше, ладно?

— Эх, Ірэн! — зусім расчуліўся Васкевіч. — Клапоцішся пра мяне... Мілая дзяўчынка! А мы першы раз у жыцці бачымся... Ты — сапраўдная беларуска! Справа ж не ў тым, хто за што галасаваў, а ў тым, што мы ўсе тут — беларусы, адна сям’я, блізкія людзі, хоць пяць мінут назад пазнаёміліся! Вось міліцыянер, сяржанцік, прыйшоў мяне арыштоўваць — і той не спяшаецца, сядзіць тут, выпівае... І так і павінна, адно гэта — важнае...

— Хватит болтать ерунду! — Ірэна смяялася і ў той жа момант асцярожна зіркала на сяржанта. Яна, відаць, баялася, што Васкевіч зараз можа дагаварыцца, і яго сапраўды забяруць.

Дапілі і паелі ўсё, што было. Дамоў п’янага Васкевіча завезлі на міліцэйскіх «Жыгулях», пад самую хату. Перад тым, як сесці ў машыну, ён усё абдымаў Ірэну і тройчы цалаваўся з ёю — як перад доўгай дарогаю. Маладзенькі міліцыянер пакінуў яму свой гарадскі адрас, тэлефон і прасіў заходзіць у госці, калі будзе ў горадзе.

## XVI

Зусім новае жыццё пайшло ў Антона Васкевіча пасля гэтага рэферэндуму. Урэшце ён і тут, у вёсцы, перастаў адчуваць сваё адзіноцтва.

Праўда, спачатку, мо з тыдзень, разбіраючы бібліятэчныя часопісы і газеты, ён баяўся ўбачыць

сярод іх павестку «куды трэба», а калі пад’язджаў гарадскі аўтобус, прыпадаў да акна, стараючыся разгледзець чалавека, які прыехаў яго арыштоўваць. Але не было ніякай павесткі, не прыязджаў ніякі чалавек. І Васкевіч супакоіўся, сказаў сабе: «Нічога не баяцца, нічога не аналізаваць, не шкадаваць ні аб чым — проста жыць як усе, і гары ўсё агнём! Стаў ты як усе — і цябе прызналі за свайго, з Ірэн пазнаёміўся (Васкевіч у думках зваў яе толькі так — Ірэн — без канчатка), міліцыянеру спадабаўся, Ручка прывязаўся да цябе, як кот прыблудны...»

Пазней, успамінаючы гэты свой адрэзак жыцця, Васкевіч так і не змог сабе вытлумачыць, як ён умудраўся жыць так бяздумна, бязладна — і нават не заўважаць гэтага. Як мог ён, «жаваранак», спаць да дзесяці, адзінаццаці гадзін раніцы? Зусім нічога не рабіць дома, не памагаць матцы — і не мучыцца ад гэтага, лічыць, што так і трэба... Кажнюткі вечар піць з Ручкам, гадзінамі праседжваць у бібліятэцы з непаўналетняй дзяўчынкаю, а потым, на вачах дзвюх вёсак, лесам праводзіць яе дамоў...

Але ўсё менавіта так і было. Ён прачынаўся, калі двор і хата былі ўжо заліты яркім веснавым сонцам, галіўся, а то мог і не галіцца, снедаў, цягнуўся ў Двароўку; у бібліятэцы чытаў, слухаў прыёмнік, курыў, чакаў дзённага аўтобуса, якім павінна была прыехаць Наташа... Прыязджала Наташа. Былі грошы — Васкевіч альбо сам ішоў у магазін купляць што там будзе — «чарніла», шампанскае, гарэлку, — альбо пасылаў яе. Яна ахвотна ішла, і Васкевіч ведаў чаму: з ім цвярозым ёй было нецікава, ім не было пра што гаварыць. Сядзець і моўчкі цалавацца? І колькі можна так вытрымаць? Затое як усё змянялася, варта было яму выпіць шклянку віна ці трохі гарэлкі! Ажываў, весялеў Васкевіч, гадзінамі мог малаціць пра свой «Менск»... Змянялася, бачачы, што ён змяніўся, Наташа, зусім інакш пачынала глядзець на яго... Змянялася ўсё навокал, і Васкевіч зноў пачынаў любіць сябе такога, яе такую, вочы яе, рыжыя валасы, рукі ў пісягах чарніла, школьны пярэднічак і кофту, і яму ўжо не здавалася

саромным, што кофта гэтая хутчэй за ўсё сястрынская...

Калі не было грошай — Васкевіч упрошваў дзяўчынку астацца, і яна, як і тады, пры першай сустрэчы, пакорліва сядзела, чакала, гартала часопісы. Пад вечар прыходзіў Ручка, з грашыма ці з самагонкаю. Выпівалі. Асабліва падабалася Васкевічу, што нехлямяжны Ручка, вясковы затурканы мужычок, так змяняецца пры Наташы, перастае «гнуць кручкі», стараецца як бы не заўважаць яе, паказваючы ўсяляк, што «не глядзіце і вы на мяне, рабіце што хочаце, а мне галоўнае выпіць і закусіць». Збіралася сыходзіць дамоў Наташа — і Ручка адразу ж падымаўся, хуценька дапіваў, даядаў і маўчком знікаў з вачэй.

Васкевіч ішоў праводзіць дзяўчынку. Яна жыла недалёка, за які кіламетр ад бібліятэкі, на ўскрайку Бокаўкі. Стаяў ужо красавік, цёплы, сухі; зеляніўся, харашэў лес, праз які трэба было ісці. На палянцы, акружанай арэшнікам, абсыпанай зялёнымі латкамі заечага шчаўя, бел-блакітнага пяшчотнага кураслепу, на палянцы, з якой добра праглядалася Наташына хата — новы фінскі домік (такія будавалі знарок для перасяленцаў), яны цалаваліся да таго, што вусны сохлі, да адурэння, калі ўжо абоім не хацелася, але і адарвацца было немагчыма... Потым Васкевіч перадаваў дзяўчынцы партфель, які падносіў, і вяртаўся дахаты, шчаслівы, малады, задаволены сабою і ўсім светам.

Ён сам са здзіўленнем адзначаў гэтую перамену сябе, усё часцей думаў: «А можа, і добра, што мяне вытурылі? Пакаралі, як таго шчупака, адпусціўшы ў ваду...»

Антон не ведаў, якія плёткі ўжо ходзяць пра яго па ўсіх вёсках. Калі б і пачуў штосьці, не паверыў бы — наадварот, яму здавалася, што цяпер яго можна толькі любіць, хваліць, бо ён урэшце ўпісаўся ў той побыт, з якога выйшаў, змог стаць такім, як і ўсе вакол, звычайным вясковым хлопцам, які за пляшку паможа кожнаму, хто папросіць, папілаваць дровы, вывезці і раскідаць на соткі гной, падладзіць стары плот, заўсёды разам з Ручкам паможа вынесці са склада і пагрузіць на машыну скрынкі з тараю, разгрузіць муку, камбікорм,

латкі з хлебам (за што прадаўшчыца пачала даваць яму напавер выпіўку).

Бывала, па цэлых тыднях акрамя Ручкі, Наташы ды прадаўшчыцы, якая прасіла памагчы, у бібліятэку не заглядала ніводная душа.

Васкевіч перастаў супраціўляцца жыццю, бязвольна паплыў па ім, але, як часта бывае, варта было яму пусціць усё на самацёк, як менавіта тады яму пачало шэнціць. Набыў сяброў, сышлі з рук фокусы на рэферэндуме, пакахаўся з Наташаю; мала таго — прыязджалі ў бібліятэку з горада з праверкаю і пахвалілі яго.

«Пазікам», што развозіў новыя кнігі, прыехала сама дырэктарка Валянціна Мікалаеўна. Быў дзень, Васкевіч быў яшчэ цвярозы і смірненька чытаў сабе за «кафедрай». Валянціна Мікалаеўна, здзівіўшыся, сказала, што яны зараз аб’ехалі некалькі філіялаў і ён, Васкевіч, адзіны загадчык, які аказаўся на месцы. Яна закурыла, прайшлася па бібліятэцы, агледзела стэлажы, кніжную выстаўку «Жыве Беларусь», пагартала журнал, фармуляры, пахваліла, што чыста, падышла адчыніла скрынку алфавітнага каталога:

— С ума сойти! — толькі і сказала. — Ты что, весь каталог расставил?

Васкевіч прызнаўся, што алфавітны сяк-так расставіў, а ў сістэматычным заблытаўся.

— Да здесь сколько эта библиотека существует, никто никогда каталогами не занимался! Вот, я всегда говорила, что мужчина-библиотекарь лучше за баб, — заключыла Валянціна Мікалаеўна.

Гомельская вобласць, калі хто ўспомніць газеты тых дзён, прагаласавала «за Саюз» дзевяностамі працэнтамі насельніцтва; «наиболее дружно, — адзначала «Советская Белоруссия», — голосовали именно в тех районах, которые больше пострадали от Чернобыля». Васкевічаў раён якраз і быў з такіх. Візіт дырэктаркі, а

таксама добрыя паказчыкі на выбарах, відаць, і паслужылі таму, што калі Васкевіч прыехаў у горад па палучку, яму ад аддзела культуры ўручылі вымпел — за харошую работу на сяле. Які ні быў гэты вымпел незаслужаны, Васкевіч з гонарам павесіў яго на віднае месца. Прыязджаў сваім «Масквічом» Лобан з сельсавета і таксама пахваліў Васкевіча, сказаў бабцы, што стаяла ў дзвярах, прыціскаючы па сваёй звычцы худыя рукі да грудзей:

— Бачыце, колькі парабіў, а ўжо во — сцяжок заслужыў.

— Такіх заведушчых пашукаць! — ільсціла бабка (яна апошнім часам, калі пачалі садзіць бульбу, зусім не заяўлялася ў бібліятэку, Васкевіч сам падмятаў або Наташа).

Другая пасля вымпела падзея за гэты месяц была тая, што Васкевічу ўдалося выратаваць свайго новага сябрука, Ручку. Пайшоў неяк у сельсавет — раз у квартал сельсавет выпісваў для бібліятэкі невялікія грошы на канцылярскія расходы — і ў калідоры, перад дзвярыма прыёмнай убачыў цвярозага няшчаснага Ручку, у сваёй кухвайцы, у спартыўнай шапачцы...

— Што ты тут робіш?

— У алтэпэ адпраўляюць! — ён учапіўся ў Васкевіча, як клешч. — Памажы, хадзем са мною, я гаварыць не ўмею...

Хадзем дык хадзем. Неўзабаве з дзвярэй выглянуў сакратар Лізун і кіўнуў Ручку пальцам — заходзь. У кабінеце старшыні сядзелі сам Лобан, яшчэ пару незнаёмых Васкевічу чалавек; малады ўчастковы, рослы, строгі сваёй формай і незнятай фуражкаю, стаяў збоку стала з паперкаю ў руцэ.

— Ну што, лячыцца пайдзёш! — аб’явіў ён, калі Ручка з Васкевічам спыніліся ў парозе. Ручка сцягнуў шапачку і пачаў камечыць яе ў далонях.

Васкевіч кашлянуў і ветліва папрасіў слова.

— Адваката прывёў! — засмяяўся Лобан. Васкевіч раней і не думаў, як гэта, аказваецца, лёгка і прыемна — абараняць словамі не сябе, а чужога чалавека. Інтуіцыя падказала яму, што гаварыць трэба напышліва, штосьці банальнае, усім тут даўно вядомае, — ён так і рабіў: казаў пра няшчасную матку на кіёчках, якой ніхто не прынясе цяпер вады, буханку хлеба з магазіна, пра тое, што ніякае ЛПП не паможа, калі чалавек сам сабе не дасць рады...

— І яшчэ, — захапіўшыся, казаў Васкевіч, — смех смехам, а гэты вось так званы п’яніца ўсіх нас корміць! Пра гэта падумайце. Цэлую зіму вазіў на поле гной, цяпер будзе араць, потым жаць, капаць...

— «Капаць»! — не вытрымаў, перадражніў участковы, з нянавісцю гледзячы на Васкевіча. — А тое, што ён п’яны ў трактар лезе, па вуліцах ездзіць, колькі разоў у канаву куляўся — трактар выцягнуць не маглі! Дык што, чакаць пакуль ён ці сам сабе галаву скруціць, ці чалавека пераедзе, ці трактар угробіць?!

Але «высокі суд» нечакана падтрымаў не ўчастковага, а Васкевіча.

— Не, праўда, Лёня, — мякка звярнуўся да гарачага ўчастковага Лобан, — забярэце яго ўжо зімою, калі работы вялікай не будзе.

Пасмяяліся, ды так і замялі. А ўвечары Ручка зацягнуў Васкевіча да сябе дамоў і яны добра замачылі гэтую чарговую, мо ўжо чацвёртую ці пятую па ліку, адтэрміноўку ў «прафілак» адзінага на дзве вёскі трактарыста. Радая маці сноўдалася каля стала на сваіх кіёчках і ўсё ўпрошвала Васкевіча памагчы як-небудзь жаніць «Валеру» — і зноў Васкевіча ўражвала, што для яе гэты Ручка — Валера, такі ж, як і ўсе, хлопец, і яна верыць, што варта яму толькі захацець, і ён так лёгка пойдзе і ажэніцца.

## XVII

Цвярозага, Васкевіча Наташа часамі проста палохала.

— Антон, у цябе праўда была тая, Лена? — спытала яна раз.

Яны стаялі на сваёй арэшнікавай паляне недалёка ад першых хат Бокаўкі. Быў рэдкі вясновы прыцемак, каля вушэй звінелі раннія рэдкія камары, якія яшчэ не кусаюцца. Наташа абламала галінку арэшніку і абдзірала пупышкі, чакаючы адказу.

Васкевіч даўно ведаў, што яна па-сапраўднаму ўжо

закахалася ў яго, што яна ўцякае з урокаў, каб прыехаць у бібліятэку дзённым аўтобусам, — але якраз гэта яго і пачало палохаць. Спытай ў яго хто тады, узімку, калі ён упершыню ўбачыў тую школьную форму і ўспомніў сябе-школьніка — «хочаш, каб гэтая дзяўчынка закахалася ў цябе і бегала за табою?» — ён назваў бы гэта шчасцем, большага за якое і не трэба... І вось так і адбылося, і менавіта гэта і палохала яго. Як і цяпер, на палянцы, у веснавым паўзмроку.

— Ну як была... — сказаў ён няпэўна. — Была, вядома! Лена, дружылі з ёю...

— Тады чаму ты нават не... спрабуеш?

— Што?

— Таго, што хлопцу трэба ад дзеўкі, — спакойна адказала яна. — Са мною табе не хочацца гэтага?

Для Васкевіча гэтыя словы былі вядром вады на галаву. Што яна кажа?! Дзяўчынка, для якой, ён лічыў, і пацалункі занадта ў такіх гадах! Ды ці сапраўды не было ў яе нікога? Калі былі... тады, вядома, ён у яе вачах — проста асёл...

Ён стаяў і маўчаў, перасыпаючы ў галаве словы, шукаючы і не могучы знайсці адпаведны тон для гэтых слоў. Звесці ўсё на жарт? Або стаць смелым, вось цяпер паказаць, што ён умее не толькі цалавацца? Або стаць грубым, з’едлівым, сказаць: «Ідзі вучы ўрокі, і калі

ляжаш спаць, не забудзь узяць з сабою ў ложак ляльку»?

Ён баяўся, каб яна не зразумела гэтае яго маўчанне па-свойму; але яна, відаць, якраз нейк па-свойму і зразумела, сказала ціха, упэўнена:

— Ніякай любві без гэтага не бывае, — намацала яго руку і забрала партфель. — А заўтра мы едзем дадому... На Магілёўшчыну.

— Ну і што?

— Нічога. На цэлы тыдзень... А потым, мабыць, назусім паедзем... А так не хочацца!

— Ну і што? — паўтарыў ён, адчуўшы, што яна зразумела, што нечым пакрыўдзіла яго, і цяпер загладжвае гэта.

— Нічога. Добра, я пайшла...

І пайшла. Яму стала шкада яе, і захацелася, пазваць, але яна сама раптам спынілася, павярнулася, папрасіла з пяшчотай, надзеяй у голасе:

— Хочаш, прыходзь сёння ўночы? Я не буду спаць!

Вунь маё акно, самае з краю... — і пабегла, не азіраючыся.

Ідучы дамоў, Васкевіч, як заўсёды падчас хадзьбы, трохі абдумаўся. Закурыў, спытаў сябе — а папраўдзе, што ён ад гэтай дзяўчынкі хацеў і хоча? Сапраўды, чаму ў яго ніколі нават у думках не йшло нічога далей за пацалункі? Калі адказваць шчыра, выходзіла: яна яму трэба ад адзіноты, каб прыбягала, сядзела, слухала яго, як Лена некалі казала, «балталёгію», каб глядзела, як ён выпівае... Каб пацалавацца, дакрануцца да нечага свежага, таго, што недабраў, будучы сам у тым жа сёмым класе, калі ў іх яшчэ не было моды сур’ёзна гуляць з дзяўчынкамі. Другое — яна патрэбна яму для самалюбства, людзі ж бачаць, ведаюць, што яна сама да яго бегае, а значыць, відаць, і больш паважаюць яго за

гэта як хлопца...

Добра — тады што рабіць сёння ноччу?

Ісці, падкрадацца пад акно, шкрэбціся ў шыбу, каб маці не пачула... Яна выйдзе, ці вылезе праз акно, мокра, цёмна... Кофтачка сястры, якую давядзецца здымаць... Не тое, не!

Васкевіч жыва адчуў знаёмае пачуццё — такое ж, як некалі ў войску, калі хлопцы-хахлы ігралі «гапак», такое ж, як на нядаўнім рэферэндуме, калі бабка з зяцем Іванам прыбраліся святочна... Гэта было пачуццё саромнасці. За сябе, за Наташу з яе кофтачкай, за сваю і Наташыну маці...

Ён незаўважна адмахаў чатыры кіламетры і, падыходзячы ўжо да хаты, вырашыў цвёрда — нікуды не ісці, лягаць спаць.

Дома, пакуль еў, маці сядзела ля печы на падлозе і перабірала цыбулю на разасланай хустцы. Яна чамусьці маўчала, толькі штораз зіркаючы на сына спадылба. Паеўшы, Васкевіч падняўся ісці на двор курыць, і тут маці аж крыкнула:

— Куды зноў?! Ану, сядзь!

Васкевіч застыў ад нечаканасці, але паслухаўся, паклаў на падаконнік цыгарэты, прысеў.

— Нашто, от ты мне скажы, ты курыш? Нашто ты стаў піць так бязбожна?!

Шоргала ў пальцах цыбуля, разляталася па ўсёй хустцы шалупінне. Васкевіч маўчаў.

— Нашто ты зводзіш тую дзевачку? — пытала маці тым жа голасам, але ясна было — не сынава курыва і выпіўкі для яе галоўнае, а вось гэтыя словы галоўныя. — Ты здурэў, ці што?

Ізноў не дачакаўшыся адказу, ужо крыху мякчэй, ушчуваючы, маці загаварыла:

— Усе ж людзі знаюць... Гэта ж дзярэўня, як у той песні — «ад людзей на дзярэўні не спратацца»... Нашто яна табе? Ты знаеш, з якой яна сям’і? Яны ж п’юць усе ўпокат! І бацька той, і матка, і сын, і тая большая дзеўка —там жа не хата, а карчма, як Юлен кажа. Шынок! Ты знаеш, што яе сястра ў яе годы радзіла двойню? І так і жыве без чалавека. Куды ты лезеш?

— Куды я лезу? — раздражнёна перабіў Антон, для якога, сапраўды, чуць усё гэта было ў навіну; ён ніколі раней проста не хацеў цікавіцца гэтым.

— А нашто ты яе зводзіш? Ты хіба жаніцца з ёю будзеш?

— Яшчэ невядома, хто каго зводзіць... А па-другое, што за «жаніцца»? Адкуль узялося «жаніцца»?

— Тады нашто ты яе зводзіш? — не ўнімалася маці. — Яна ж да цябе бегае, не знаю, што вы там робіце...

— Ты не знаеш, затое я знаю! Мы нічога з ёю не робім!

Маці ўзрадвана ўглядзелася ў яго.

— Праўда? — спытала зусім мяккім, ласкавым голасам. — Не маніш, сынок? Не рабі, не рабі нічога... Лепш гарэлкі чарку выпі, калі так хочацца, а ў такое дзела не лезь...

Злы невядома на каго, Васкевіч выскачыў на двор, пакурыў. Вырашыў прайсціся вуліцай да шашы, каб супакоіцца; пайшоў, праходзячы паўз Пульсавую хату, глянуў — цёмна. На шашы, ад якой пахла мазутам і бензінам, пафутболіў каменьчыкі — і неяк міжволі, бы чорт круціў усярэдзіне, хутка пашыбаваў на Двароўку. Без усялякіх планаў — проста хады патрабавалі маладыя ногі, а думкі хацелі той размеранасці, якую дае хада.

Яшчэ здалёк убачыў святло ў «клубе», успомніў — сёння ж пятніца, «маладзёж» гуляе! Зайшоў у «клуб», мацаючы па кішэнях, ці з сабою ключы, і застаў знаёмую вясёлую кампанію, з Ірэнай уключна. Зноў іграў магнітафон, хлопцы гулялі ў «храпа», дзяўчаты

сядзелі асобна, нязменны слоік самагонкі на падлозе каля карцёжнікаў... Сустрэлі Васкевіча радаснымі воклічамі, Люда нават падбегла і чмокнула яго ў шчаку. Пеця адразу ж паднёс яму чарку. Васкевіч выпіў, паглядзеў, як гуляюць, і яшчэ выпіў, і яшчэ... Паспрабаваў абняць Люду, але тая, на яго здзіўленне, рэзка скінула яго руку са сваіх плячэй:

— У цябе што, няма каго абдымаць? Вунь, лес перайдзі.

— Хай воўк лесам ходзіць, — смеючыся, ляпнуў абы-што Васкевіч. Яму стала сорамна, і ад гэтага чамусьці захацелася паказваць сябе больш п’яным, чым ён быў.

Ён, знарок хістаючыся, падышоў да Ірэны, якая, у кароткай джынсавай спадніцы, у вязаным доўгім світары, паклаўшы нага на нагу, сядзела ў кутку і курыла.

— Ірэн, хочаш, вып’ем? — сказаў Васкевіч, мосцячыся побач.

— Давай.

Ён кінуўся, прынёс, выпілі з адной шклянкі.

— Ірэн, помніш рэферэндум? Як мы міліцыянера напаілі?

— Его или тебя?

— Ну-у, Ірэн... Мяне цяжка напаіць!

— Тоже мне, герой... Дурак, я же боялась тогда за тебя. Ты хоть помнишь, что ты тогда...

— Давай «зліняем» адсюль, — ціха сказаў ён, азіраючыся. — Пасядзім у бібліятэцы, пакурым... У мяне ключы ёсць.

— А сигареты?

Ён паляпаў па кішэні. Яны зайшлі ў цёмную бібліятэку, і Васкевіч, забыўшы на ключы ў замку, забыўшы на ўсё,

проста тут, каля ганку прыпаў вуснамі да яе вуснаў, якія пахлі сзмагонкаю. Дзяўчына прыціснулася да яго ўсім целам, нагамі, і ён зразумеў, адчуў, што гэта — не школьніца Наташа.

— Закрой дверь, — загадала Ірэна, адрываючыся ад яго.

«Мудра! Вось так і трэба... Проста загадвай мне, а я буду выконваць...»

Замкнуў, у цемры намацаў яе руку, падвёў да крэсла...

— Спокойнее, вот это я сделаю сама, — п’яным гарачым шэптам азвалася яна і засмяялася.

## XVIII

Антон даўно ўжо сілаю прымушаў сябе выкінуць з галавы ўсялякія думкі пра Мінск, і гэта амаль удавалася яму. Толькі зрэдзьчас, калі глядзеў Беларускую праграму па тэлевізары, ці слухаў радыё, ці забіраў бібліятэчную пошту, раптам ні з таго ні з сяго ўспамінаўся твар кагосьці з ранейшых сяброў, і тады ў душы падымалася крыўда і злосць.

Якое ж было яго здзіўленне і радасць, калі неўзабаве, дні праз два пасля выпадку ў бібліятэцы з Ірэнаю, да яго ў госці, у вёску, прыбыў уласнай персонаю Алесь Рамановіч!

Перад яго прыездам, у гэтыя два дні, было наступнае: пасля той ночы з Ірэнаю Васкевіч прачнуўся раніцаю ў бібліятэцы — ён спаў на састаўленых крэслах. Ірэна сышла ўночы. Ён падскочыў і сеў, успомніўшы усё, загадзя паціраючы лоб і скроні, чакаючы знаёмага прыступу пахмельнага болю. Але нічога не балела, не хацелася нават вады, цела здавалася лёгкім, галава была яснай... І вось гэта якраз і было горш за ўсё. Не цела, а душа балела.

Ён азірнуўся на сябе, як жыў у гэты апошні час. Працу

запусціў, п’янстваваў, свядома ці несвядома «зводзіў у блуд» дзяўчынку-школьніцу... Мучыў сваю душу і цела, думаючы, што гэта ён робіць некаму назло. І каму ён гэтым рабіў горш? Акрамя самога сябе?

Дакаціўся да ручкі — у прамым і пераносным значэнні... П’яны, з п’янай дзеўкаю, у бібліятэцы, ледзь не на вачах ва ўсіх, — а гэта ж вёска, ад каго тут, як маці кажа, схаваешся?!

Падтасоўкі вечныя ў планах, справаздачах — няўжо гэта ніколі не выплыве?!

У той дзень Васкевіч не пайшоў дадому, так галодны і прасядзеў у бібліятэцы да вечара: прыбраў, памыў падлогу, зрабіў вопіс новых кніг, якія, нераспакаваныя, ужо з месяц валяліся пад «кафедрай», расставіў іх, падшыў газеты, часопісы... Цяга да ачышчэння была моцная, прытрымліваючыся якой ён змог бы не проста існаваць — а жыць. Ён запісаў у свой сшытак па пунктах, каб лягчэй разабрацца:

1. «Я не люблю пьяных, но знаю нюдей, которые, выпив, становятся интересными, приобретают несвойственные им, трезвым, остроумие, красоту мысли, ловкость и богатство слов. Тогда я готов благословлять вино».

«А гэта ж пра мяне, Васкевіча! Які я бываю нацягнуты, скаваны з Наташаю, сам з сабою, з людзьмі, калі цвярозы! І як пачынаю ўсё любіць, калі п’яны! Можа, нармальнае становішча чалавека якраз і павінна быць — лёгкае ап’яненне, эйфарыя? І ці было б у мяне тое з Ірэн, цвярозага?..

Але Божа мой, — як уяўлю сябе на месцы таго «остроумного, интересного» чалавека раніцаю пасля тыдня ўжывання Ручкавай самагонкі!.. Не, з гэтым нешта трэба думаць.

2. Лена — Наташа — Ірэн. Лены ва мне ўжо няма. Ірэн... вось што мне, аказваецца, трэба было, а не дзіця Наташа. Не, Наташу люблю — душу яе, вочы, форму школьную на ёй; люблю, калі яна сядзіць тут і калі на

развітанне першая лезе цалавацца... Люблю за тое, што людзі нібыта больш цэняць і паважаюць мяне, бачачы, што яна за мной бегае... Але кофтачка яе сястрынская, але матчыны словы: «Ты знаеш, з якой яна сям’і?», але яе самой словы: «Чаму ты не спрабуеш са мной?..»

Падумаеш пра гэта — і ўся любоў некуды знікае...

3. Я, Антон Васкевіч, студэнт-недавучка, «авечка заблудная» на дарозе паміж дзвюма вёскамі... Думаў многа, піў многа, чытаў многа, у адзіноце быў многа, пазнаёміўся з новымі людзьмі, закахаў у сябе дзяўчыну, пераспаў з б... І што? Нічога. Перастаў зусім разбіраць, што добра, што кепска, перастаў ведаць, для чаго жыву. Сам сябе перастаў пазнаваць.

4. І самае важнае — ВЁСКА. Чаго я тут, хто я тут? Некалі зімою гаварыў матцы: «Я пастрадаў за тое, што люблю вас, вашу мову, звычкі...», казаў і сам верыў, бо яшчэ Менск з галавы не выветрыўся. Добра любіць на адлегласці, едучы ў метро, п’ючы ў інтэрнаце віно ці седзячы на лекцыі ў будыніне ў цэнтры Менска... А тут?

Ды ці любяць яны самі сябе, гэтую мову сваю, звычкі?! Самыя тыповыя іхнія пра сябе выказванні: «Язык ні польскі, ні конскі», «Гаруем-гаруем невядома на якога чорта, так прапала жызь — цьфу!» Пішу цяпер, а па «Сокалу» перадаюць інтэрв’ю з нейкай бабкай з-пад Лельчыц:

— Так добрэ жывом!.. Адно, што ета гласнасьць, ды яшчэ Чарнобыль нас папутаў... А так — жыві не хачу! — і без ніякага пераходу, на ўвесь дынамік:

— *Пасеялі дзеўкі лён!*
*Пасеялі бабы лён!..*

Вось так і ўсё жыццё, на адных інстынктах. Або нядаўна чытаў у кнізе, як вясковы дзядзька касіў і штораз спыняўся на паўзамаху, задзіраў галаву, любуючыся жураўліным клінам, ці прыслухоўваўся да птушынага спеву, ці разглядаў абрысы лесу ў ранішняй сонечнай смузе, ці прысядаў на коленцы і браў у далоні якуюсь

незвычайнага хараства кветку... Ах, якая ж гэта няпраўда, які фальш! Адкуль гэты тып вясковага рамантыка, якіх я, колькі жыву, ні ў воднай вёсцы не бачыў? Са школьнай праграмы? «Хорь и Калиныч»... «Землю попашет, попишет стихи»... Дык рускі мужык ёсць рускі, ён яшчэ не такое можа, у яго сена будзе гніць пад дажджом, і конь стаяць няпоены, і дзеці галодныя сядзець па лаўках, а ён тыдзень будзе ў карчме «отплясывать», і рваць на грудзях кашулю, і крычаць пра «грусть-тоску лютую, небывалую!»... Герасім, утапіўшы Му-Му, плакаў ад гора, а наш добранькі Пульс, у якога сучка кожны год шчэніцца, папіхае сляпых сабачанят у панчоху і кідае ў рэчку, яшчэ і дрынам з берага прытопіць.

Могуць і нашыя шкадаваць, але па-свойму неяк: адно вока плача, а другое цікуе, каб свайго не ўпусціць. Добра помню тую зіму, гадоў з пятнаццаць назад, калі з тыдзень мачыла і адлягаў снег, і рэчка разлілася мо на кіламетр, заліла паўвёскі, а потым за адну ноч усё схапілася лёдам; і вось сабакі выгналі з лесу на гэты лёд дзве маленькія казулькі і ўміг тут, на слізкім, параздзіралі ім жываты... Помню лясніка дзядзьку Міколу ў адных споднiках, у валёнках, з ружжом, якім ён з двух стрэлаў паклаў двух сабак на месцы, астатнія паўцякалі ў лес... Людзей, што павыходзілі з хат, сабраліся ля гэтых касуль і так ужо іх шкадавалі! А потым дзядзька Юлен, уздыхнуўшы, адзеўшы на рукі спяцоўкі, узяў абедзвюх за заднія ножкі і пацягнуў у свой двор. Казулькі былі яшчэ жывыя, спакутныя вочкі глядзелі, язычкі варушыліся, а з разарваных жыватоў вывальваліся кішкі, ліплі да лёдавай зямлі, і дзве галоўкі разам падскоквалі на буграх...

Добра было ў Мінску ўспамінаць: ах, якія ў нашым народзе яшчэ жывучыя паганскія звычаі, якія яшчэ можна пачуць сакавітыя слоўцы!.. А мне цяпер іншае ўспамінаецца — як я некалі, здаецца, у тое страшна сухое лета, калі паўміралі Пульсавыя бацькі, калоў дровы. Быў гарачы поўдзень. І вось ідзе Надзя, разносіць пошту, прамінула мяне, потым спынілася:

— Ай-ай, нашто ж ты колеш у пост?! І так дажджу няма, высушыла ўсё — яшчэ не нарабіў пажару?»

І такой пагрозлівай, першабытнай дзікасцю павеяла ад тых слоў, што ледзь сякера з рук не выслізнула. Аказваецца, суш стаіць, бо я ў пост перад Пятром раблю работу! А калі б гэта было гадоў сто, дзвесце назад?! І сапраўды здарыўся б пажар? Ды мяне разадралі б, як жабу!

Раз я ўжо больш-менш зміры ўся з выгнаннем, раз наканавана зноў сюды вярнуцца і дажываць тут, дык трэба сярод гэтых людзей «не брахаць, а хвосцікам віляць», трэба рабіцца такім жа, як яны: не каб ціха сумаваць пад шум летняга дожджыку, а каб у душы сказалася: «Маць-перамаць, зноў гуркі паплывуць!» Не загараць на сонейку, не пра рыбу і рэчку думаць, а пра сена, якое трэба падварушваць. Трэба ўмець кляпаць касу, касіць, араць, запрагаць каня, не шкадаваць кабана, а ўмець рэзаць яму глотку, не любавацца вясёлым цялём, якое бегае па зялёнай траўцы і падбрыквае, а бачыць у ім мяса ці грошы, не глядзець па тэлевізары футбол, а калі і глядзець, дык дзівіцца на яго як на нечуваную людскую дурноту...

Усё гэта трэба, бо выбару ў мяне няма — альбо вёска, альбо Менск ці Парыж. Які б ні быў я, якія б ні былі гэтыя мае землякі, трэба цалкам растварыцца ў іх, каб быць прынятым за свайго.

Што ж мяне стрымлівае? Надзея. Надзея на тое, што адным цудоўным сонечным ранкам я ў гэтай бібліятэцы дастану з канверта ліст, дзе будзе напісана... Ну, надзейся. Авось так і будзе.

Дзіўна, але цяпер ясна разумею — я не хачу ніякай свабоды. Яна мне не дае жыць. Не хачу надзеяцца. Як і ў школе, арміі, інстытуце мне хочацца адчуваць на сваёй шкірцы цвёрдую руку, руку, якая дала б зразумець: «оставь надежду!», тут табе звекаваць, жаніся з гэтай Наташаю і жыві». Вось тады, думаю, спакойна жыў бы, і навучыўся б усяму, і сканаў бы тут не горш за ўсіх».

## XIX

— У Менску ледзь дрэвы распукнуліся, вецер, дождж, халадзіна; сюды прыехаў — цяплынь, зелена ўсё, сапраўднае лета! — чуўся з меншай хаты вясёлы звонкі голас Алеся Рамановіча. Сябар толькі што, раніцаю, прыехаў з Мінска, дабраўся сам са станцыі і гаварыў цяпер з маткаю.

Васкевіч засцілаў у большай хаце свой ложак і прыслухоўваўся.

— Як ён тут, я гляджу, жывы-здаровы? — пытаўся Рамановіч.

— Што вам атвеціць? — бразгаючы відэльцамі, хітравата-асцярожна, стараючыся чамусьці гаварыць па-руску, адказвала маці. — Дзярэўня ж наша глухая, ён, можна сказаць, адзін і адзін... Нудзіцца. Мо б вы там з кім пагаварылі, каб яго як зноў у горад?

— Пагаворыць, — азваўся Антон, выходзячы да іх. — Ён такое ж начальства, як і я!

Рамановіч сядзеў за сталом каля акна, на Антонавым месцы, чысты, свежы, у светлых адпрасаваных нагавіцах, у новенькай сіняй кашулі з адгорнутымі да локцяў рукавамі, коратка падстрыжаны, румяны — бы не з цягніка, у якім амаль ноч пракалаціўся, чалавек, а з мінскага салона прыгажосці «Александрына»... «Паеду ў горад па палучку — абавязкова падстрыгуся!» — падумаў Васкевіч, з зайздрасцю аглядаючы яго, супастаўляючы яго і сябе; сябе — з доўгай, з таго году, грываю, у інстытуцкіх джынсах ды ва ўсім інстытуцкім, якое, вядома ж, абнасілася.

Зрэшты, ён быў страшна рады госцю і не хаваў гэтага. Прабег позіркам па накрытым стале, пацёр рукі, убачыўшы пляшку, прысеў за стол. Прысела і маці.

— Ну, расказвай! — Антон звыкла напоўніў чаркі. —

Чаму столькі маўчаў? Ты атрымаў маё пісьмо?

— Атрымаў, — Рамановіч зірнуў на маці, нібы вагаўся, ці можна казаць пры ёй; вырашыў, што можна: — Атрымаў, але… Не да адказу было. Там такое закруцілася, я сам ледзь ліпеў, вісеў на валасінцы…

— І вас мо хацелі выгнаць? — адразу ажывілася маці.

У адказ Рамановіч толькі пасміхаўся. Антон зухавата — каб хоць нечым казырнуць перад сябрам — кальнуў у рот чарку самагонкі, нават не хукнуў, не паморшчыўся, узяў гарачую бульбіну, падзьмуў, пасаліў і толькі тады адкусіў кавалачак.

— А вы чаго не п’яце? — спытала маці ў Рамановіча, які нават не дакрануўся да сваёй чаркі.

— З раніцы?! У такую спёку?! Не, што вы! Тут, цётка, такі стол, што і без гарэлкі станеш п’яны…

Рамановіч наклаў сабе на талерку бульбы, зачэрпнуў з патэльні лыжку скрылёчкаў смажанага сала з цыбуляю, паліў зверху, патоўк відэльцам, з аднаго боку абклаў сваю «бабку» марынаванымі грыбамі, з другога — квашанай капустаю, зверху прыстроіў крамяны салёны гурок, палюбаваўся:

— А яшчэ кажам, жыць горш сталі!

Нейкі час моўчкі елі; хлопцы — няспешна, акуратна, ледзь стукаючы аб талеркі відэльцамі, і маці — лыжкаю, таропка, плямкаючы…

— А мой п’е, — сказала маці, хутка наеўшыся. Сказала і тут жа спахапілася, зірнула на сына — відаць, баялася нашкодзіць яму якімсь неасцярожным словам. — Не, не так каб моцна! Калі-нікалі, чарачку…

— Але ж і грыбкі ў вас! А гуркі! — Алесь еў і ўсё нахвальваў.

Маці перасела на полік, чырвоная ад задавальнення. Яе пацягнула на філасофію:

— Гляджу на вас — такі красівы, модны хлопец, і не п’яце, і Антон мой не так ужо каб піў... Чаго яны да вас чапляюцца, што б да іх смала чаплялася?

Рамановіч аж зарагатаў ад такой непасрэднасці — ён увогуле любіў розныя народныя сакаўныя слоўцы; потым пасуровеў, адклаў відэлец:

— Уся наша бяда, цётка, у тым, што мы моцна любім сваё, роднае. А гэта далёка не ўсім даспадобы.

— Ох, хай бы вы тады трохі менш любілі, былі б трохі хітрэйшыя, берагліся...

Рамановіч папрасіў гарбаты,Васкевіч дастаў яму з шуфляды кіпяцільнік, пачак чаю, Рамановіч сам моцна сабе заварыў, пачаў піць, і гаварыў з маткаю.

— За каго вы галасавалі? — спытаў ён.

— Так... — замялася маці, ізноў насцярожана зіркнуўшы на сына. — Як усе...

— Ды за «саюз» яны ўсе! — сказаў Антон.

— Што ж вы?

— Бо дурні! — асмялела маці, відаць, вясковай інтуіцыяй адчуўшы, якіх слоў хочацца сынаваму сябру. — Трэба нам быў той саюз! І так было абы-што, а стала яшчэ горш... — Яна заўважыла, што Антон ужо ў трэці раз выпіў і цяпер зноў косіцца на пляшку, паднялася: — Ну, ідзі ўжо курыць, хопіць ужо... А вы ежце яшчэ, вас гэта не касаецца! Вы курыце?

— Не.

— А мой курыць! — і зноў спахапілася: — Не, не так каб моцна...

— Ды п’ю і куру я моцна, — незадаволены, прамармытаў сабе пад нос Васкевіч.

Ён з жалем правёў вачыма пляшку ў матчынай руцэ, і

калі маці выйшла ў калідор, падміргнуў Рамановічу, узяў яго чарку, што так і стаяла поўненькая і якую маці пасаромелася зліваць у бутэльку, выпіў. Рамановіч апусціў галаву.

Неўзабаве хлопцы выйшлі з хаты і падаліся на Двароўку. Васкевіч знарок павёў госця не шашою, а напрамкі. Майскае сонца грэла па-летняму, дарога была сухая, убітая, усё вакол зелянела. Тут, у вёсцы, а асабліва калі мінулі вёску і паўз дарогу з аднаго боку пацягнуўся лес, а з другога — зялёны, зарослы кустоўем лазы луг, Васкевіч яшчэ больш, чым у сваёй хаце, адчуў сябе гаспадаром. Рамановіча ўсё цікавіла, ён круціў ва ўсе бакі галавою, голасна захапляўся — ці папраўдзе, ці проста з ветлівасці госця.

— Там што, рэчка? — паказаў ён на луг, на лазовыя карчы, круглыя, як зялёныя шары, бы дэкаратыўныя.

— Рэчка. Тут бабры жылі некалі, плаціна была. Помню, мужчыны злавілі аднаго сеткаю, выцягнулі на бераг — от папаплакаў!

— І што, забілі?

— Яшчэ што... Выпусцілі. Грэх быў.

— Якая ўсё ж багатая наша Беларусь! І рыба тут ёсць?

— Была некалі. Хаця і цяпер яшчэ можна злавіць. Ракі былі,налімы — мяні, па-нашаму, вадзіліся ўюны; уюноў за рыбу не лічылі...

Васкевіч расказаў, як калісь, у засушлівае лета, капаў уюноў проста насупраць свае хаты. Рачулка перасохла, толькі на дне асталося мо з метр гразі. І ў гэтай гразі поўна дзірачак — уюны дыхалі. Ён узяў некалькі дошак, вядро, заступ (рыдлёўку), упіхнуў дошкі ў гразь, зрабіўшы як бы загарадку-сценку, і стаў перакідаць гразь за гэтыя дошкі, і яна не спаўзала. Хутка дакапаўся да цвёрдага белага дна, ачысціў гразь паўз бераг, а ў беразе — норы. Засунуў у адну руку — і выхапіў, аж страшна стала; торкнуў туды дзержаком,

паварушыў — і пасыпаліся ўюны, як вугры, як гадзюкі, жоўтыя, чорныя, рабыя, штук пяцьдзесят з адной нары! А дно даволі цупкае, чыстае, уцякаць ім няма куды. Набраў вядро за пяць хвілін. А потым прыляцела пчала, заблыталася ў валасах, рукі па локаць у гразі, не згоніш. Укусіла, пачала балець галава — плюнуў і не капаў больш. А ўночы дождж лінуў — і ўсё, напоўнілася рэчка.

— Трэба ж! А я вось ніколі не бачыў жывога ўюна!

— Добра, уюны ўюнамі, раскажы лепш, што там у вас? — сказаў Васкевіч. Яму хацелася, каб Алесь загаварыў пра Лену.

— У нас? Многа чаго… Двума словамі не раскажаш, а так… Я пра другое думаю. Думаю вось пра што — якога чорта мы ўсе скупіліся ў Менску?! Сярод людзей трэба быць, паміж народу! Я скажу шчыра — я зайздрошчу табе, Антон. Рана ці позна цябе ўзновяць, пра гэта нават гаворкі няма, але цяпер — ты ж проста ў ножкі павінен пакланіцца тым, што цябе выгналі! Такая магчымасць — пабыць тут, сярод прыроды, людзей…

— Ага, дзякую, — панура перабіў Васкевіч. Яму чамусьці і не ўспомнілася, што ён сам не так даўно дзякаваў лёсу за сваё выгнанне; проста цяпер яго ўзяло за жывое. — Я і так усё жыццё сярод гэтых людзей, ведаю іх, як аблупленых, як і яны мяне — што, агітаваць іх? Вось я цябе ўвечары пазнаёмлю з Пульсам ці з Ручкам, пагляджу, як ты іх з’агітуеш!

— Пры чым тут? Сам факт: чалавек вучыўся ў горадзе, працуе ў бібліятэцы, малады, культурны — а гаворыць па-іхняму! Ужо ў гэтым лепшая агітацыя!

— Не ведаю, можа быць… Васкевічу ўсё карцела пачуць пра Лену; ён зноў спытаў:

— Дык як там нашы?

— Міцура табе прывітанне шле… А, слухай! — засмяяўся Алесь. — У яго нядаўна выйшла кніжка ў

бібліятэцы «Маладосці». Здаем мы іспыты па рускай літаратуры. Міцура выцягвае білет, чытае пытанне, і яму не падабаецца фармулёўка — нешта «В чем сила Толстого как художника и слабость как мыслителя?» Падыходзіць да нашай Машы: «Я хачу другі білет». — «Нельзя. И вообще, почему вы на экзамене по русской литературе разговариваете по-белорусски?» — «Адказваць я буду па-расейску, дайце мне, калі ласка, другі білет». — «Никакого билета я вам не дам, это право преподавателя». Ах, так? Ён выходзіць з аўдыторыі і піша заяву, каб дазволілі здаваць другому выкладчыку. Назаўтра выклікаюць да рэктара. «У меня есть сведения, что вы принципиально не хотите сдавать русскую литературу». — «Я прынцыпова не хачу апускацца да ўзроўню «Толстой в силу ограниченности своего мировоззрения»... Што за лухта?» — «Вы хотите сказать, что Толстой как мыслитель был безупречен?» Ты ж ведаеш Міцуру, той заводзіцца: «Пакуль яго не пачалі выкладаць у школах і ВНУ — зрэшты, як і любога вялікага пісьменніка — так, да тых часоў быў «безупречен»! Ва ўсялякім разе, не Марыі Іванаўне талкаваць пра яго «ограниченность». — «И тем не менее, я все же остаюсь при том мнении, что вы специально тянете время, на самом же деле просто-напросто не любите и не хотите знать русской литературы». Міцура злы, вазьмі і ляпні: «Я, калі на тое пайшло, сам гэтую літаратуру раблю!» — «Как это?» — «Так, друкуюся трэці год, вось кніжка» — і выцягвае з кішэні кніжку — ён насіў яе з сабою, як некалі дзед Талаш за поясам «Дрыгву». Ведаеш гэтую гісторыю? Хадзіў па Петрыкаве з «Дрыгвою» за поясам, і не падступіцца было... Дык вось: «Для вас гэта навіна? — пытае Міцура. — Скажыце шчыра — вы чыталі хоць адно маё слова?» Рэктар раптам чырванее, лезе ў шуфлядку, мармыча: «Почему же, я люблю творческих людей, и сам печатаюсь...» — і выцягвае папку, а з яе... дзве ці тры маленькія, на калонку, газетныя выразкі! Яго творчы здабытак за ўсё жыццё!

**XX**

Васкевічу раптам перастала здавацца гэта смешным. «Ага, вы там жывяце, кніжкі пішаце — а тут...»

— Як Лена? — у адкрытую спытаў ён.

— На дэкрэтным цяпер, — неяк неахвотна адказаў Алесь. — Замуж выйшла. Але так памагае нам, цікавіцца...

Надзіва, гэтая навіна мала ўразіла Васкевіча. Нават гэтая. «Ага, — ізноў падумалася, — жывяце там, замуж выходзіце, а я...»

— У чым заключаецца твая работа, Антон?

— У чым? А вось цягацца гэтай дарогай туды-сюды і гарэлку піць. У гэтым заключаецца.

Рамановіч прапусціў яго з’едлівасць міма вушэй.

— У цябе такая маці цікавая. І мова чыстая, я нават не чакаў, думаў, усё ж Палессе, — а ў вас, аказваецца, мова чысцейшая, чым на Міншчыне. А пра маці — вясковая жанчына, а так разважае! Цяпер ясна, адкуль у цябе гэты дух.

— Яна яшчэ не так можа паразважаць, — Васкевіч, аднак, ацаніў гэтую пахвальбу. — Проста яна ўбачыла — чалавек гарадскі, культурны, а вось прыехаў да яе сына, гаворыць па-простаму — вось і ўсё.

— Уразіла, што яна ела лыжкаю і хутка... Правільна, у яе ж работа, усё на хаду, — для Рамановіча, відаць, гэта было цэлае адкрыццё. — Давай пасядзім? — прапанаваў ён.

Непадалёку ўжо былі двароўскія хаты. Хлопцы расцягнуліся на траўцы пад цяністай вольхаю, на пагорку, каля старой бетоннай трубы, што была ўкапана пад дарогаю і значыла, што тут некалі цякла рачулка. Цяпер усё зарасло травою і кустоўем без следу.

— Тыповы беларускі краявід! — сказаў Алесь,

паказваючы на хаты сярод алешніку, потым спытаў: — Васкевіч, як ты думаеш — ты, які бачыў усю гэту механіку знутры — чаму так лажанўліся з рэферэндумам?

— Правільна зрабілі... Чаго лажануліся? А што яны разбіраюцца! Ды ім усё адно, яны табе за далучэнне да Амерыкі прагаласуюць — як ім скажуць, так і будзе.

— Ты галасаваў?

— Не.

— Я галасаваў, але, ведаеш, таксама не разумеў, не прымаў гэтай камедыі. Больш скажу: ніхто б нам гэтай незалежнасці не даў у любым выпадку! Як бы ні прагаласавалі.

Васкевіч гмыкнуў:

— Я разумею, узяць акээм і махнуць у гэты лес! — паўтарыў ён тое, што запісваў некалі ў сшытак.

— Ну, гэта крайнасці. Ёсць больш простыя шляхі, — Алесь гаварыў ціха, пранікнёна і пасля кожнага сказу ляпаў далоняй па траве. — Цяпер — толькі палітыка. Аддзяленне. Будзе цвёрдая незалежнасць — з’явіцца сама сабою і мова, і ўсё іншае. Цяпер гэта — аддзяленне — павінна стаць нацыянальнай ідэяй.

— Цяпер ужо гэта «нацыянальная ідэя»?

— Чаму ты іранізуеш...

— А як жа экспансія з «усходніх абласцей», «адметнасці рэгіёну»?

— Быў час — было актуальна гэтае. Вось калі ў нас тут будзе свая Італія, тады будзем дзяліцца на ўсходнікаў, паўднёвікаў... Ганарыцца гэтым. А цяпер, пакуль мы ўсе «Северо-Запад», трэба кансалідацыя. Цяпер многае змянілася.

«Ну, вядома, змянілася! Ты вунь як апрануты,

чысценькі, не п’еш, не курыш, Лена там з нейкім... Міцура кніжкі піша і спрачаецца з рэктарам, сам хоча выкладчыкаў выбіраць!.. А тут...»

— Ды няма ніякай нацыянальнай ідэі, і быць не можа! — пачаў заводзіцца Васкевіч, адчуваючы забытае ўжо, радаснае ўзбуджэнне спрэчкі. — Ва ўсіх людзей ёсць, а ў нас няма! Я перад гэтым рэферэндумам думаў: вось калі б узяліся ўсе за рукі, ад Езярышчаў да нашага Славечна, зрабілі «жывы лянцуг»...

— Можа, яшчэ возьмуцца.

— Ага, зараз!

Рамановіч зморшчыў прыгожы белы лоб, сказаў цвёрда:

— Не возьмуцца — нічога страшнага. Жменька нас ёсць, праз выбары возьмем уладу — і ўсё само сабою зробіцца. Ты ж сам сабе супярэчыш, ты ж сам кажаш — нашы людзі рахманыя, як ім загадаеш, так і зробяць.

— А! Ну, вядома, калі лічыць іх за вінцікі, матэрыял... Але тады трэба забыць, і згадваць перастаць пра «нацыянальныя ідэі»!

— Ды што ты ўскінуўся, як певень?

— Хочаш ведаць? Калі ласка. Больш чым паўгода я, адзін, тырчэў тут — і каму я быў трэба? Ні слова, ні вестачкі!

— І ты з-за гэтага пакрыўдзіўся?

— А гэтага мала? Што мне аставалася думаць? Быў сярод вас, побач — быў патрэбен, як матэрыял. Як і гэтыя людзі, што жывуць вунь у хатах, табе будуць патрэбныя... Знік з вачэй — і ўсё. Значыць, ідэя даражэй за чалавека? Ды вы павінны былі кінуць усё на свеце, не выдаваць кніжкі ў «Маладосці», не выходзіць замуж, а кінуць усё на свеце і пісаць мне, званіць, біць тэлеграмы, прыязджаць, ратаваць, думаць увесь час пра мяне! А раз ідэя для вас засціць чалавека, дык гэта г... а не ідэя! Такая ж лухта, «балталёгія», як і ўсе іншыя

словы...

— Я ж прыехаў, — ціха прамовіў Алесь. Раней, у Мінску, Антон ніколі не спрачаўся з сябрам, таму для Рамановіча ўсё гэта было нечакана, ён нават неяк сцяўся. Васкевічу стала шкада яго.

— Пайшлі, — сказаў ён, і калі Рамановіч падняўся, паціснуў яму плячо. — Не крыўдуй, Алесь, я проста доўга ні з кім як след не гаварыў, вось і прарвала... — Ён тэатральна адвёў убок левую руку і жартоўна-трагічным голасам прадэкламаваў:

*Жывеце там у сваім Менску*
*І кніжкі пішаце,*
*А тут!..*
*Вам, Рамановіч, многа невядома*
*Пра гэты край*
*Няшчасця і пакут!*

— Ладна, пакутнік! — засмяяўся Алесь.

Калі ўваходзілі ў вёску, насустрач трапіўся дзядзька, ехаў веласіпедам, у сетцы на рулі вёз хлеб і пляшку гарэлкі. «Ага, падвезлі... Зараз папрашу напавер», — Васкевічу стала радасна і захацелася яшчэ шчырасці, захацелася гаварыць і гаварыць... Толькі не тут, а калі прыйдуць у бібліятэку, і ён вып’е.

Сапраўды, у магазіне таўкліся ў чарзе людзі. Рамановіч з парога бачыў, як сябар пашыўся ў чаргу, папытаў нешта ў прадаўшчыцы, тая буркнула ў адказ, тады Антон пачаў прасіць аб нечым, азіраючыся і паказваючы пальцам на яго, Рамановіча. Азірнулася і прадаўшчыца. Рамановіч выйшаў на двор. Хутка следам выскачыў шчаслівы Васкевіч, з пляшкай у папяровым мяшэчку з-пад цукару:

— Усё, жывём!

**XXI**

— Цябе праўда так цягне выпіць? — сказаў Рамановіч, заходзячы за сябрам у бібліятэку. — Ніколі не верыў, што разумны чалавек можа спіцца… Слухай, а здорава тут! Чыста, холадна…

Васкевіч парассоўваў шторы на вокнах.

— А кніг сколькі! Слухай, ты з жыру бесішся. Гэта ж толькі пазайздросціць можна — мець такое багацце! — Ён кінуўся да паліц, пачаў браць кнігі, гартаць.

— Ты вып’еш? — спытаў Васкевіч.

— Не, што ты. І табе не раю.

Антон дастаў з-пад «кафедры» паўбуханкі сухога хлеба, кавалачак кусанага сала, адчыніў пляшку. Выпіў трошкі. Не радасна, а сумна раптам стала. Лена ўжо не яго, Наташа з’ехала, а мо ўжо прыехала і больш не заяўляецца, бо пакрыўдзілася, ці даведалася пра Ірэн… Ірэн — вось каго б сюды зараз!..

— «Жыве Беларусь»! — прачытаў Рамановіч назву выстаўкі, потым прысеў за сталы, дзе Наташа звычайна сядзела. — Слухай, Васкевіч, ты, як заўсёды, прыбядняешся. Я ж ведаю, што ты быў і будзеш «нацюга» [7] пабольш за нас усіх… І не думай, што цябе не ўспаміналі. Часцей, чым табе здаецца. «Да, і не пісалі нічога!»

— Выпі, — папрасіў Антон. — І мне весялей будзе. А то мы ў розных вагавых катэгорыях, — пажартаваў ён. — П’яны з цвярозым — што сыты з галодным.

— Не, сказаў жа! — і Рамановіч, незадаволены нечым, падняўся і зноў пайшоў шнырыць рукамі і вачыма па паліцах.

Васкевіч з гонарам за сваё багацце і з некаторай рэўнасцю назіраў за ім. Той дайшоў да канца стэлажоў, выцягнуў нейкую сінюю кніжку, здзівіўся:

— Ого, Борхес! Чытаў?

— Не.

— Дарма... Кожны сказ — як раман. Можа, у гэтай вось кніжачцы зашыфравана ўся твая бібліятэка... Дарэчы, інтэлектуальнае чытанне супакойвае.

— З чаго ты ўзяў, што я неспакойны? — Васкевічу ізноў не спадабаўся гэты павучальны тон.

Рамановіч змоўчаў, знайшоў у кнізе нейкае месца, заклаў пальцам, стаў чакаць, пакуль Васкевіч наліваў і выпіваў.

— Вось, паслухай — «Историй всего четыре»...

— Ды кінь ты! — закурваючы, бесцырымонна перабіў Васкевіч. — «Всего четыре»! Ды гісторый усяго — трыльёны, мірыяды, колькі людзей, столькі гісторый! У кожнага свая, і ўсе непаўторныя! — Ён устаў, падышоў, узяў з рук у сябра кніжку, зачытаў: — «Много лет я не уставал повторять, что вырос в районе Буэнос-Айреса под названием Талермо»... Ну, скажы ты мне дзеля Госпада Бога — што мне да гэтага Талерма?! Як гэта можа мяне супакоіць?! Хочаш, я адкрыю табе карты, што я шукаю ў кожнай кнізе? Сябе я шукаю! І таго, што навокал мяне. У Чэхава чытаю «сонца ўстала» — вунь, глянь за акно — і там сонца! А Талерма ніякага я не бачыў, не бачу і думаю, што і не ўбачу ніколі!

Алесь памаўчаў, і Васкевічу падалося, што ён пераконвае яго.

Дык вось, я бяру ў рукі кожную кнігу, з надзеяй знайсці ў ёй тое, што мяне цяпер хвалюе. А хвалюе мяне цяпер тое, што вунь за акном сонца, толькі дзень пачаўся  а я п”яны... Хвалюе, што я зайздрошчу табе, вось гэтым тваім штанам, кашулі, прычосцы... А я такі ж, як і год назад! Што ты паедзеш і будзеш катацца ў метро, увечары зойдзеш з дзеўкай у кавярню, і будзеце, папіваючы каву, адставіўшы пальчыкі, базарыць пра “нацыянальныя ідэі”... А я тут застануся. Вось гэта я хачу знайсці ў кнізе, адгортваю...

… адгортваю і чытаю пра нейкае чортавае Талерма, праваліцца б яму разам з гэтай бібліятэкай! Ды няма ніякага Талерма! І Борхеса няма ніякага. Усё працяй. Вунь карова прайшла, наляпала каля веснічак гэта ёсць; хлеб вунь той чарствы на стале, гарэлка… А ад Борхеса вось гэты пачак сшытай паперы і больш нічога! Нічога!

Я думаў, а адзін такі максімаліст, а ты, аказваецца, яшчэ горшы. Паслухай…

Ты кажаш, не знайду ні ў воднай кнізе? аніяк не хацеў слухаць п”яны Васкевіч. А гэта як? Ён кінуўся да другой паліцы, выкалупнуў тоўсты том. Глядзі адгортваю наўзгад, не спецыяльна… “Вчера, слышу, идет по деревне и поет блядским голоском: “Как андел небеснай прикрасна, как деман каварна и зла”… Вось што ёсць, вось сапраўднае, ад якога скуру дзярэ!

Пачакай. паслухай: я выдатна разумею тваю настальгію па Чэхавых і Буніных, тым больш я сам праваслаўны, славянін. Можа, калі б я, як Міцура, пісаў нешта, дык пісаў бы так, як табе падабаецца, традыцыйна, з прыродай і таму падобнае… Але зразумей, гэта ўчарашні дзень, гэта толькі тваё і маё. Чалавецтва ідзе да уніфікацыі, і прыйдзе, хацелася б нам таго, ці не. Ад нас залежыць толькі адно каб не з лапцямі на плячах увайсці ў сусветную культуру, а…

Вось калі тая уніфікацыя настане, тады засяду за Борхеса! А пакуль мне вось так хапае Чэхава з Буніным. Гэты твой Борхес, адкуль ён? З БуэнасАйраса? Ну і хай ляжыць сабе пад пальмаю! Што ён мне можа сказаць, чалавек, які ўсё жыццё глядзеў на пальмы, мора, іншае неба? І продкі яго. А мой дзед Антон глядзеў вунь на тыя каровячыя сляды, на луг, якім мы праходзілі, і бацька мой глядзеў, а цяпер і я… Вядома, ў нас і псіхалогія свая, і…

Васкевіч махнуў рукою, пайшоў да кафедры і яшчэ выпіў. П’яная дурасць, п’яны запал падказалі яму раптам такое, што ён аж скалануўся — не ад гарэлкі, а ад нядобрага цынічнага захаплення перад тымі словамі,

якія ён зараз скажа сябру.

— Ну ты малайчына, — Алесь увесь час слухаў яго з усмешкаю. — Ты хоць здагадваешся, што ледзь не слова ў слова паўтараеш гэтага самага Борхеса?

— Алесь, — сказаў Васкевіч. — Я вось тут, на гэтых крэслах, п’яны, з п’янай дзеўкаю.., і малую ціскаў ля гэтых стэлажоў... а вось гэта! — абвёў ён рукою вакол, — збор мудрасці чалавечай усіх вякоў і народаў, глядзела моўчкі — і неба не раскалолася! Дык вось тое, што на крэслах — было, а ўсяго іншага — няма!

## XXII

Як маці ні ўпрошвала Рамановіча астацца хоць пераначаваць, як ні прабачалася за свайго «дурня непуцёвага» (Васкевіча Алесь ледзь не пад рукі прывёў з Двароўкі, і той цэлы дзень праспаў), Рамановіч не хацеў і слухаць. Пад вечар трохі адаспалы, пануры, маўклівы Васкевіч праводзіў яго на станцыю. І толькі ўжо на пероне, перад самым цягнікам, спытаў:

— Шкадуеш, што прыехаў?

— Усё нармалёва, — унікліва адказаў сябар, у адкрытую пазіраючы то на гадзіннік, то на семафор, які вось-вось павінен быў засвяціцца зялёным.

— Алесь, ты сам пабачыў — я не змагар... Але я за вас, ваш — вер! І вер, што самае большае, што магу тут, я раблю! Калі дзве мае знаёмыя дзеўкі хоць дзяцей сваіх не будуць адвучваць ад мовы — успамінаючы, што быў у іх некалі беларускі хлопец, — і то для мяне гэта будзе найлепшая ўзнагарода.

— Усё нармалёва...

Адзінокі Васкевіч стаяў і глядзеў услед цягніку, што імкліва аддаляў і аддаляў ад яго такога раней блізкага чалавека.

А на другі дзень, увечары, адбылася падзея, якая проста дабіла Антона.

Прыехаў з Мінска да маці, Надзі-паштальёнкі, былы Васкевічаў аднакласнік Валер. І не проста прыехаў, а на сваёй машыне і з маладой жонкаю.

— Вунь, я кажу, хлопчыкі і вучацца, і жэняцца, і не п’юць, і ніхто не выганяе, — бурчэла маці, злая на Антона яшчэ за ўчарашняе. — Ён жа тваіх гадоў, а ўжо і жонка, і машына... Талан людзям!

— Адкуль у яго машына?

— Цесць купіў! А ты пі, куры...

Мабыць, не толькі з Сасноўкі, а і з усіх навакольных вёсак толькі два чалавекі і вучыліся ў Мінску, Васкевіч і Валер: адзін — на філфаку, другі — у радыётэхнічным. Аднак у Мінску яны ні разу не сустрэліся, як гэта часта бывае паміж блізкіх землякоў, жылі кожны сваім, — ды проста не хацелі, відаць, сустракацца, бо там праехаць было адзін да аднаго некалькі прыпынкаў на метро.

Яшчэ менш хацелася гэтай сустрэчы Васкевічу цяпер. Успамінаўся свой прыезд — як Пульс на саначках вёз сумку, і вось Валераў — на «аўто», з дзяўчынаю... Была розніца. Але Валер, які, аказваецца, нават не ведаў, што Васкевіч даўно ўжо не студэнт, сам прыйшоў, прапанаваў прайсціся, пагаварыць. «Трэба ж яму сведка яго трыумфу», — думаў Васкевіч. Пайшлі да хаты Надзі-паштальёнкі.

— Матка рассказывала, ты здесь поддаёшь немного? — смеючыся, пытаў Валер. — Молодец — а что ещё делать?

Антону і ў галаву не прыходзіла гаварыць з Валерам так, як учора гаварыў з Рамановічам. Ён паддакваў Валеру, ледзь не ў рот глядзеў, сам стараўся падсмейвацца з сябе — як з няўдачніка, ведаючы, што для гэтага ён цяпер і спатрэбіўся.

Машына стаяла ў двары, белая, вымытая, бліскучая.

Антон абышоў яе вакол, пацмокаў языком, з ветлівасці зазірнуў усярэдзіну, пашчоўкаў пазногцем па мокрай шыне. Селі на прызбе, закурылі, дымам і рукамі адганяючы мошак. Вечарэла, сіне-шэры туман ужо напаўзаў сюды, на двор, ад канца агарода.

І не было ім пра што гаварыць, як і ніколі не было пра што. Падняцца б і пайсці, — але Васкевічу раптам нясцерпна захацелася выпіць, проста напіцца, як учора, і ён усё сядзеў, чакаў, пакуль Валер запросіць яго ў хату.

— Да мяне ўчора сябар з Менску прыязджаў, расказваў, мітынгуюць там... Праўда?

— Мітынгуюць... а-а! — пазяхаючы, адказваў Валер. — А што яшчэ рабіць?

— Метро, я чуў, другую лінію пусцілі?

— Пусцілі.

— Якой маркі машына? — спытаў Антон.

— Пяты «жыгуль», — адразу ажывіўся аднакласнік. — Дурны я, прашляпіў сам, можна было «дзевятачку»...

Адчыніліся дзверы веранды і высунулася дзявочая галава. Васкевіч павітаўся, галава не адказала, нават, здалося, і не кіўнула. Валер хуценька падхапіўся:

— Ну, давай, — працягваў Антону руку. «Лепш — бывай», — падумаў Васкевіч, выходзячы на вуліцу. Ён быў проста раздушаны. Усё яго жыццё ўспомнілася яму, пранеслася этапамі перад вачыма... Маленства, школа, армія, інстытут, «адраджэнства», бібліятэка, каханне яго... І такім будзённым, пустым, нікому непатрэбным, «жалким» паўстала перад ім гэтае жыццё! Што каму з таго, што Валер — хітры, кар’ерыст, калі трэба падліза, калі трэба — хцівы і жорсткі? Што з таго, што ён хам, неначытаны, самалюбівы? Каго з іх дваіх вяскоўцы, маткі, дзеўкі, увогуле людзі будуць больш паважаць, пра каго скажуць: «Во, гэты ўмее жыць! І сам не прападзе, і дзяцей сваіх у людзі выб’е»?

«Не, без пляшкі тут не разбярэшся!» — падумаў Антон, беручы знаёмы курс на Двароўку. Нябось, Ручка не будзе хваліцца сваім трактарам, а ўзрадуецца і пабяжыць шукаць самагонку.

## XXIII

Канчаўся май — дажджлівы, са страшнай камарэчай і машкарою, занадта халодны для гэтай самай паўднёвай часткі Беларусі, май — прадвеснік таго гарачэннага пажарыстага лета, за якое выгарэла мо трэцяя частка лясоў Гомельшчыны.

Раніцамі Васкевіч браў кош і сыходзіў у лес, па лісічкі. Кожны раз ішоў аднымі мясцінамі — утравянелымі дарогамі, верасовым бярэзнічкам — і кожны раз набіраў поўна. Не спяшаўся, калі налазіў на цэлую жоўтую парасль, аж у вачах жаўцела, патрошку, як стары дзед, прысеўшы, падразаў сабе лісічкі, знаходзячы асалоду ў гэтай аднастайнасці, у ледзь чутным чырканні нажа па карэньчыках, абдуваў грыбы, акуратна складаў у кош. І шкада было, што той хутка напаўняецца. Не хацелася вяртацца дамоў, не хацелася слухаць дакучнага буркатання маткі, якая ўсё не магла ўняцца з таго дня, як прыязджаў Рамановіч і Антон напіўся. Ён разумеў, што п’янка была для яе толькі прычынаю. Проста тады, зімою, калі ён вярнуўся з Мінска, маці — што б яна там ні казала — усё ж спадзявалася, што ён пабудзе тут часова. І вось час бяжыць, аднагодкі яго жэняцца, вучацца, купляюць машыны — адзін ён, як быў, так і ёсць.

Бурчэла маці, забралі ў армію Пецю з Двароўкі, жыла недзе ў Гомелі Ірэна, у Мінску — Рамановіч, які цяпер, вядома ж, нават думаць забудзе пра яго, Антона, ні разу не з’явілася ў бібліятэцы Наташа, і Васкевіч нават не ведаў, дзе яна — можа, ужо з’ехалі назад на Магілёўшчыну. Нават брат Сцяпан амаль не паказваецца ў вёсцы, заняты сваёй сям’ёй, сваімі клопатамі. Самае крыўднае, што і Ручка ўрэшце

дайграўся, п’яны, ссунуўся трактарам з моста ў рэчку, ледзь выграбся сам, а трактар і па сёння не могуць выцягнуць; прыехаў участковы, за каршэнь, як шкадлівае дзіця, запіхнуў няўдалага трактарыста ў машыну і павёз некуды ў горад.

Хоць нейкія — добрыя ці кепскія, — але былі вакол змены, з усімі Васкевічамі знаёмымі. Толькі ў яго нічога не змянялася. А галоўнае, яму ўжо і не хацелася нечага змяняць, чакаць нечага.

Той дзень, адзін з нямногіх ясных, сонечных, субота, добра запомніўся яму. Субота выхадны, у бібліятэку ісці не трэба. Васкевіч вярнуўся з лесу, паставіў у сенцах поўны да верху кошык з грыбамі. Было яшчэ рана. Маці горбілася на агародзе, акопвала бульбу. Сына памагаць яна не падпускала — «а я што рабіцьму?!» Васкевіч патуляўся па хаце, па двары, потым выцягнуў з дрывотні дзве старыя вуды, памяняў лескі, кручкі і падаўся да сваёй рачулкі. Знайшоў чыстае ад раскі месца ў вечна стаячай вадзе, закінуў, прымасціўся на падмятай траве пад маладым вярбовым кустом. Пасля начнога дажджу стаяла парнасць, машкары не было (нядаўна адцвіла хвоя), трашчалі ў траве, радаваліся сонцу конікі, на вадзе каля паплаўкоў кружылі даўгунцы-вадамеры — як фігурысты на лёдзе... «Я нікуды больш не пайду, ні ў якую бібліятэку, — думаў Васкевіч, гледзячы на нерухомыя чырвоныя шарыкі-паплаўкі. — Ні заўтра, ні праз тыдзень — пакуль не выжануць. Вось так бы і жыць аднаму, з дня ў дзень, з года ў год, ні пра што не думаць... Толькі не тут, а каля вялікай рэчкі, у маленькай хатцы на беразе, без тэлевізара, радыё, газет, кніг... Растварыцца ў прыродзе, быць бакеншчыкам ці паромшчыкам, кожнае раніцы сядзець з вудамі ў лодцы, любавацца, як сонца ўстае, кожным вечарам, пакурваючы на лаўцы пад хатаю, глядзець, як яно заходзіць...»

Трава за спіною зашамацела, і ён аж падскочыў, але, углядзеўшыся, убачыў, што з травы вытыркаецца, нібы плыве над гэтай травою, шэры кончык-мятліца хваста. Гэта ішоў іхні вялізны пухнаты сібірскі кот, якога матцы

аддалі дачнікі за тры дзесяткі яек. Вылез з травы, больш падобны на янота ці сабаку, чым на ката, сеў побач, уважліва разумнымі зялёнымі вачыма ўставіўся на паплаўкі. Васкевіч пагладзіў яго, узяў на рукі: «І як цябе занесла сюды з твайго Сіберу? Ты як і я: непрыкаяны нейкі, адзінокі, няма табе тут кампаніі...»

Прасядзеў Антон ля рэчкі гадзін да пяці, калі ад голаду ўжо добра выбрала бокі; выцягнуў з вады дубчык з нанізанымі на ім чатырма большымі акунькамі, якія пашкадаваў аддаваць кату, скруціў вуды. Кот, што таксама быў з гаспадаром да канца, спаважна пайшоў сваім следам паперадзе.

Маці сустрэла «рыбакоў» на двары. Яна была надзіва ласкавай:

— Галодны, сынку? Ідзі ў хату, я хуценька супчыку гарачага дам.

У хаце наліла суп, падала лыжку, выцершы аб хвартух:

— Еж, бо гэта ж той Валер Надзін утапіўся... Заўтра хаваюць.

У Васкевіча ўпала з рукі на падлогу лыжка.

— Дзе... ўтапіўся?!

— У Прыпяці. Яго ж дзеўка родам з-пад Петрыкава, дык паехалі к ёй, а ён палез купацца, ды зацягло ў вір, закруціла так, што ледзь знайшлі. Чорны, Рускі казаў, як галавешка! Вот, як той казаў, судзьба чалавека! Акурат у мядовы месяц...

Васкевіч падняў лыжку. Паспрабаваў сёрбаць суп са сваіх лісічак, але не палезла. Цэлы віхор думак закруціў у ім, і першая — такая вядомая ўсім жывым! — «не я, а ён...» Вось табе і пяты «жыгуль», вось табе і красуня-жонка не павіталася...

І падумалася раптам Васкевічу, што не быў яго нябожчык-аднакласнік ніякім кар’ерыстам і хамам, а быў проста талковым, разумным і, як вось аказалася,

нешчаслівым беларускім хлопцам з паўднёва-палескай вёсачкі Сасноўкі.

Хавалі Валера на другі дзень, у нядзелю. Васкевіч не пайшоў ні на пахаванне, ні ў бібліятэку — могілкі былі якраз на паўдарозе паміж Двароўкай і Сасноўкаю, і можна было неўзнарок спаткаць працэсію. Чаму не хацелася бачыць усяго гэтага, сам не ведаў, проста не па сабе рабілася, калі ўяўляў «чорнага, як галавешку» чалавека ў труне, чалавека, з якім тыдні два назад сядзелі на прызбе пад хатаю і курылі. Нічога не сказаўшы матцы, Антон прыхапіў свой учарашні кош лісічак і ранішнім аўтобусам матануў у горад, да Сцяпана. Брата не застаў, пагаварыў трохі з яго жонкаю, папіў кавы, аставіў лісічкі разам з кашом і, зманіўшы братавай, што яму трэба па справах у гарадскую бібліятэку, развітаўся і паехаў у цэнтр, да базара, дзе на высокім пагорку над Прыпяццю зелянела купаламі і залацела крыжамі іхняя славутая старадаўняя царква — нейкім цудам ацалелая, адзіная на чатыры ці пяць раёнаў.

Антон упершыню ў жыцці падымаўся па гэтых каменных стаптаных прыступках, упершыню ў жыцці ступаў на гэты роўны земляны пляц перад царквою, — абсаджаны ліпамі, што ўтваралі дарожку-алею, якая вяла да царкоўных дзвярэй. Сям-там уздоўж дарожкі пад ліпамі стаялі і сядзелі людзі, і Васкевіч не адразу здагадаўся, што гэта — жабракі. Толькі калі ўбачыў ледзь не перад носам працягнутую руку і пачуў:

— Падайце на міласць!.. — схамянуўся, таропка палез у кішэню па капеикі, якіх знарок намяняў яшчэ ў аўтобусе — папрасіў шафёра даць рэшту з траячкі драбязою — і пачаў класці ў шапкі і ў працягнутыя жмені белыя манеткі па дваццаць і пятнаццаць капеек.

— Сколькі даў... — пачулася за спіною.

— Бедны, мабыць...

— Маладыя беднымі не бываюць...

Ён зразумеў, што гэта пра яго; жабракі абгаворвалі яго за тое, што па малу даў! Ён пачырванеў і закусіў губу, ледзь стрымаўся, каб не павярнуцца, аддаць ім апошнюю дзесятку, вывернуць перад імі кішэні і збегчы па лесвіцы назад, на гарадскую вуліцу... Але ён ужо стаяў перад самымі дзвярыма, а зверху, проста яму ў вочы жалобна і дакорліва глядзела з абраза Маці Божая.

— Бач, і не крэсціцца! — зноў пачулася ззаду.

Ён падняў правую руку, не адводзячы вачэй ад абраза, цвёрда ўціснуў у лоб складзеныя ў шчопаць тры пальцы, правёў імі па грудзях уніз, да жывата (цяпер управа?! ці ўлева?! якое глупства! але Валер... канчаецца на сэрцы, значыць, цяпер ўправа). Перахрысціўшыся, ён схіліў галаву, пастаяў, выпрастаўся і пацягнуў на сябе металічнае кольца дзвярэй, увайшоў у царкву.

Антон Васкевіч быў хрышчоны, праваслаўны — хрысцілі яго на матчынай радзіме, у Тураве, — але да самага паступлення ў інстытут, да знаёмства з «кампаніяй» Рамановіча, ён і ў душы, і знешне быў атэістам, у самым горшым, самым прымітыўным значэнні слова. І прычынай гэтаму было не адно толькі ваяўнічае школьна-піянерска-камсамольскае цемрашальства. Можна смела сказаць, што сапраўдную глыбокую рэлігійнасць дзіцяці могуць даць толькі тыя, хто пусціў яго ў свет, — бацькі. Свайго бацькі Антон не помніў, бацька памёр у год яго нараджэння, а маці... Малы, Антон часта пытаўся:

«Мама, Бог ёсць?» — «Няма, сынку, — цвёрда адказвала маці, — бо ён бы не дапусціў, каб былі бедныя і багатыя. — І расказвала гісторыю, якая надоўга ўелася малому ў памяць: — Калі яшчэ Сцяпан толькі нарадзіўся, пайшлі мы, маладзіцы, у цэркву. Было ў мяне ўкручана ў хустачку шаснаццаць рублёў на новыя — страшныя грошы на тыя часы! І выцягнула нейкая гадасць проста ў цэркві, сярод людзей, пакуль я малілася... І я як апатрыла[8], плюнула і сказала сабе: «Няма бога! Раз ён такое дапусціў у сваім, як той казаў, храме, — няма!» З таго часу — ні нагою; як еду на базар ягады ці грыбы

продаць, абыходжу тую цэркву другой дарогаю!»

Царкву абыходзіла, але крыжык на шыі насіла, і абраз Міколы ў хаце вісеў. І яшчэ — маці да панікі баялася маланак і грому (спраўджваючы прымаўку, што пакуль гром не грымне, селянін не перажагнаецца). Тады яна вохкала, божкала, завешвала люстэрка, запальвала перад абразам свечку...

У інстытуце, паслухаўшы Рамановіча, які нічога і нікога не баяўся, які на першай лекцыі па атэізму сваімі заўвагамі давёў выкладчыцу да істэрыкі, Антон таксама адразу ж зрабіўся веруючым. Раз трэба было быць у апазіцыі да большасці — дык ва ўсім. Раз усе вакол гаварылі па-руску, трэба было назло гаварыць па-беларуску; раз усе не верылі ў Бога — назло трэба было верыць. То была чыста знешняя, «модная» вера: напісаць у сачыненні слова Бог з вялікай літары, прынцыпова не хадзіць на лекцыі і семінары навуковага атэізму (які, дарэчы, неўзабаве зусім выключылі з праграмы).

І вось толькі цяпер, стоячы ў царкве каля самага ўваходу, уражаны смерцю аднакласніка, удыхаючы духмяны дымок свечак, слухаючы хор, Васкевіч упершыню ў жыцці адчуў, як варушыцца ў грудзях — хай слаба, але варушыцца — ТОЕ. ТОЕ, чаму няма тлумачэння, што жыве ў кожным з нас, жыве, ці дрэмле, ці спіць, але што рана ці позна абавязкова абудзіцца, хоць на імгненне, хоць у час апошняга ўздыху.

— ...Го-о-осподи, — з сумнай пяшчотаю выводзілі ціхія жаночыя галасы: И свято-е воскресе-ние Твое!

Васкевіч слухаў, благавейліва хрысціўся, кланяўся, і з кожнай хвілінаю адчуваў усё большы супакой, еднасць з гэтымі людзьмі, што стаялі побач, з гэтым спевам, які ўліваўся проста ў душу, у сэрца, і расцякаўся там салодкай, да шчыпучых слёз расчуленасці, хваляю... На міг ён адчуў еднасць не толькі з гэтымі — жывымі — людзьмі. Вось так жа стаялі і тое ж адчувалі, слухаючы гэты ж спеў, мільёны, мільярды людзей і 100, 200, і

больш гадоў назад; людзей, якія даўно памерлі, ператварыліся ў зямлю, прах — і якія вось уваскрэслі на гэты міг у ім, Антоне Васкевічы!

Баючыся, каб штосьці не парушыла гэтага настрою, прагнучы яшчэ больш у ім разабрацца, Васкевіч хуценька выйшаў з царквы, спусціўся на вуліцу. Горад аглушыў яго. Ён пехам папраставаў на вакзал, стараючыся не глядзець у твары, не чуць слоў. Аўтобус адпраўляўся гадзіны праз дзве. Васкевіч купіў білет на чужы, што спыняўся, калі папрасіць, на крыжаванні шашы з Антонавай «школьнай» дарогаю — па якой ён узімку хадзіў у мястэчка прапісвацца.

Выбраўшыся з аўтобуса на крыжаванні, Антон зірнуў на гадзіннік. Гадзіна дня. Валера, яшчэ, магчыма, і не пахавалі.

Васкевіч адышоўся ад шашы настолькі, каб не чутно было гулу, звярнуў з дарогі на ўзлесак, прылёг на ўзгорачку пад хвоямі, на мяккую сівую мучку-ціпец, закурыў. Было пахмурна, але цёпла, суха. Праз кашулю калолася сухаяігліца. Карычневая лясная мурашка забегла на далонь, патыркалася аб пальцы, потым пачала караскацца па рукаве вышэй, да пляча. Васкевіч зняў яе і пачаў разглядаць.

«Дык каму трэба, каб я быў такі, як ёсць? Жыў так, як жыву? Тым, хто выганяў мяне з Менска?»

«Глупства! Трэба Таму, Хто кіруе і рукамі тых, што мяне выганялі!»

«Я ў волі Яго. Захоча — і забярэ да сябе, як Валера, захоча — верне ў Менск, не захоча — і я правякую тут!»

## XXIV

Прайшло тыдні два.

Антон з раніцы хадзіў на балота памагаць дэядзьку

Міколу-лесніку касіць, і цяпер, у абед, ледзь прыцягнуў дамоў ногі.

— Еж, сынок, — зноў ласкава, як і нядаўна, калі паведамляла пра Валераву смерць, казала маці, ставячы перад Антонам міску шчаўлёвага баршчу. — Еж, пакуль гарачы... Бо таго Пеці, з якім ты вучыўся калісь, які ў вармію пайшоў, той гомельскі дзядзька памер... Сёння, кажуць, хаваць будуць.

Антон накінуўся на духмяны боршч, не даючы гэтым словам асаблівай увагі. І раптам цюкнула ў галаву, і ледзь зноў не выслізнула з рук лыжка. Ірэна! Гомельскі дзядзька — гэта ж бацька Ірэны!

— Ага, ага, — чытала яго думкі маці. — Той чарнявенькай, Ірыны, бацька.

— Ірэны, а не Ірыны, — рассеяна паправіў Антон.

— Шлунак быў бальной, — маці са смакам вымаўляла гэтае рускае «бальной». — А лячылі ад печані! Высах, кажуць, у цёску[9] за два месяцы.

На гэты раз Васкевічу захацелася пабыць на могілках, і ён акурат падгадаў, — ідучы ў бібліятэку, з дарогі ўбачыў каля могілкавых варот бартавую машыну, з якой яшчэ толькі здымалі труну. Антон пакіраваў туды.

Народу было даволі многа, папрыходзілі двароўскія і сасноўскія, хоць быў самы разгар летняга дня. Каля выкапанай непадалёк ад варот свежай ямы стаялі, апіраючыся на рыдлёўкі, прымак Рускі, дзядзька Юлен, яшчэ два незнаёмыя мужчыны, курылі. Васкевіч прайшоў углыб могілак, спыніўся перад бацькавай магілкай, пакалупаў патрэсканую фарбу на агароджы. Раптам да яго данеслася ціхае галашэнне. Ён асцярожна, адхінаючы рукамі маладую акацыю, падраўся ў той бок і ўбачыў: Надзя-паштальёнка ўкленчыла, абняла рукамі новенькі крыж і білася ў ціхім плачы на магіле сына... Антон вярнуўся да варот, змяшаўся з людзьмі.

— Думалі, печань, і лячылі, падлы, ад печані, — казаў нехта. — А тады глянулі — э-э! у яго ж шлунак бальной! Два літры гною выкачалі.

Да труны падвялі заплаканую ўдаву, якая раптам пачала прасіць праз слёзы мужа-нябожчыка, працягваючы да яго рукі:

— Витёк, встань, встань же, прошу тебя, умоляю! Ну, встань же скорее, хорошенький мой!.. Встань, посмотри на дочь твою!..

— Не ўмее галасіць, — прашамкала нейкая бабулька ззаду за Васкевічам.

Васкевічу самаму няёмка стала ад удовіных просьбаў, нешта фальшывае, што ніяк не магло стасавацца са смерцю блізкага чалавека, было ў іх. Маці расказвала, гэтага чалавека выпісалі з бальніцы, калі зразумелі, што не вылечаць, і ён больш за два месяцы ляжаў дома, ведаючы, што вось-вось сканае. Васкевічу раптам жыва, ярка ўбачылася: ён, чалавек гэты, стогне, плача, просіцца, капрызнічае, будзіць усіх начамі, жонка вымушана ад яго не адыходзіць, пераапранаць, перасцілаць, выносіць за ім; увесь час з парэзанага, скрамсанага скальпелямі жывата па трубцы ў слоік сочыцца гной, а пахі... Васкевічу ўспомнілася нядаўна прачытаная аповесць «Смерць Івана Ілыча», дзе жонка проста ўзненавідзела мужа за яго хваробу і толькі чакала, каб ён хутчэй памёр.

Васкевічу здавалася, што і гэтая ўдава павінна радавацца цяпер смерці мужа. І яму — ды, відаць, не аднаму яму — чуліся ў гэтым дзіўным галашэнні ноткі радасці, палёгкі, што вось, нарэшце, усё скончылася. Сорамна і цяжка ад гэтага плачу рабілася на душы.

Але вось ён убачыў Ірэну, прыгожую, стройную, рослую, у чорнай празрыстай хустцы, і яму здалося, што і дзяўчына яго ўбачыла, нават кіўнула ледзь заўважна. Ірэна схілілася над бацькам, прысела, — і Васкевічу стук.нула кроў у галаву, усё разам згадалася: ногі яе, цела, пах самагонкі, крэслы ў бібліятэцы... Ён глядзеў і

бачыў, што нават цяпер, ля бацькавай труны, яна знарок прысядае сексуальна, як рэкламная дзеўка; на ёй была кароткая сукенка, і калі Ірэна прысядала, адкрыліся да самага канца чорныя калготкі на моцных, чуць разведзеных у бакі нагах... Антон апусціў вочы.

Застукаў малаток. Гучна, весела азваўся Рускі:

— Он там со стариком в карты сегодня ночью сыграет!

Магіла «старика» — бацькі нябожчыка, Ірэнінага дзеда — была побач.

— Сыграе, ...тваю маць, ага! — гэтак жа гучна, зларадна адказаў дзядзька Юлен, з сілаю і часта налягаючы на рыдлёўку.

Смерць аднакласніка Валера — чужое гора — унесла ў жыццё Васкевіча такую спакойную яснасць; а гэтая смерць зусім чужога чалавека ўсё паблытала ў галаве, усё парушыла. Прыйшоўшы з могілак у сваю халаднаватую, з зацененымі акацыяй вокнамі бібліятэку, Антон сядзеў за сталом-кафедрай, глядзеў на крэслы ля цэнтральных сталоў, курыў і думаў.

«Я малады, Ірэн маладая, і правільна яна зрабіла, што так адзелася на пахаванне і так прысядала!.. Жыццё ідзе, потым канчаецца такой вось ямаю, такімі дзядзькамі Юленамі з рыдлёўкамі... А пакуль не скончылася? трэба жыць, і жыць поўна, ярка!»

Настрой, які сышоў на яго тады ў царкве — расчуленасці, замілавання жыццём, настрой веры — і цяпер не пакідаў яго, хіба што трохі прытупіўся. Антон і цяпер не сумняваўся, што на ўсім і на ўсіх «длань Божая». Але цяпер настрой гэты, нібы агеньчык, пагражаў неўзабаве зусім прытухнуць, і патрабаваў, каб яму падкідвалі галінкі — «ежу».

Антон дастаў з шуфлядкі «кафедры» свой сшытак і запісаў з галавы:

*«Спасающийся да спасется!»*

*«Беражонага Бог беражэ».*

*«Бог памагае таму, хто сам варушыцца, сам сабе хоча памагчы».*

Трэба былі змены. І каб не пакорліва чакаць, апусціўшы рукі, як ён да гэтага рабіў, змен ад кагосьці, а самому спрабаваць штось змяніць. Толькі што? Як?!

І вось, дзён праз колькі, прыдумалася «што і як».

Моцна захварэла маці — у самы разгар спякотнага лета пачала смаркацца, чыхаць, ёй аблажыла горла. Паспрабавала вылячыцца сваімі сродкамі, паслала Антона назбіраць камянёў, увечары разагрэла іх на гарачым чаране печы, паклала ў місу з вадою, накрылася ўся дзяругаю і сядзела над гэтай місай, дыхала параю. Ад гэтых лекаў у яе толькі страшна счырванеў твар, закружылася галава, потым лінулася з носа кроў, так што Антон ледзь давёў маці да ложка.

— Добра... у адпуску, — сказала яна, задыхаючыся, — захварэла, а то б скарацілі з работы.

Антон пабег да прадаўшчыцы, яму адкрылі магазін, па тэлефоне выклікалі «хуткую», якая прыехала толькі пад раніцу. Маці зрабілі ўкол, далі таблетак, сказалі, што гэта павышаны, «старэчы» ціск і трэба хоць дні тры «пасцельнага рэжыму».

Здарылася гэта ў першых чыслах ліпеня, калі Антону трэба было ехаць у горад па палучку і завезці ў бібліятэку планы і справаздачы. Нікуды ён, вядома, не паехаў:варыў кабанам — маці, лежачы, расказвала, які чыгун узяць, колькі туды красці бульбы, буракоў, усыпаць мукі, уліць вады, — палоў агарод, які, нягледзячы на тое сухое лета, зарос метровым пустазеллем, гатаваў сякую-такую ежу сабе і матцы, глядзеў, каб яна ў час піла парашкі, заварваў ёй сухія ягады каліны — гэтай каліны Пульс, даведаўшыся пра хваробу, прынёс цэлы мяшэчак.

На другі дзень маці пачала патроху ўставаць, хадзіць, а

на трэці, як ні ўпрошваў, як ні сварыўся на яе Антон, ужо з раніцы стаяла ракам на сотках. У горад Васкевічу было позна ехаць. Ён вырашыў паслаць свае планы і справаздачы пісьмом і заадно патлумачыць, чаму не з’явіўся. Так і зрабіў. А перад гэтым маці, добрая душа, не забылася, што Пульс даваў каліну і папрасіла Антона занесці яму ў падзяку пляшку самагонкі. Антон аднёс, і разам з Пульсам яны гэтую самагонку і выпілі. Магчыма, не быўшы на падпітку, Васкевіч не зрабіў бы таго, што зрабіў. Седзячы ўвечары ў верандзе, ужо заклеіўшы канверт з «бібліятэчным» пісьмом, яму прыйшло ў галаву, што трэба напісаць і ў Мінск, у інстытут. Сапраўды, гэта ж так проста! Каму ён трэба, калі ён сам пра сябе не падае знаку? Ды жывы ён увогуле ці не? Ліпень, у інстытуце працуе прыёмная камісія, рэктар будзе на месцы...

Гэта быў саромны, пакаянны, па-руску напісаны ліст, пра які потым Васкевічу і самому няёмка, цяжка было ўспамінаць, а тым больш расказваць некаму.

Ён пісаў, што вось ужо столькі месяцаў адлічаны з інстытута, і дасюль не ведае, за што. Воля Ваша, — пісаў ён, — можаце мяне і не ўзнаўляць. Але звяртаюся да Вас не як да рэктара, а як да чалавека: чыркніце мне хоць пару слоў, ці ёсць у мяне хоць маленькая кропля надзеі? Калі я нават і быў у нечым вінаваты, дык «за даўнасцю часу» даруюцца і не такія, як маё, злачынствы...

Не перачытваючы, заклеіў, падпісаў адрасы на абодвух канвертах.

Ужо раніцай яму, праспаламу, зрабілася сорамна; але ён згадаў выратавальнае: «Мне трэба варухнуцца, паспрабаваць самому сабе памагчы. А там Каму трэба, Той вырашыць», — і ў Двароўцы аднёс лісты на пошту.

**XXV**

За ўвесь ліпень Васкевіч ні разу не выбраўся ў горад, і ўвесь ліпень прайшоў у чаканні.

Антон акрыяў душою — што значыць жыць, калі ёсць надзея! Няважна, узновяць яго, не, але яму вымушаны будуць адказаць, штосьці патлумачыць, урэшце проста адазвацца, падаць голас з таго, ужо забытага ім, цудоўнага свету. Ён успамінаў словы са свайго ліста і адчуваў, што не адазвацца на іх, на той крык душы, хай сабе і казённа-дзяжурна адазвацца, не зможа нармальны чалавек. А ліст адрасоўваўся ўсё ж самому рэктару! Які вунь і з Міцурам нармальна пагаварыў.

Між тым, час бег, кожны дзень Васкевіч забіраў бібліятэчную пошту і не знаходзіў сярод газет і часопісаў жаданага канверта. Міналі ўсе тэрміны. Першага жніўня, прыехаўшы ў горад, атрымаўшы ў бухгалтэрыі аддзела культуры палучку за два месяцы, Антон пайшоў у бібліятэку, да Валянціны Мікалаеўны, і быў сустрэты ёю насмешлівым прывітаннем:

— А что это вы мне прислали? — яна працягнула Антону раскрыты канверт, адкуль выглядаў ражок яго ліста... рэктару. — Мне это вовсе не нужно. Это в Минск нужно, — пацяшаючыся, усё дабівала яго харошанькая дырэктарка.

Трэба ж — ён умудрыўся пераблытаць адрасы на канвертах! Во здзівяцца ў Мінску, атрымаўшы пісьмо з табліцаю, колькі чалавек у жніўні месяцы збіраецца наведаць нейкую Двароўскую бібліятэку, якія іх чакаюць кніжныя выстаўкі і іншыя культурныя мерапрыемствы...

Васкевічу, аднак, зусім не было смешна. Ён яшчэ больш уверыўся — не лёс яму вырвацца адсюль. Ён паспрабаваў, паварушыўся — і нічога не атрымалася. Значыць, не лёс.

Пасля хваробы матка ўжо не адганяла сына ад работы, і Васкевіч пачаў хадзіць у бібліятэку праз дзень, праз два. Дзядзька Мікола за тое, што Антон памагаў яму касіць, выпісаў ім у лясніцтве бясплатна машыну дроў,

сам парэзаў іх бензапілою, і цяпер Антон днямі калоў за хатай роўныя, нятоўстыя сасновыя і альховыя круглякі.

Аднойчы, гадзін у дванаццаць дня Антон насіў з пожні ў хлеў, на ток, снапкі аўса, і пачуў, як маці на двары гучна гаворыць з кімсьці. Потым пазвала яго. Ён разуўся, вытрусіў з кедаў пацяруху і басаnож, разораю пайшоў на двор. З малінніка з трэскам вылез кот-сібірак і пайшоў следам.

— Ты мо галодны, сынку? — ласкава сустрэла яго маці, і яго аж кальнула ў сэрца — зноў нехта памёр!

— Ідзі супчыку паеж, ды паглядзі целявізар... Бо Маня казала, чула па радзьве, што ў Маскве — цэлая буча!

Васкевіч кінуўся ў хату, уключыў тэлевізар, радыё. Радыё маўчала, па тэлевізары якраз перадавалі аб’яву, што Прэзідэнт хворы і ўлада пераходзіць да ГКЧП. Васкевіч слухаў і нічога не разумеў. Стомленыя рукі і ногі нылі, цела свярбела ад пацярухі — якая «буча», пры чым тут што... Наліў супу, паеў перад тэлевізарам. «Як гэта адаб’ецца на мне? — думаў, слухаючы. — Ай, чорт — ды ніяк! Што з мяне можна ўзяць? Ну, выгнаць яшчэ і з бібліятэкі. А можа, наадварот, разбяруцца, узновяць у інстытуце, і прабачэння папросяць? А рэктара з дэканшай турнуць? Во было б здорава».

Увайшла маці:

— Ну, што ты тут выслухаў?

— Нічога, я нічога ў гэтым не разбіраюся.

— А мо, слава Богу, і лепей нешта будзе... Як тая Маня кажа. Раней, пры камуністах, усё было: і гарэлка, і цукеркі такія падушачкі... А то зрабілі. Яны ж перш хацелі толькі перастройку, а зрабілі гласнасць! А мо цябе вернуць, дасць Бог, у інстытут, — разважала сама з сабою маці.

Антон не хлусіў ёй, ён праўда не разбіраўся, што робіцца. Дый тэлевізар раптам заміргаў, а потым і зусім засняжыў чыстым экранам.

Той дзень быў самы звычайны, летні, спякотны, і таксама, як і заўсёды, вяскоўцы рабілі сваю летнюю работу. Але проста ў паветры адчувалася напружанасць — бы ў чаканні вялікай, небывалай навальніцы пасля душнай спёкі. Раніцай другога дня Васкевіч адразу з ложка кінуўся да тэлевізара, уключыў. Слухаў — «к сожалению, пролилась кровь», «человеческие жертвы» — і адчуваў, як з кожным словам дыктара ў сэрца запаўзае не проста трывога, а страх, жах. Перад вачыма паўстала жудасная мясарубка, танкі крышаць, давяць гусеніцамі сотні, тысячы людзей на Краснай плошчы, у цэнтры Масквы... Успомнілася, як у арміі расказваў адзін хлопец пра свайго бацьку-танкіста, які «подавлял мятеж» у Венгрыі: «Ручкі дзіцячыя з гусеніц выкалупвалі!»

«Гэта грамадзянская вайна! — думаў Васкевіч. — Несумненна. І гэта народ Талстога, Дастаеўскага, Чэхава! Вечна нешта дзеляць, вечная крыважэрнасць — дзікія, дурныя маскалі, прасці Госпадзі!»

Антон пайшоў у Двароўку і ў бібліятэцы да самага вечара слухаў «Сокал».

Раніцай трэцяга дня маці вярнулася з магазіна радасная, узбуджаная:

— Закруцілі бучу ды толькі людзей пабілі, што б на іх!..

— А хто закруціў? — зацікаўлена спытаў Антон.

— Камунякі! — урачыста, смела, упэўнена адказала маці.

У Васкевіча вылезлі на лоб вочы. Ну, калі ўжо яго маці такое кажа... Цікава, каго ж яна цяпер лічыць вінаватым у яго выгнанні?

На працягу колькіх дзён пасля путча, праглядаючы газеты, слухаючы «Сокал», Васкевіч не змог утрымацца, каб зноў не дастаць свой сшытачак (а з кім яшчэ ён мог пагаварыць, як не з папераю?):

«Мае вяскоўцы любяць моцных, пераможцаў. Паўсюль

адчуваецца злоба, пагарда да «камуністых», якія ўсё ў свой час заварылі, завалілі і вось, гэтым путчам, так бяздарна давялі ўсё да канца. «Поделом» вам, не прайгравайце! Пераможаных не любяць...

А зрэшты, мне то што? Хай яны там хоць перашалеюць усе.

Самае цікавае: учора, 24 жніўня, прыязджаю ў горад. Бібліятэка знутры замкнутая, на дзвярах цыдулка: «Мы на гражданской панихиде». Уся сярэдзіна ва мне затрымцела — што такое?! Хто памёр?! Госпадзі, толькі б не Валянціна Мікалаеўна!.. Сеў каля ганка на лавачцы, настроены прасядзець тут хоць да вечара, а дачакацца кагосьці і даведацца, што здарылася. Але тут мяне ўбачылі з бібліятэкі, пастукалі ў шыбіну. Адчыніла дзверы загадчыца чытальнай залі. Я ўстрывожана спытаў, што за паніхіда — як на духу, ні пра што не здагадваючыся.

— Как какая?! По трём, убитым путчистами парням, — так і сказала, з бібліятэкарскай правільнасцю будуючы сказ.

Дык вось вы, «человеческие жертвы», вось ты, «пролитая кровь»! Разумею ўсю кашчуннасць, але ўспомніўся свой жах тады, перад тэлевізарам — было ж абстаўлена так, быццам легла паў-Масквы... «Трое парней», асобы якіх, да таго ж, як пішуць газеты, «неустановлены»... Можна толькі здагадвацца, колькі «парней» яшчэ ляжа ў імя «дыктатуры дэмакратыі»!

Пайшоў следам за ёю ў дырэктарскі кабінет і застаў там усіх перад тэлевізарам. Толькі цяпер расшыфраваў цыдулку: «мы на панихиде» значыла «мы глядзім паніхіду па тэлевізары». Мне паказалі тэлеграму ў Менск у падтрымку кагосьці і з асуджэннем кагосьці, прапанавалі паставіць і свой подпіс. Я прачытаў і паклаў ліст назад на стол.

— Вы что же, Антон, за коммунистов?! — акругліла сінія вочкі Валянціна Мікалаеўна — і ўпершыню я ўбачыў, што яна — не простая, не гуллівая бесклапотная

смяюха, як думаў раней.

Хацеў адказаць, я ні за кога, а супраць глупства і «всеобщего помешательства», — не адказаў, па-дурному хіхікнуў і падпісаў. Ніколі сабе гэтага не дарую.

«Ты за коммунистов»... Гэта сказаў мне чалавек, які гадоў дзесяць аддаваў сябе камсамольскай і партыйнай рабоце, учарашняя камуністка, у якой далоні яшчэ не паспелі астыць ад трубак гаркомаўскіх тэлефонаў! Мне, які на сваёй скуры сёе-тое адчуў, якога амаль год так ці інакш псіхалагічна травілі, тапталі, пакуль не выкінулі без усялякіх тлумачэнняў у самую сапраўдную ссылку, на невядомы тэрмін! Вось што брыдка.

Як усё ж хутка, уміг могуць мяняцца людзі. Толькі цяпер пачынаю разумець, чаму мне «случайности вечно грозят»... Праўды вельмі хачу. Жыву не для людзей, не для ўладаў, якія пастаянна змяняюцца, а дзеля Таго, Хто нібыта глядзіць зверху. І ад усіх такога ж дабіваюся. А ўсе — іншыя».

## XXVI

Прайшоў месяц, ці некалькі месяцаў, ці год... А можа, нікольні не прайшло, ні дня? Нічога не змянялася — ні ў Антона на душы, ні ў наваколлі.

Па календары даўно ўжо была восень, а сонца прыпякала як і ў пачатку, як і ў канцы лета, нібы забыўшыся, што ўсяму патрэбны змены.

Сям-там укруг вёскі ўсё яшчэ гарэлі лясы. На месцы былых Антонавых грыбовішчаў тырчэлі з чорнай зямлі гарэлыя сіратлівыя пікі-сухастоіны. Рэчка перасохла, і Антон, успомніўшы свой расказ Рамановічу, як ён некалі капаў уюноў, паспрабаваў тое ж зрабіць і цяпер, — але дзе там, якія ўюны, толькі выпацкаўся ў гразь ды парэзаў пальцы аб сухую траву паўз бераг.

Добра было пад вечар скруціць на пустым агародзе

сагнуты да зямлі сланечнік, сесці пад хатаю, на сонейку, па-старэчы ні аб чым не думаць, закідваць у рот адну за адной буйныя семкі, паплёўваць шалупіннем, адломваць ад сланечніка пустыя кавалкі і цаляць імі ў нахабнага пеўня, што стаіць блізка і глядзіць пагардліва павярнуўшы бокам галаву. Можна пакласці колькі семак на гультая-сібірака, які, прыгрэўшыся, спіць побач; тады куры асцярожна склёўваюць іх з ката, а ён нават не варушыцца.

І толькі вечарамі, калі ад белага месяца, ад густа-зорнага неба спускаўся на вёску зябкі восеньскі холад, выпадала раса, якая нібы ўбірала, уцягвала ў сябе дзённы пах гарэлага; вечарамі, начамі моцна, шчымліва-радасна пахла грыбамі і астылай, роснай, восеньскай зямлёю.

Такімі вечарамі ў Антона, які выходзіў на шпацыр з канца ў канец пустой цёмнай вёскі, пачыналі мёрзнуць плечы нават пад цёплай курткай. Яму тады здавалася, што ён пастарэў. Ён успамінаў, як яшчэ школьнікамі гулялі такімі ж вось вечарамі, ціскалі дзяўчат на лаўцы, пакурвалі, кралі сланечнікі — і ўспамінаў абыякава, бы штосьці чужое, без зайздрасці, без жадання вярнуць тыя часы, неяк зноў у іх апынуцца. І толькі дзівіўся, як ім тады не было холадна?

У Пульсавай хаце яшчэ гарэла святло. Васкевіч падышоў да плоціка, угледзеўся. Фіранкі былі адкрытыя. Пульс сядзеў на ўслончыку каля грубкі, паклаўшы рукі на калені, і глядзеў перад сабою. Успомнілася, як нядаўна, п’янаваты, Пульс хваліўся яму, як сустракаў Новы год:

«Купіў бутылачку, сеў, ёпа-маць, сеў сам сабе, целявізар уключыў. Дачнікі далі каўбасы, вінегрэту далі ў баначцы... Хлеба ўкупіў... Целявізар пагляджу — раз, вып’ю румачку!»

Антон павярнуўся і пайшоў дамоў. Спаць, спаць...

І вось настаў дзень, якія не забываюцца.

Маці вырывала і складала ў кучкі буракі, Антон абразаў бацвінне і кашамі насіў іх у пограб. Было гадзіны чатыры дня. Вярнуўшыся чарговы раз з пустымі кашамі, Антон кінуў іх ля куч і пайшоў на вуліцу.

Так арыштант, які па сто разоў на дзень чуе на калідоры крокі наглядчыка і пазвоньванне ключоў, беспамылкова ўгадвае, што на гэты раз — крокі па яго, і ключы звоняць — для яго, каб адамкнуць імі праклятыя дзверы з «вочкам» і выпусціць яго на волю. Так матрос на нелюдзімым востраве, прачакаўшы год, ведае, што сёння, вось цяпер падплывае да берага жаданы карабель.

Васкевіч выйшаў на вуліцу і ўбачыў залітую сонцам Надзю-паштальёнку, якая набліжалаея да іхняй хаты. Сонца свяціла за ёю, сляпіла Васкевічу вочы, і ён, як ні прыкладаў да ілба далонь, не мог разгледзець, што ў яе ў руках. Яна параўнялася з ім і моўчкі, не вітаючыся, піхнула яму ў руку два канверты і газету-раёнку. Васкевіч прыкрыў павекі пальцамі, счакаў, пакуль вочы пасля сонца будуць бачыць нармальна, зірнуў і хуценька, крыва разадраў канверт з надрукаваным машынкаю адрасам. Выхапіў маленькі, бы тэлеграма, казённы бланк і ўпіўся ў яго вачыма. Потым глянуў услед Надзі-паштальёнцы, згорбленай, пастарэлай за гэтае лета, — глянуў, і яе чорная траурная хустка здалася яму пераможным сцягам...

Падышла маці, босая, з пустым кашом:

— Што там?

— Вось, — паказаў ёй канверт і бланк Антон і не стрымаўся, радасць перла з яго, пажартаваў: — Назначаюць паслом у Варшаву.

— А гэта напраўленне? — ані не здзівілася маці: відаць, як і для кожнай маткі яе сын быў усё ж разумнейшы, лепшы за ўсіх, і яго ў любы час маглі запатрабаваць куды хочаш і на якую хочаш пасаду.

— Ды я смяюся. З Менску, узнавілі мяне! — і Антон

абняў яе.

— А калі ехаць? — зусім будзённа спытала яна. — Што ж ты возьмеш... — пачала ўжо прыкідваць, — вазьмі сала той большы кусок, яец дзесяткі два возьмеш...

Не, так было нецікава. Антон забраў у яе кош, забег на двор, потым убачыў, што нават не глянуў, што за другое пісьмо. Зайшоў за хату, дзе любіў грэцца на сонцы і кідаць у пеўня кавалкамі сланечніка, прысеў. Кот і цяпер ляжаў тут. Перш чым чытаць другое пісьмо, Васкевіч агледзеўся. За поплавам, недалёка, жаўцеў незгарэлы ў гэтым баку лес. Ад вуліцы ў плоце бялелі высахлыя за лета жэрдкі, прыбітыя Васкевічам яшчэ тады, зімою. Пад скірдай паколатых і складзеных ім дроў грэбліся куры, побач хадзіў нахабны певень і з пагардаю касіўся на Васкевіча, потым цяжка ўзляцеў на плот і моцна, бы цецярук, залопаў крыламі.

Другое пісьмо было ад Рамановіча. Сябар пісаў, што ў інстытуце, як і паўсюль у Мінску, пасля жніўня ўсё кіпіць і бурліць, выказваў надзею, што «цябе, магчыма, вось-вось павінны вярнуць у інстытут, і не думай, што я да гэтага не прыклаў рукі. Экзамены здасі экстэрнам, бо, у прынцыпе, прапушчана ўсяго дзве сесіі, але лепш было б, каб ты астаўся яшчэ на год на другім курсе, бо свае людзі цяпер больш чым калі патрэбны на ўсіх курсах і патоках...» «У інстытуце цяпер безуладдзе, — паведамляў Алесь, — старога рэктара турнулі, а новага яшчэ няма. Наш «блюститель нравственности», добрай памяці камуніст-інтэрнацыяналіст рэктар, як аказалася, разам са сваім братцам, саўмінаўскім чыноўнікам, займаліся спекуляцыяй машынамі-іншамаркамі, і цяпер нібыта абодвума займаецца пракуратура. Калі гэтая гадзіна і пазбегне турмы з канфіскацыяй (вядома, пазбегне, адкупіцца), дык за адно тое, што яго ногі не будуць больш шаркаць па інстытуцкім паркеце, трэба выгравіраваць на залатой таблічцы — «21 жніўня 1991года» — і прымацаваць яе над дзвярыма яго былога кабінета, кабінета — зборні стукачоў і пляткарак, кабінета — штаба, дзе распрацоўваліся планы ўдушэння ўсяго жывога, сапраўднага, беларускага, дзе на сталах,

як карты баявых дзеянняў, раскладаліся папкі з нашымі біяграфіямі!..

Жартую, вядома, — таблічка залатая, адразу сапруць».

«...Кланяйся сваёй маці, я ўспамінаю яе, і твой аповед пра ўюноў».

## XXVII

Яшчэ з раніцы пачалі з маткаю пакаваць сумку, спрачаліся, сварыліся, маці бегла то ў камору і выносіла яшчэ адзін кус сала, то кідалася на агарод, у пограб, і несла качан капусты, пук морквы, закручвала ў газету і піхала ў сумку. Васкевіч моўчкі, але ўпарта выцягваў усё назад. І так, ад аднога адзення сумку так расперла, што не закрывалася.

Пад вечар прыйшоў Пульс, прыкаціў у руках веласіпед. Далі яму паесці, налілі чарку. Антон сядзеў побач і не еў і не піў ні грама. Маці пераапраналася ў большай хаце. Пульс выпіў, Васкевіч наліў яму яшчэ. Выйшла маці, у сіняй ваўнянай кофтачцы, падвязаная новай пуховай хусткаю, у сваіх старэнькіх, але «чыстых» сандалях.

Пульс без тостаў піць не мог:

— Хай у вас, цётка, каб картоплі што б добрэ раслі!..

— Хай каб што б Антон добрэ заехаў, я кажу!..

— Пі ты хутчэй, ды ну цябе ў баню, — сказала маці, увесь час зіркаючы на будзільнік на падаконніку. — Яйцо вунь яшчэ выпі. Кура тая твая нясецца?

— Не нясецца, ёпа-маць, я кажу! Зарэзаць трэба.

— Будзем ісці назад, дык напомні, дам які з дзесятак яец. Хоць яечні паспытаеш. Ты ж мне неяк каліну даваў?

— Добрэ, атлічно, харашо, напомню!

Прыселі перад дарожкай. Выйшлі на двор, маці прымкнула хату, Пульс паклаў на багажнік упоперак шырокую дошку, спрытна ўладкаваў, увязаў сумку і, буркаючы, быццам вёў у руках заведзены матацыкл, пакаціў веласіпёд на вуліцу.

Вёска патанала ў раннім восеньскім прыцемку, але яшчэ жыла. Цётка Маня, пачакаўшы каля калодзежа, знарок перайшла ім дарогу з поўным вядром. Сям-там у дварах корпаліся людзі; пабачыўшы працэсію, голасна жадалі Антону добрай дарогі і глядзелі ўслед. Так мінулі вёску і ўвайшлі ў зусім ужо цёмны лес. Маці ўключыла ліхтарык, з якім хадзіла гэтай жа дарогаю на працу.

Васкевіч азірнуўся.

Ззаду ў паўзмроку ляжала вёска, свая, любімая — і настолькі ж чужая. Неразгаданая, непазнаная ім. Не разгадаў — а які быў шанс! Пражыў амаль год чужаком, сам у сабе, і вось едзе, а гэтыя хаты, платы, калодзежы, людзі — астаюцца. Астаюцца Пульс з маткаю, якія, правёўшы яго, вернуцца, пакормяць кабаноў, лягуць у халодныя ложкі, будуць глядзець рэкламу ў тэлевізарах, а думаць нешта зусім іншае, сваё.

Была ў тым, што ён едзе, а матка, Пульс, вёска — астаюцца, нейкая несправядлівасць, нейкая страшная тайна. Антону ўспомніліся матчыны словы: «Прайшла жызнь так — цьфу! рваліся-рваліся, ірвалі жылы — і ўсё без толку!»

Быццам вёска была ідалам, молахам, і людзі пакаленне за пакаленнем клалі на алтар гэтаму молаху ўсе сілы, усе свае радасці, жыцці свае, — самі не ведаючы, нашто, для каго?

«Ты шкадуеш іх, а яны — цябе, — думаў Антон, не спускаючы вачэй з задняга кола Пульсавага веласіпеда. — Цябе лічаць больш абдзеленым. Значыць, усё правільна, несправядлівасці ніякай няма: табе — адно,

ім — другое, сваё. Але яны цябе кормяць, значыць, яны вышэй за цябе? Не, яны цёмныя, як і вякі назад, бязлітасныя да слабых. Я — вышэй за іх, дабрэй. Але кормяць... а галоўнае, хіба яны вінаваты ў тым, што такія?! Хіба ім не хочацца ЖЫЦЬ?»

Думкі круціліся, як гэтае веласіпеднае кола, і здавалася, не магло быць тут ніякай разгадкі.

«Ты, разумны, вышэйшы за іх — чаму ж ты тады не навучыў іх гэтаму ЖЫЦЬ? Калі апраўданне, што раней не ведаў як, а цяпер дайшло — дык яшчэ не позна, не едзь, аставайся і вучы іх!»

«Не магу».

«Тады едзь, але едзь як тыя разы, радасна, бестурботна, насустрач новаму жыццю, прымай усё за нармальнае!»

«Не магу, бо ведаю: буду ў горадзе вучыцца, пісаць рэфераты, здаваць курсавыя, піць гарэлку, гуляць, ездзіць на метро і на таксоўках, разважаць пра вызваленнё Беларусі, спрачацца пра Борхеса і Чэхава, а матка будзе ўздыхаць цёмнымі вечарамі і глядзець па тэлевізары рэкламу, а Пульс будзе сядзець каля грубкі і глядаець перад сабою, успамінаючы свой Новы год, а Ручка, вярнуўшыся з ЛПП, нап’ецца і прыйдзе ў бібліятэку прасіць «Яму» Купрына, а Валер будзе ляжаць пад акацыямі, там жа, дзе і Ірэнін бацька, а Надзя-паштальёнка будзе насіць мае рэдкія, два-тры словы, пісьмы, а...»

Страшна было ехаць, яшчэ страшней — аставацца. Васкевіч думаў, што ён захварэў тут, заразіўся, і ўжо не зможа зайсці ў аўдыторыю тым вясёлым бестурботным хлопцам, якім быў усяго год назад, што цяпер ён будзе цягаць за сабою, як чарапаха панцыр, сваю вясковасць, адчуванне нейкай вялікай несправядлівасці, ненармальнасці ўсяго, і цяпер — не дай Бог давядзецца — за сваю родную вясковую беларускую мову ён будзе стаяць насмерць, трымацца будзе за яе, як за апошняе, як за адзіны карэньчык, што жывіць яго, звязвае вось з маткаю, Пульсам, з гэтым лесам, якім яны ідуць, з усім,

што пакідае ён ззаду...

Васкевіч страсянуў галавою, спытаў:

— Помніш, як ты тут упаў? Калі шапка пакацілася?

— Помню, я кажу! — вінавата закашляў Пульс.

— Ён не помніць, што еў учора, — што ты з яго хочаш, — абазвалася маці.

Замільгалі між дрэў агні станцыі.

Білет, загадзя куплены, ляжаў у Васкевіча ў кішэні, таму ў вакзальчык не заходзілі, пастаялі на пероне, Антон з Пульсам пакурылі. І вось, ці то сэрца так застукала, ці ўрэшце стукаюць колы цягніка... Цягнік! Антон прыціснуў да шчакі матчыну галаву, парукаўся з Пульсам, Пульс подбегам панёс за ім да вагона сумку. Білет... вось, дзе ж ён?.. вось квіток, калі ласка. Праваднiца зусім абыякава надарвала кавалачак шэрага кардону, Васкевіч бокам-бокам, з сумкаю патэпаў у вагон. Лязгнулі буферы.

— Дзеўка, баба, хадзі ка мне, я кажу! — крыкнуў Пульс праваднiцы, якая ўжо апускала накрыўку падножак, і зарагатаў. Праваднiца, стомленая старая жанчына ў чорным пінжаку, так здзівілася, што перш выглянула, а потым, зразумеўшы, што крык адрасаваўся ёя, пакруціла пальцам каля скроні.

Нічога гэтага Васкевіч ужо не чуў і не бачыў, у паўцёмным вагоне ён шукаў сваё месца.

***1995***




# Андрэй Федарэнка

Беларускі празаік. Нападзіўся 17 студзеня 1964 г., в. Бярозаўка Мазырскі раён, Гомельская вобласць.

Скончыў Мазырскі політэхнічны тэхнікум і Бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры (1985—1990). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў мулярам у Мікашэвічах Лунінецкага раёна, на чыгунцы ў Калінкавічах Гомельскай вобласці, старшым бібліятэкарам Бярозаўскай бібліятэкі № 2 Мазырскага раёна, карэктарам штотыднёвіка «7 дней», загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя», на кінастудыі «Беларусьфільм». У 2005—2011 гадах — загадчык аддзела прозы ў часопісе «Маладосць». У 2011—2012 гадах супрацоўнік аддзела прозы і паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва».

Друкуецца з 1987 г. У аповесці «Гісторыя хваробы» (1989) сацыяльна-псіхалагічны партрэт сучаснай моладзі, у аповесці-фантасмагорыі «Смуга, альбо XII фантазій на адну тэму» (1994) жыццё сучаснага грамадства, якое страціла маральныя арыенціры, у аповесці «Вёска» (1995) філасофскі роздум над лёсам Беларусі і беларусаў. Аўтар аповесцей «Такое кароткае лета», «Ланцуг» (абедзве 1994), «Нічые» (2001), п'есы «Жаніх па перапісцы» (1993), публіцыстычных артыкулаў і інш. Дзецям і юнакам адрасаваны прыгодніцкія аповесці «Шчарбаты талер» (1999),

«Афганская шкатулка» (2002). Яго творчасці ўласцівы псіхалагічны аналіз, гуманістычны погляд на чалавека, драматызм, элементы фантастыкі, мастацкай ўмоўнасці, эмацыянальнасць, спавядальнасць. Перакладае з беларускай мовы на рускую.

1. Лайно  кавалак даматканага палатна, посцілка (тут і далей — словы з мазырскага дыялекту. — Заўвага аўт.)

2. Паліць у печы, варыць

3. Пограб

4. Спускай

5. Вольнапасяленцаў (распаўсюджаны жарганізм)

6. Пілавіння

7. Нацыяналіст (жарганізм)

8. Агледзела

9. Цёска  трэска

Падрыхтаванае на падставе: Андрэй Федарэнка, Нічые; Беларуская проза XXI стагоддзя. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009. — 430 с.

ISBN 978-985-02-1071-5

Аповесці "Нічые", "Вёска" і раман "Рэвізія", што складаюць чарговую кнігу лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа Андрэя Федарэнкі, яшчэ падчас часопісных публікацый атрымалі шырокі чытацкі розгалас, прычым ацэнкі былі неадназначныя, нават палярныя. Чытаюцца творы вельмі лёгка, яны насычаны дэтэктыўна-прыгодніцкімі элементамі, разам з тым аўтар прытрымліваецца строгай дакладнасці гістарычных фактаў.